Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 35 (4579)  3 верасня 2010 г.

## Удзельнікам і гасцям урачыстасцей Дня беларускага пісьменства

Паважаныя сябры!

Дзень беларускага пісьменства — традыцыйнае свята, якое акцэнтуе ўвагу на неабходнасці захавання і развіцця багатай культурнай спадчыны і духоўных здабыткаў нашага народа.

Літаратура, мастацтва заўсёды былі для беларусаў асаблівай каштоўнасцю, крыніцай гістарычнай памяці, надзейнай апорай у выхаванні патрыятызму і высокіх маральных якасцей грамадзян. Беларусь — радзіма многіх выдатных асветнікаў, дзеячаў культуры, пісьменнікаў сусветнага ўзроўню.

У нашай краіне клопат пра культуру, духоўнасць мае па-сапраўднаму дзяржаўны характар. Мы актыўна падтрымліваем развіццё нацыянальнага кнігавыдання і друку, ствараем усе ўмовы для праяўлення і росквіту сапраўдных талентаў.

Сёлетнія святочныя мерапрыемствы праводзяцца ў горадзе Хойнікі, на гасціннай, прыгожай і непаўторнай палескай зямлі, якую ў сваіх творах уславіў выдатны беларускі пісьменнік Іван Мележ, дзе жывуць і плённа працуюць шчырыя і руплівыя людзі.

Сардэчна віншую вас са святам, жадаю моцнага здароўя, поспехаў, творчага натхнення і аптымізму.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
Аляксандр ЛУКАШЭНКА

# 5 верасня, Хойнікі: Дзень беларускага пісьменства



*Фота Кастуся Дробава і Анатоля Клешчука
Калаж Віктара Калініна*

Мікола МЯТЛІЦКІ

## Роднае

Тут пад старымі таполямі
Мележа юныя крокі.
Пахнуць тут лесам і полем
Белыя ў небе аблокі.

Яснасць блакітнае вышы,
Сонца зіхотна палае.
Годна ўстаялі і выжылі
Ў ядзернай згубы на ўскраі.

Росна ўсміхнецца ваколле,
Голасна ўзбудзіцца ранак.
Тут пад старымі таполямі
Крокі красунь-хайнічанак.

Свет не завабіў рублямі,
Небнай спакусы маннаю.
Хлопцаў завуць — Васілямі,
А прыгажунь юных — Ганнамі.

Лёс непадзельна адзіны,
З шырамі памяці гойнымі.
Светлы ўскраек Радзімы,
Сэрцу адкрытыя Хойнікі.

23.08.2010

# Дзень беларускага пісьменства — на радзіме Івана Мележа



**Штогод, у першую нядзелю верасня, краіна адзначае нацыянальнае свята — Дзень беларускага пісьменства. Месцам правядзення гэтай значнай падзеі звычайна абіраюцца невялічкія гарадкі і райцэнтры з багатай культурнай спадчынай. Свята ўжо прымалі Полацк, Тураў, Навагрудак, Нясвіж, Орша, Пінск, Заслаў'е, Мсціслаў, Мір, Камянец, Паставы, Шклоў, Барысаў, Смаргонь. Сёлета Дзень беларускага пісьменства пройдзе 5 верасня ў горадзе Хойнікі.**

У рамках свята адбудзецца навукова-асветніцкая экспедыцыя "Дарога да святыняў" з Дабрадатным Агнём ад Труны Гасподняй. Яна пачалася ў Мінску і праходзіць праз святыя мясціны Міншчыны, Брэстчыны, Гомельшчыны. 5 верасня першай падзеяй святочнага дня стане Божая Літургія ў Саборы Праабражэння Гасподняга.

Адметнай падзеяй Дня беларускага пісьменства стане адкрыццё комплексу "Сядзібны дом" у гарадскім парку. Гэта архітэктурны помнік XIX — пачатку XX стагоддзяў, у якім разгорнецца экспазіцыя Хойніцкага краязнаўчага музея.

На Цэнтральнай плошчы горада будзе размешчана галоўная сцэна, дзе адбудзецца ўрачыстая цырымонія адкрыцця Дня беларускага пісьменства, а таксама шматлікія выступленні мастацкіх калектываў Гомельскай вобласці і вячэрні святочны канцэрт. На сцэне Летняга амфітэатра ў Гарадскім парку пройдзе цырымонія ўзнагароджання пераможцаў Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі" і Рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор у галіне паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі, дзіцячай літаратуры.

Пройдзе фестываль кнігі і прэсы, на якім будзе прадстаўлена экспазіцыя "Кнігі Беларусі", тэматычныя выставы, экспазіцыі прадпрыемстваў "Саюздрук", вядучых рэспубліканскіх перыядычных выданняў і "СМІ Гомельшчыны", прэзентацыі беларускіх выдавецтваў і новых кніг, сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі, выдаўцамі, журналістамі.

На працягу ўсяго дня адбудзецца шмат мерапрыемстваў: канцэрты, гульні на дзіцячай пляцоўцы ў парку, спартыўная праграма на гарадскім стадыёне, свята народнага мастацтва ў Горадзе майстроў, свята беларускага кіно ў кінатэатры "Юбілейны".

Першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч адзначыла:

— Вельмі добра, што Дзень беларускага пісьменства завітаў у такі багаты культурнай спадчынай гарадок, як Хойнікі. Менавіта ў гэтых мясцінах нарадзіўся пісьменнік Іван Мележ. Хойнікі былі абраныя сталіцай свята сямнаццатага Дня беларускага пісьменства з даручэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Гэты гарадок атрымае абноўленыя вуліцы, некалькі новых устаноў, напрыклад, "Сядзібны дом", "Дом абрадаў", скульптурную кампазіцыю паводле твораў Івана Мележа, прыгожы парк, абноўлены гістарычны палац ды шмат чаго іншага. Сёлета будзе надзвычай цікавая культурная праграма, а складальнікам сцэнарыя правядзення Дня беларускага пісьменства з'яўляецца пісьменнік Алесь Бадак.

У суботу ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбудзецца "круглы стол" "Літаратура як сродак міжкультурнага дыялогу", у якім прымуць удзел пісьменнікі з адзінаццаці краін.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч падчас прэс-канферэнцыі напярэдадні Дня беларускага пісьменства.

Фота Кастуся Дробава

# Сціплы і шчодры край

**У блізкай будучыні, а менавіта ў 2012 годзе, сталіца сёлетняга Дня беларускага пісьменства будзе адзначаць знамянальную дату — 500-годдзе з часу першай згадкі пра мястэчка Хойнікі. Пра традыцыі і слаўную гісторыю краю распавядае старшыня Хойніцкага раённага выканаўчага камітэта Аляксандр БІЧАН.**

— Аляксандр Васільевіч, з чым падыходзіце да 500-гадовага юбілею мястэчка і свята пісьменства?

— Перад святам горад расквітнеў, стаў яшчэ больш прыгожым і ўтульным. Хойнікшчына — па-свойму ўнікальная старонка беларускай зямлі. Шлях у пяць стагоддзяў быў насычаны і трагічнымі, і гераічнымі, і прыемнымі, дарагімі сэрцу падзеямі. Нашу зямлю спрабавалі і заваёўвалі, і былі гады станаўлення савецкай улады, затым — фашысцкай навалы, пасляваенная аднаўлення. Па зямлі сваімі халоднымі ботамі прайшоўся Чарнобыль, а якімі складанымі былі паслячарнобыльскія гады! Але жыццё не сціхае, людзі любяць свой край. І па выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця Хойніцкага раёна за першае паўгоддзе нам ёсць што сказаць: сёлета намі забяспечваецца станоўчая дынаміка ўсіх важнейшых паказчыкаў прагнозу.

Напэўна, і чытачам "ЛіМа" цікава будзе даведацца, што аб'ём вытворчасці ў раёне за гэты час вырас і склаў 119,1 працэнта; а вытворчасць спажывецкіх тавараў складае 116 працэнтаў. Між іншым, тэмп росту экспарту тавараў склаў амаль 182 працэнты ў параўнанні з мінулым годам. Гэта значыць, нашы тавары ацэненыя і на міжнародным рынку.

А галоўнае — уведзена ў эксплуатацыю 5095 кв. метраў жылля, у тым ліку пабудаваны 60-кватэрны дом для льготнай катэгорыі грамадзян. Дарэчы, у горадзе актыўна фарміруюцца жыллёва-будаўнічыя кааператывы… Для забеспячэння патрэб сельскага насельніцтва пачата будаўніцтва шостага ў раёне аграгарадка ў вёсцы Вялецін.

— У чым асаблівасць працы ў раёне, краявіды якога можна згадваць, чытаючы Івана Мележа?

— На гэтай непаўторнай зямлі адвеку жылі і жывуць такія ж прыгожыя душой і справамі людзі: шчодрыя і сціплыя, працавітыя і добрыя, таленавітыя і мужныя, людзі, якія ганарацца духоўнай спадчынай сваіх продкаў, якія шануюць, паважаюць і падтрымліваюць народныя культурныя традыцыі. З такімі лёгка працаваць, рабіць агульную справу — смела глядзець у будучыню. А літаратура адкрывае нам многія вядомыя і невядомыя старонкі. Мы даведваемся пра легенды, якія існавалі і забыліся, згадваем знаёмыя сцяжыны. Чытаць і пазнаваць у напісаным свой край, характары людзей, што жылі тут раней, ведаць, чым яны жылі, — гэта выключны спосаб не толькі заглыбіцца ў гісторыю, а і зразумець, хто мы ёсць цяпер.

— Распавядзіце пра сітуацыю са сферай культуры ў рэгіёне…

— Культура — гэта наша мінулае, сённяшняе і будучае. Сёння ў сетку культурна-асветніцкіх устаноў раёна ўваходзяць 26 бібліятэк, раённы Дом культуры, Гарадскі цэнтр культуры і спорту, раённы Дом рамёстваў, 22 сельскія дамы культуры і клубы, дзіцячыя школы мастацтваў, пяць музеяў. Між іншым, амаль у кожнай школе створаны этнаграфічныя музеі — мы беражом сваю спадчыну! І пра яе ведае маладое пакаленне.

Зразумела, што найбольш значная экспазіцыя па гісторыі і культуры раёна прадстаўлена ў раённым краязнаўчым музеі.

У вёсцы Глінішча адкрыты Дом-музей народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа. У Вялікаборскім доме культуры размешчаны музей беларускага празаіка Барыса Сачанкі.

У аграгарадку "Судкова" дзейнічае адзіны ў свеце музей "Трагедыя Чарнобыля".

На базе сярэдняй школы № 3 адкрыты "Музей Славы", прысвечаны памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Хойнікшчына багатая на таленты. Сярод іх — не толькі вучоныя, інжынеры, пісьменнікі, артысты ці знаныя працаўнікі сяла. Тут багатыя народныя традыцыі. Яны ёсць у кожнай вёсцы, мясцовыя жыхары з любоўю ставяцца да сваёй гісторыі і імкнуцца перадаць даўнія звычаі сваім нашчадкам.

Вялікую цікавасць выклікаюць традыцыйныя і добра вядомыя беларусам абрады "Купалле" і "Каляды". Але і незвычайна яркім, самабытным з'яўляецца абрад "Провады русалкі", які захаваўся ў вёсцы Вялікі Бор да нашых дзён. Цікавы існуючы ў вёсцы Стрэлічаў абрад "Уваходзіны ў новую хату". Мележаўская вёска Глінішча слаўная сваім непаўторным, "Глінішчанскім вяселлем".



Найбольш выбітным прадстаўніком народнай творчасці Хойнікшчыны з'яўляецца ансамбль народнай песні "Спадчына", які заслужана носіць званне "народны", з'яўляецца лаўрэатам Усесаюзнага агляду-конкурсу мастацкай самадзейнасці. І яшчэ адзін выдатны калектыў Хойнікшчыны — народны тэатр. За спектакль "Верачка" па п'есе А. Макаёнка калектыву прысвоена званне "народны".

На Хойнікшчыне надаюць асаблівую ўвагу музыцы. Школа мастацтваў настойліва і мэтанакіравана займаецца пошукам, навучаннем і выхаваннем таленавітых дзетак. Тут забяспечваюцца неабходныя ўмовы для фарміравання агульнай культуры і мастацкіх густаў дзяцей і моладзі, забяспечэння іх патрэб у дадатковай адукацыі.

Пры школе створаны дзіцячы ўзорны ансамбль "Верасок" і ансамбль народнай песні "Крыніца". Калектывы неаднаразова ўдзельнічалі ў абласных, рэспубліканскіх мерапрыемствах, а таксама ў міжнародных фестывалях у Германіі, Італіі.

— Візітоўкай вашага горада, напэўна, стане парк з палацам. Якая сітуацыя ўвогуле з гістарычнымі помнікамі?

— Так, адметнай падзеяй Дня беларускага пісьменства стане адкрыццё комплексу "Сядзібны дом" у гарадскім парку. І мы спадзяёмся, што сядзіба і гарадскі парк пасля рэканструкцыі стануць цэнтрам культурнага жыцця горада. Гэта архітэктурны помнік XIX — пачатку XX стагоддзяў у стылі неакласіцызму, у якім разгорнецца экспазіцыя Хойніцкага краязнаўчага музея. У сядзібе ў час свята пройдзе мастацкі пленэр "Хойнікшчына сучасная", на якім будуць прадстаўлены творы маладых мастакоў.

Яшчэ ў нас у вёсцы Барысаўшчына знаходзіцца архітэктурна-гістарычны комплекс XIX стагоддзя (маёнтак польскага пана Ястржэмбскага). Захаваны жылыя і гаспадарчыя пабудовы, памяшканне вежы-вінакурні і парк.

Ад маёнтка блізу вёскі Рудакоў захаваліся памяшканні з чырвонай цэглы пабудовы 1903 — 1905 гг. На кожнай цагліне — адбітак першай літары прозвішча Ваньковіч, уладальніка цагляннага завода і маёнтка. Захаваныя бруkaванкі.

Акрамя гісторыка-архітэктурных памяшканняў, на тэрыторыі раёна знаходзяцца каля 70 помнікаў, абеліскаў, брацкіх магіл, памятных знакаў.

— На падрыхтоўку і само свята раён асвоіў 60 мільярдаў беларускіх рублёў. Якія прыярытэты былі вызначаны галоўнымі пры размеркаванні сродкаў?

— Да свята рэканструяваны ў горадзе Хойнікі гасцініца, Дом абрадаў, гарадскі парк і гарадскі стадыён у парку, фізкультурна-аздараўленчы цэнтр, набыла сваё першачарговае аблічча сядзіба памешчыкаў Аўраамавых, туды перанесена экспазіцыя раённага краязнаўчага музея. Капітальна адрамантаваны раённы Дом культуры і памяшканне дзіцячай бібліятэкі. Новы, святочны выгляд набылі вуліцы Маркса, Калесніка, Савецкая, Паркавая, Калгасная, якія цалкам добраўпарадкаваны. Прайшлі праз рэканструкцыю шматлікія аб'екты гандлю, у тым ліку Гандлёвы цэнтр на плошчы Леніна.

— Сярод іншых устаноў, якія перажылі ў гэтыя дні свой рэнесанс, і раённы Дом культуры. Чым ён адметны? Ці з'яўляецца сапраўдным цэнтрам для баўлення жыхарамі вольнага часу?

— Многія гады раённы Дом культуры не працаваў, знаходзіўся на рамонце, і дзякуючы Дню пісьменства будзе ўведзены ў эксплуатацыю. Як і раней, тут будзе размяшчацца і працаваць народны тэатр, а ўдзельнікамі пастановак з'яўляюцца не толькі работнікі культуры, але і настаўнікі, работнікі прадпрыемстваў горада. Адкрыецца студыя гуказапісу, гурткі па розных кірунках. У перспектыве плануецца стварэнне хору. У аддзеле культуры райвыканкама ёсць неабходныя спецыялісты, якія ўмеюць і могуць далучыць да справы насельніцтва горада, ператварыўшы дом культуры ў сапраўдны цэнтр адпачынку.

Гутарыла
Ірына ТУЛУПАВА

# Парад падзей, сустрэч



Хойніцкая зямля падарыла беларускай літаратуры народнага пісьменніка Івана Мележа, празаіка Барыса Сачанку, паэта Міколу Мятліцкага, паэтэсу Алу Канапельку… На святкаванне XVII Дня беларускага пісьменства ў Хойніках таксама будзе шмат творцаў. Пра тое, як рыхтаваўся да свята Саюз пісьменнікаў Беларусі, распавёў яго старшыня Мікалай ЧАРГІНЕЦ:

— Рыхтавацца да Дня беларускага пісьменства мы пачалі сёлета ў лютым, калі адбылося першае пасяджэнне Нацыянальнага аргкамітэта па яго падрыхтоўцы. Узначаліў аргкамітэт намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімір Патупчык. У пасяджэннях прымалі ўдзел міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі, старшыня Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта Аляксандр Якабсон, прадстаўнікі іншых міністэрстваў і ведамстваў. Разглядаліся пытанні гатоўнасці горада да прыняцця свята, дапамогі Хойнікам.

Урачыстае адкрыццё свята плануецца правесці ў форме тэатралізаванай пастаноўкі. Яе асновай стануць творы народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа, а таксама іншых творцаў з нашага Палесся, надзіва багатага на таленты.

Асноўныя мерапрыемствы свята будуць адбывацца на цэнтральнай плошчы горада і ў гарадскім парку. Плошча стане цэнтрам выступленняў мастацкіх калектываў з Гомельскага раёна і ўсёй Беларусі. Пісьменніцкім цэнтрам будзе Летні амфітэатр у гарадскім парку. На яго сцэне адбудзецца ўзнагароджванне пераможцаў Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі". Таксама стануць вядомымі прозвішчы лаўрэатаў Рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор 2009 года ў намінацыях "паэзія", "проза", "драматургія", "літаратурная крытыка", "дзіцячая літаратура" і іншых. Ім плануецца ўручыць статуэткі "Залаты купідон", дыпломы і грашовыя прэміі.

— Ці змогуць наведвальнікі свята набыць кнігі пераможцаў?

— Безумоўна. У парку на працягу ўсяго дня будзе праходзіць фестываль кнігі і прэсы. Будзе працаваць экспазіцыя "Кнігі Беларусі". Адбудуцца прэзентацыі найбольш буйных беларускіх выдавецтваў і іх новых выданняў, сустрэчы з пісьменнікамі, супрацоўнікамі выдавецтваў і перыядычных выданняў.

Чытачы змогуць убачыць і асобныя кнігі з нашай 50-томнай "Бібліятэкі расійска-беларускай літаратуры". Кожны бок, як вядома, прадстаўляе па 25 кніг, у якія плануецца ўключыць усё лепшае, што зроблена ў беларускай літаратуры. Абавязкова будуць прадстаўлены нашы класікі: Колас, Купала, Быкаў, Мележ, Чыгрынаў, Сачанка… Вядома, аўтараў будзе яшчэ больш, чым кніг, бо некаторыя тамы стануць калектыўнымі. Наогул, пасля кожнага Дня пісьменства прадстаўленыя на ім кнігі актыўна набываюць бібліятэкі.

— Каго з беларускіх пісьменнікаў на свае вочы ўбачаць жыхары Хойнікаў?

— Плануецца ўдзел прадстаўнічай пісьменніцкай дэлегацыі. Па 10 чалавек ад абласных арганізацый і 30 чалавек ад Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Прыме ўдзел паэтэса Святлана Явар, дачка Барыса Сачанкі. Асаблівая ўвага будзе нададзена Гомельскай абласной арганізацыі, якой кіруе Уладзімір Гаўрыловіч. Амаль адначасова са Святам беларускага пісьменства ў Маскве будзе праходзіць XXIII Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, ганаровым госцем якой з'яўляецца Беларусь. Значыць, і ў Хойніках, і ў Маскве пабывае значная колькасць пісьменнікаў.

Плануюцца сустрэчы і з замежнымі гасцямі. Чакаюцца сябры з Балгарыі на чале са старшынёй Саюза пісьменнікаў Балгарыі Мікалаем Пецевым, а таксама пісьменнікі з Расіі, Літвы, Польшчы, Казахстана, Славакіі, Чарнагорыі, Сербіі і іншых краін. З іх удзелам плануецца правядзенне "круглага стала".

— Ці плануецца ў сувязі з гэтым сумесныя перакладчыцкія праекты? Відавочна, што намаганняў серыі "Скарбы сусветнай літаратуры" не хапае...

— Магчыма, у бліжэйшы час выйдзе кніга славутага пісьменніка Добрыцы Чосіча. Гэта, без перабольшвання, патрыярх сербскай літаратуры, у наступным годзе яму спаўняецца 90 гадоў. Яго творы перакладзеныя больш як на дваццаць моў свету, прычым, на французскую — усе. На пачатку 1990-х ён быў прэзідэнтам Югаславіі. Пра гэты час ім напісаны "Запіскі", якія мы плануем выдаць у перакладзе на рускую мову.

У нашай "Бібліятэцы Саюза пісьменнікаў Беларусі" ўжо выйшла кніга "Паміж мінулым і будучым" Петкі Ганчава, члена СПБ, балгарскага пісьменніка, былога пасла Балгарыі ў Беларусі. Яна раскрывае панараму жыцця Балгарыі з сярэдзіны 1940-х да 2005 года. Магчыма, пазней будуць выдадзены творы пісьменнікаў Аўстрыі, Турцыі, Германіі. Як бачна, нашы пісьменніцкія справы і клопаты выходзяць за ўнутрырэспубліканскі межы і пашыраюць далягляды...

Гутарыў Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Фота Кастуся Дробава



# Радасці і цеплыні!

Сардэчна вітаю чытачоў газеты "Літаратура і мастацтва" з Днём беларускага пісьменства!

Звычайна гэта свята праводзіцца ў гарадах ці мястэчках, якія з'яўляюцца знакавымі для Беларусі, у тым ліку для яе духоўнай, культурнай спадчыны.

Сёлета свята праходзіць на шматпакутнай Хойніцкай зямлі ў Гомельскай вобласці. Паўднёвыя раёны Беларусі прынялі на сябе першы і самы моцны ўдар атамнай стыхіі. Адзіны Гасподзь ведае, якія цяжкія выпрабаванні давялося перажыць мясцовым жыхарам. Ушанаванне Дня беларускага пісьменства ў Хойніках павінна стаць душэўным суцяшэннем тутэйшым людзям, засведчыць пра тое, што гэта зямля не забыта.

Дзень беларускага пісьменства — асобая падзея ў культурным жыцці Беларусі. Ён дае унікальную магчымасць сустрэцца з жывым літаратурным словам і з яго носьбітамі. Гэта значыць, што мы клапоцімся пра сваю спадчыну і гісторыю.

Зямля наша ўзрасціла знакамітых пісьменнікаў, друкароў, асветнікаў, памяць пра якіх мы закліканы берагчы. У першай чарзе сярод іх — духоўныя правадыры народа: прападобная Еўфрасіння Полацкая, свяціцель Кірыла Тураўскі, праведная Сафія Слуцкая, прападобная Іўліянія Гальшанская, прападобны Афанасій Брэсцкі, праведны Іаан Кармянскі ды многія іншыя падзвіжнікі і цудатворцы. Без гэтых імёнаў немагчыма ўявіць усю моц і прыгажосць духоўнага і культурнага багацця нашай Радзімы. З іх пачалася і імі доўжыцца наша культура, наша адукаванасць, наша дзяржаўнасць.

Няхай шырыцца геаграфія і поўніцца змест гэтага добрага свята. Жадаю ўсім яго ўдзельнікам радасці, душэўнай цеплыні і помачы Божай у служэнні Айчыне.

ФІЛАРЭТ, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі

## Вачыма сяброў

### Слабадан Вуканавіч, пісьменнік з Чарнагорыі:



— Дзень беларускага пісьменства — нацыянальнае свята Беларусі, такія сустрэчы вельмі карысныя як для беларусаў, так і для замежных гасцей. Беларусы не забываюцца на сваю культуру і гісторыю, і калі іншаземцы прыязджаюць, то даведваюцца пра яе. Вы — мост між народамі. Вельмі запамінальныя міжнародныя сустрэчы ў Гомелі, якія арганізуюцца Дзяржаўным універсітэтам імя Францішка Скарыны.

На працягу некалькіх гадоў я пішу ў газеты Чарнагорыі пра Дзень беларускага пісьменства. Мы падобныя, мы маем падобныя прозвішчы, назвы мястэчак і вёсак. Мы паходзім ад вялікіх славян, але мы мала ведаем адзін пра другога. Я захапляюся гераічным змаганнем партызан у час Другой сусветнай вайны. Гэта ваш гонар. Добра, што вы гэта памятаеце і паважаеце.

На працягу пяці гадоў я пяць разоў наведваў Беларусь. У сваёй папярэдняй кнізе "Дзяўчынка з галавою апельсіна" я змясціў тры вершы, напісаныя ў Мінску і Гомелі. Па маёй прапанове была апублікавана анталогія беларускай паэзіі, я перакладаў шмат твораў беларускіх аўтараў. Зборнік выбранага з маёй паэзіі хутка з'явіцца ў РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Запісала Алеся ЛАПІЦКАЯ

Фота Кастуся Дробава

# Творчыя перамогі



Вынікі Рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор года штотыднёвіку "ЛіМ" пракаменціраваў старшыня журы, намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігар ЛАПЦЁНАК. Паводле яго слоў, найбольш прадстаўнічай была намінацыя "Проза", куды пададзена 11 заявак. У трох найбольш традыцыйных намінацыях — "Паэзія", "Проза" і "Дзіцячая літаратура" вылучаны пераможцы на 1, 2 і 3 месцы. У астатніх тэматычных і жанравых кірунках вылучаны толькі першыя месцы. У намінацыі "Пераклады" месцаў сёлета не прысуджалі. У складзе камісіі — 11 чалавек, сярод іх — У. Гніламёдаў, М. Чаргінец, Г. Пашкоў, У. Карызна, В. Лукша, Г. Марчук, У. Ліпскі, А. Савіцкі ды іншыя. Да конкурсу спрычыненыя Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрства адукацыі Беларусі, таксама Мінскі гарвыканкам. І, бясспрэчна, Саюз пісьменнікаў Беларусі, які ініцыіраваў правядзенне творчага спаборніцтва.

Такім чынам, па выніках 2009 года журы пастанавіла прысудзіць:

У намінацыі "Проза":
І месца — Аляксандру САКАЛОВУ за кнігу "Полет над землей" (Мінск, выдавецтва "Четыре четверти";
ІІ месца — Анатолю КАЗЛОВУ за кнігу "Горад у нябёсах", (Мінск, РВУ "Літаратура і Мастацтва");
ІІІ месца — Леаніду ЛЕВАНОВІЧУ за кнігу "Палыновы вецер" (Мінск, РВУ "Літаратура і Мастацтва").

У намінацыі "Паэзія":
І месца — Рыгору САКАЛОЎСКАМУ за кнігу "Афганское эхо" (Мінск, РВУ "Літаратура і Мастацтва");
ІІ месца —Аляксандру ЖЫГУНОВУ за кнігу "Ля цяпельца зары" (Мінск, выдавецтва "Мастацкая літаратура");
ІІІ месца — Таццяне ЛЕЙЦЫ за кнігу "Ветра евразийские" (Мінск, выдавец Логвінаў).

У намінацыі "Дзіцячая літаратура":
І месца — Мікалаю ЧАРНЯЎСКАМУ за кнігу "Сонечны кошык" (Мінск, выдавецтва "Мастацкая літаратура");
ІІ месца — Генадзю АЎЛАСЕНКУ за кнігі "Вася Лайдачкін у краіне Шкодных Звычак" (Мінск, выдавецтва "Мастацкая літаратура" і "Удивительные приключения маленького ветерка из вентилятора" (Мінск, РВУ "Літаратура і Мастацтва");
ІІІ месца — Тамары КРАСНОВАЙ-ГУСАЧЭНЦЫ за кнігу "Где же солнышко ночует?" (Мінск, РВУ "Літаратура і Мастацтва");

У намінацыі "Літаратурная крытыка і літаратуразнаўства":
І месца — Анатолю МЯСНІКОВУ за кнігу "Сто асоб беларускай гісторыі" (Мінск, РВУ "Літаратура і Мастацтва");

У намінацыі "Публіцыстыка":
І месца — Васілю ШЫРКО за кнігі "Его хлебов держава" (Мінск, выдавецтва "Парадокс") і "Шуми, мой лес, шуми" (Мінск, выдавецтва "Парадокс").

У намінацыі "Сатыра і гумар":
І месца — Міхасю СЛІВЕ за кнігу "Віртуальнае каханне" (Мінск, РВУ "Літаратура і Мастацтва").

У намінацыі "Драматургія":
І месца — Ірыне МАСЛЯНІЦЫНАЙ за п'есу "Крыж Еўфрасінні Полацкай" (п'еса пастаўлена ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа, г. Віцебск).

У намінацыі "Песенны жанр":
І месца — Людміле КЕБІЧ за цыкл песень "Словы прызнання".

Запісала Ірына ТУЛУПАВА

Фота Кастуся Дробава

# Дарога, неабходная ўсім

Для простых людзей, хто пра Дзень беларускага пісьменства ведае па тым, як святы крочыць па краіне, вельмі кранальнымі, эмацыянальна-насычанымі становяцца сустрэчы з удзельнікамі навукова-асветніцкай экспедыцыі "Дарога да святыняў" з Дабрадатным Агнём ад Труны Гасподняй.

Экспедыцыя — арганічная частка Дня беларускага пісьменства. З яе фактычна і пачынаюцца мерапрыемствы, сутнасць якіх — увага да нашай гісторыі, спадчыны, мовы і культуры. Доўжыцца экспедыцыя пяць дзён і стартуе першага верасня ад Свята-Духава кафедральнага сабора ў Мінску. Сёлетні маршрут пройдзе па тэрыторыях Брэсцкай, Мінскай і Гомельскай абласцей.

Нідзе такога шэсця з Дабрадатным Агнём ад Труны Гасподняй з удзелам прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, якое паўтараецца з году ў год, няма. За семнаццаць гадоў удзельнікамі экспедыцыі пройдзены агромністы шлях па Беларусі, яны наведалі каля 500 мірскіх аўдыторый і каля 500 капліц, манастыроў, храмаў, дзе адбываліся набажэнствы. Сто кіламетраў супольнага шляху да храмаў пад эгідай экспедыцыі за ўвесь гэты час прайшлі больш як 2,5 мільёна ўдзельнікаў. А ў самой экспедыцыі ўдзельнічалі 230 чалавек.



Падчас "Дарогі да святыняў", якая праходзіць праз нашы старажытныя гарады, адбываюцца ўрокі беларускага пісьменства, і традыцыйна ўжо на памяць аб сустрэчах садзяцца адмысловыя Сады малітвы. Так, былі пасаджаны дрэвы ў Старобіне, у Салігорску. У Лельчыцах таксама растуць 12 дубочкаў. А на Замкавай гары ў Мазыры — 12 лістоўніц. Пасадзілі Сад малітвы і ў мінулай сталіцы свята Беларускага пісьменства — Смаргоні.

"Сёння слова вельмі ўплывовае, — распавядае кіраўніца і духоўны натхняльнік навукова-асветніцкай экспедыцыі "Дарога да святыняў" пісьменніца Ніна Загорская. — Мы праводзім урокі беларускага пісьменства ў рознаўзроўневых школах. І трэба бачыць, як падлеткі, будучыня наша, слухаюць тое, пра што ім кажуць творцы, навукоўцы. Шмат мерапрыемстваў сёлета запланавана правесці на Святым Полі каля вёскі Загор'е Сталавіцкага сельсавета Баранавіцкага раёна. Паблізу — некалькі школ: Сталавіцкая, Каўпеніцкая, Крашынская імя Паўлюка Багрыма — і паўсюль людзі слухаюць. Запланаваны малебны і сустрэчы з насельніцтвам каля трох крыжоў: Крыжа памяці Першай сусветнай вайны ў былым маёнтку Міхалова, Крыжа памяці загінуўшым воінам Паўночнай вайны (1707), і ёсць яшчэ Крыж памяці, устаноўлены над перазахаванымі астанкамі міран. Слова пастаянных удзельнікаў экспедыцыі — Марыі Захарэвіч, Івана Чароты, Сцяпана Лаўшука, Пятра Лысенкі, Вадзіма Спрынчана — вельмі важнае і блізкае. І мы абавязкова трымаемся беларускага слова. Сёлета ад праваслаўнай царквы захавальнікамі Дабрадатнага Агню блаславлёныя протаіэрэй Сергій Гардун і айцец Сергій Арлоў. Сергій Гардун прапаведзі гаворыць толькі на беларускай мове. Знакава, што падчас шляху мы наведваем і сацыяльныя ўстановы, дамы сірот".

У мерапрыемствах на Святым Полі будуць удзельнічаць вучні і настаўнікі Баранавіцкіх школ, супрацоўнікі Баранавіцкага краязнаўчага музея. Шмат чакаецца расказаў пра гісторыю. Сёлета адным з удзельнікаў экспедыцыі з'яўляецца госць з Масквы Уладзімір Ягораў, які ўзначальвае таварыства "Звон Чарнобыля".

Урокі беларускага пісьменства пройдуць у Вальнянскай, Гарадзішчанскай і Стайкаўскай сярэдніх школах Баранавіцкага раёна. Акрамя таго, у шматлікіх раённых цэнтрах пройдуць майстар-класы заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Генадзя Забары. Ён будзе ў Лоеве, Петрыкаве, у Нароўлі.

Паўсюдна запланавана асвячэнне помнікаў героям Вялікай Айчыннай вайны. А ў канчатковым прыпынку экспедыцыі — сталіцы сёлетняга свята горадзе Хойнікі з удзельнікамі экспедыцыі можна будзе сустрэцца ў Свята-Пакроўскім манастыры, дзе адбудуцца богаслужэнні, і на ўсіх пляцоўках, дзе разгорнуцца асноўныя падзеі. Будзе пасаджаны і Сад малітвы.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: экспедыцыя "Дарога да святыняў" крочыць па Беларусі.

Фота з архіва аўтара

# Вітаем сяброў у Хойніках!

Напярэдадні Дня беларускага пісьменства, мы вырашылі пацікавіцца з якімі набыткамі прыйшлі да яго літаратары Гомельшчыны. Таму запрасілі да размовы старшыню Гомельскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі", празаіка і публіцыста Уладзіміра Гаўрыловіча.

Уладзімір Гаўрыловіч — празаік, публіцыст. У снежні 2005 года выбраны старшынёй Гомельскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі". Пераможца рэспубліканскага літаратурнага конкурсу на лепшы твор у галіне прозы за кнігу "Плата за каханне" (Мінск, "Мастацкая літаратура", 2007 год) — узнагароджаны статуэткай "Залаты Купідон". Лаўрэат расійскай літаратурнай прэміі імя Мікалая Мельнікава (2009, Масква). Пісьменнік пільна ўглядаецца ў з'явы рэчаіснасці, даследуе паводзіны чалавека ў канкрэтных жыццёвых сітуацыях. Яго герой — часцей за ўсё просты чалавек, асоба, якая годна нясе ў сабе рысы беларускага характару. Піша раманы, аповесці, апавяданні. Спрабуе сябе ў драматургіі.



— Уладзімір Мікалаевіч, раскажыце, калі ласка, чым адметны для Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі бягучы год?

— Бягучы год (а ў нашых радах 41 творца) адметны шэрагам творчых акцый, прэзентацый, юбілейных і святочных літаратурных вечарын. Адных сустрэч з чытачамі за восем месяцаў наладжана аж 590!

Сярод самых адметных акцый — абласны дзіцячы конкурс чытальнікаў, прысвечаны 65-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і Святу беларускага пісьменства ў г. Хойнікі. Каля дзевяцісот пяцідзесяці вучняў агульнаадукацыйных школ, гімназій і ліцэяў дэкламавалі на раённых і абласной сцэнах мастацкія творы, створаныя пісьменнікамі-землякамі і прысвечаныя подзвігу беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, а таксама роднаму краю, мове, духоўнаму багаццю рэгіёна. Конкурс ператварыўся ў самае сапраўднае свята Слова! Да таго ж юныя чытальнікі мелі магчымасць сустрэцца з многімі аўтарамі твораў, атрымаць ад іх у якасці падарункаў новыя кнігі з аўтографамі.

— Нельга не пагадзіцца, што 65-годдзе Вялікай Перамогі сапраўды святая дата для ўсіх нас. Наколькі мне вядома, у вашага аддзялення склаліся цудоўныя партнёрскія сувязі з ветэранамі, з педагагічнымі калектывамі ўстаноў?

— У мінулым годзе пісьменнікі і ветэраны аб'ядналіся, каб правесці разам творчы конкурс маладых літаратараў, прысвечаны 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Конкурс выявіў шмат здольных малодых людзей, якія спрабуюць пісаць пра подзвіг савецкага салдата ў гады Вялікай Айчыннай. Да Свята Перамогі, па ініцыятыве абласной ветэранскай арганізацыі, складзена кніга твораў удзельнікаў геraічных баёў за вызваленне роднай зямлі ад ненавіснага ворага, і творчая арганізацыя аказала практычную дапамогу ў гэтым старэйшым калегам.

Асабіста мне было цікава зноўку сустрэцца з героем свайго нарыса "Вышыня Георгія Дзенісенкі", што быў надрукаваны нядаўна ў часопісе "Полымя". Вядомы лётчык пазнаёміў мяне з дакументамі-фотаздымкамі, якія распавядаюць пра цікавыя моманты з яго біяграфіі. Напрыклад, пра тое, што Дзенісенка вучыў лётнай справе першага касманаўта Савецкага Саюза Юрыя Гагарына. Біяграфія Дзенісенкі вартая кнігі…

— Ведаю, што пісьменнікі Гомельшчыны выкарыстоўваюць нязвыклыя падыходы, каб садзейнічаць выхаванню патрыятычных пачуццяў у маладога пакалення…

— Так, напярэдадні 65-годдзя Вялікай Перамогі творцы нашай пісьменніцкай арганізацыі падрыхтавалі аўтарскі літаратурны спектакль "Памяць сэрца". Асноўная мэта праекта — данесці да моладзі, якія беды і пакуты прынесла народу Вялікая Айчынная вайна. Аўтары спектакля — педагогі, паэты Ніна Шклярава, Алег Ананнеў, Святаслаў Крупенька — наладзілі нестандартны ўрок-спектакль у многіх навучальных установах абласнога цэнтра…

— Як пісьменнікі Гомельшчыны рыхтуюцца адзначаць Дзень беларускага пісьменства?

— Тэма 65-годдзя Перамогі і чаканне Дня беларускага пісьменства знайшлі сваё спалучэнне ў многіх нашых пачынаннях. Возьмем, напрыклад, пяты выпуск альманаха "Літаратурная Гомельшчына". Ён паяднаў пад адной вокладкай паэтаў і празаікаў, для якіх абедзве падзеі сапраўды знакавыя. Мабыць таму многія з аўтараў гэтай складанкі прысвяцілі свае новыя творы падзеям і героям мінулай вайны. Многія звярнуліся да тэмы роднага краю, культуры, мовы. Для некага ж тэмы велічы кахання і духоўнай моцы бачацца вельмі важнымі і неаспрэчнымі.

Сёлетні выпуск пятага па ліку альманаха "Літаратурная Гомельшчына", шчыра кажучы, унікальны. Прыцягальны ён тым, што выйдзе з друку ў пяці невялікіх — па памеры асобніках. Гэта — непасрэдна сам альманах, дзе прадстаўлены новыя творы шматлікіх гомельскіх пісьменнікаў, і чатыры дадаткі да яго, у якіх прадстаўлены больш шырока творы ўжо вядомых аўтараў: сатырыка і гумарыста Віктара Лоўгача, дзіцячага аўтара Яўгена Калашнікава, цікавага гомельскага паэта Ігара Журбіна, які, на жаль, маладым нядаўна пайшоў з жыцця. У рамках бібліятэкі выйдзе з друку і паэма расійскага паэта Мікалая Мельнікава "Рускі крыж" на трох мовах — беларускай (пераклала Ніна Шклярава) і ўкраінскай (пераклала Алена Мацвіенка). Ажыццявілі такое выданне мы невыпадкова: у нас вельмі трывалыя сувязі з бранскімі, курскімі калегамі па пяры, тры гомельскія пісьменнікі адзначаны расійскай літаратурнай прэміяй імя Мікалая Мельнікава. Праект, адзначу, ішоў нялёгка, але няма такіх нязздзейсненых планаў, якія нельга ажыццявіць, калі ёсць неабьякавыя да мастацкага слова людзі.

— А яшчэ якія кніжныя навінкі будуць прадстаўлены на свяце?

— Галоўнае — гэта тры зборнікі навукова-папулярных артыкулаў, у якіх аналізуецца творчасць пісьменнікаў, што нарадзіліся ў раёнах, якія прымыкаюць да галоўных рэк Гомельшчыны: Дняпра, Прыпяці і Сожа з іхнімі прытокамі. Па заказе Гомельскага абласнога аддзялення СПБ такую складаную працу ажыццявіла кафедра беларускай літаратуры Гомельскага ўніверсітэта на чале з прафесарам І. Штэйнерам.

— У вашым аддзяленні быў вопыт стварэння своеасаблівай школы маладога літаратара…

— На дабрачынных пачынаннях справу ўзначаліла паэтэса Ніна Шклярава. Аднак ні памяшкання, ні фінансавых магчымасцей у нас не было. Таму вось ужо другі год школа працуе як гуртое на базе Гомельскага абласнога Палаца творчасці "Юнацтва". Працуе паспяхова. Дзякуючы фінансавай дапамозе прыватнай структуры "Гомелькатласервіс, дзе дырэктарам працуе наш паэт Іван Бісеў, маладыя аўтары Іна Спасібіна, Дар'я Дарошка, Уладзімір Чараухін атрымалі свае першыя зборнікі, якія выйшлі сёлета з друку ў сталічным выдавецтве "Кнігазбор".

— Вы адзначалі, што ў аддзялення завязаліся трывалыя сувязі з калегамі прыгранічных абласцей?

— Так. У апошнія два гады мы арганізавалі сумесныя літаратурныя семінары ў г. Ноўгарад-Северскі і ў старажытным Трубчэўску. Мы нават заснавалі літаратурную прэмію імя Кірылы Тураўскага. Ёю былі ўзнагароджаны расійскі празаік і паэт Сцяпан Кузькін, пісьменнік і вучоны з беларускімі каранямі Якаў Сакалоў. А ў 2009 годзе па даручэнні заснавальнікаў прэміі Дыплом уладальніка прэміі Кірылы Тураўскага атрымаў галоўны рэдактар міжнароднага альманаха "Міжрэчча", паэт з Глухава, Анатоль Міроненка. Чарговая прэмія будзе ўручана падчас правядзення ўрачыстасцей на свяце беларускага пісьменства ў Хойніках.

— Мабыць, гомельскія аўтары спецыяльна падрыхтавалі да свята свае выданні?

— Так. Пісьменнікі будуць прэзентаваць свае новыя кнігі. Напрыклад, цікавую кнігу выдалі паэт Алег Ананьеў і пачынаючая паэтэса Анастасія Дзяцінкіна "Вясёлка на белых крылах". У складанцы ідзе шчырая размова аб Айчыне, роднай зямлі, юнацтве, успрыманне моладдзю свету і сябе ў ім…

У мяне ж павінна выйсці новая кніга, у якой сабрана лепшае з напісанай мастацкай прозы за апошнія чвэрць стагоддзя.

Гутарыў Дзяніс ІВАНОЎ

Фота Кастуся Дробава

# Духоўныя даляглядЫ Гомельшчыны

**Выйшаў у свет чарговы, восьмы, нумар часопіса "Полымя", які прысвечаны духоўным даляглядам Гомельшчыны. Пра змест гэтага тэматычнага нумара распавядае галоўны рэдактар часопіса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы, ураджэнец Хойнiччыны Мікола МЯТЛІЦКІ.**

Нумар адкрывае ўступны артыкул старшыні абласнога выканаўчага камітэта Аляксандра Якабсона. Гэта жывы экскурс і ў гісторыю Гомельшчыны, і ў тыя ўжо вырашаныя праблемы, аб чым сведчаць адкрытыя тут шматлікія музеі, адноўленыя рамёствы і сам культурны лад жыцця: праводзяцца фестывалі народнай творчасці, не забываецца фальклор, выдаюцца кнігі, ствараюцца новыя музеі. У тым ліку Літаратурны музей Гомельшчыны, які будзе размешчаны ў абласным цэнтры. Думаю, што само свята Дзень беларускага пісьменства і само напружанае духоўнае жыццё Гомельшчыны будуць у цэнтры ўвагі нашых суайчыннікаў і ўсіх тых, хто пажадае наведаць Гомельшчыну. І ў гэты дзень, і потым яны будуць ведаць дзе і з чым іх чакаюць.

У сваім уступным артыкуле Аляксандр Серафімавіч зазначае: "Культура аказвае асаблівы ўплыў на станаўленне дзяржаўнасці. Яе высокі ўзровень — залог фарміравання паспяховага жыццёвага асяроддзя нацыі. Без апоры на высокую культуру мы не зможам выхаваць грамадзяніна-патрыёта, руплівага працаўніка, клапатлівага сем'яніна, творчую і духоўна багатую асобу. Духоўнасць — гэта найвышэйшая патрэба, непарыўна звязаная з культурай у яе самым шырокім сэнсе.

Можна шмат расказваць пра Гомельшчыну, але лепш пабываць на нашай слаўнай зямлі і ўбачыць усё сваімі вачыма. Гасцям мы заўсёды рады."

Гэта шчырае запрашэнне на Гомельшчыну чалавека, які клапоціцца не толькі пра эканамічны статус свайго рэгіёна, але і пра яго духоўнае здароўе.



## Мележавы шляхі

Нумар цалкам прысвечаны літаратурнаму жыццю Гомельскай вобласці. Не маглі абысці ўвагай творчасць народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа. Бо ў Хойніках — пачатак ягоных і жыццёвай, і творчай дарог. Тут ён у 1938 годзе скончыў 2-ю Хойніцкую школу. Адсюль стартаваў у вялікае жыццё, падаўся ў далёкую Маскву, паступіў у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры. Але цэлы 1939 год працаваў інструктарам райкама камсамола, і гэты перыяд, можна сказаць, сама пачаткова значны ў творчасці Івана Мележа. Бо тут пісаліся першыя вершы, якія пасля друкаваліся на старонках раённай газеты "Ленінскі сцяг". Пісьменнік часта згадваў дні свайго нялёгкага перадваеннага юнацтва. І прайшоўшы ўжо сцежкамі вайны, паранены пад Растовам, потым у 1944-м, калі была вызвалена Беларусь, вяртаецца на сваю спаленую вайной Радзіму, якая становіцца дамінуючай і тэматычна, і эстэтычна ў далейшай творчасці Івана Мележа. Менавіта на матэрыяле роднага краю, на тым, што запала ў сэрца з юных дзён, Мележам створаны шэраг твораў, пачынаючы з аповесці "Гарачы жнівень" і заканчваючы яго знакамітай "Палескай хронікай", у якую ўвайшлі раманы "Людзі на балоце", "Подых навальніцы" і "Завеі, снежань". Гэтыя раманы асабліва дарагія землякам Івана Мележа. Бо многія ведалі і тыя рэаліі жыцця, якія пакладзены ў аснову рамана "Людзі на балоце" і кантактавалі з самім пісьменнікам, які часта прыязджаў на радзіму за маральнай і духоўнай падтрымкай. Ён вывяраў сваю творчасць на сваіх земляках. Мележа вельмі цешыла тое, што яго хроніка так вітаецца на роднай зямлі, у вёсцы Глінішча. Свята прыйдзе і сюды. Ведаю, з якой любоўю, з якім захапленнем землякі Івана Мележа сустрэнуць нашых сучасных пісьменнікаў, тых, хто працягвае яго вялікую справу, хто гаворыць з народам на мове сумлення і чалавечай годнасці.

Змясцілі грунтоўнае даследаванне вядомага крытыка Серафіма Андраюка "Зямля Івана Мележа" пра "Палескую хроніку". Гэта цана праўды, цана таго вартаснага, што ёсць у нашай літаратуры. І вось зямля Мележа вырасціла новыя пакаленні нашых суайчыннікаў. Яна чуе голас ужо новай песні, але памятае і тое, што яна ўвекавечаная вялікай славай свайго слыннага сына. Пра гэта Серафім Андраюк гаворыць шчыра, пранікнёна. Ён сам бываў у вёсцы Глінішча, сустракаўся з землякамі пісьменніка. Гаворыць з вялікай трывогай, што землякі Івана Мележа сёння жывуць у цені самай вялікай тэхнагеннай катастрофы XX стагоддзя — Чарнобыльскай трагедыі. Яны выстаялі на ўзбоччы гэтай бяды, як не раз выстойвалі ў гады ліхалеццяў. Хапіла мужнасці і духу, каб выжыць і працягваць працаваць на гэтай зямлі. Я думаю, што Дзень беларускага пісьменства — яшчэ адна магчымасць глінішчанцам прывітаць усю Беларусь, якая улюбёная ў гэтую сціплую палескую вёсачку, адкуль выйшаў сын Беларусі Іван Паўлавіч Мележ. Тыя, хто ведае яго творчасць, ведаюць і тое, што такія вёскі як Алексічы, Каранеўка, Ізбынь, Юравічы з невялікімі зменамі сваіх назваў увайшлі ў раманы Мележа, як і самі характары герояў "Палескай хронікі". Тут ёсць і Зайчыкі, і Глушакі, і Чарнушкі... Гэтыя прозвішчы не прыдуманыя. Лічу, што творчасць Івана Мележа стане галоўнай візітоўкай свята. Таму мы ў восьмым нумары часопіса "Полымя" надалі ёй належную ўвагу.

Не маглі абмінуць і творчасць народных пісьменнікаў Беларусі Івана Шамякіна, Андрэя Макаёнка і Івана Навуменкі, якімі па праве ганарыцца Гомельшчына. Бо чатыры народныя пісьменнікі выйшлі ў свет, менавіта тут маючы свае родавыя гнёзды.

Глыбокае па змесце літаратуразнаўчае эсэ пад назвай "На творчай арбіце Андрэя Макаёнка" напісаў наш слынны даследчык драматургіі Сцяпан Лаўшук. П'есы Андрэя Макаёнка выклікалі вялікі грамадскі рэзананс і глядацкую цікаўнасць. Шкада, што сённяшні тэатр не часта звяртаецца да творчасці гэтага вядомага драматурга. І "Зацюканы апостал", і "Пагарэльцы", і "Трыбунал" маглі б з поспехам быць пастаўленыя і сёння.

У нумары ярка прадстаўленая яшчэ нідзе не друкаваная аповесць Івана Шамякіна, якую мы назвалі "Грузінская аповесць". Твор напісаны ў 1946 годзе на радаснай хвалі Вялікай Перамогі яшчэ маладым пачынаючым аўтарам. Але ён напісаны з такім паюначы прасветленым пачуццём захаплення перамогай і яе вынікамі, адкрыццём далёкай Грузіі, вяртаннем героя на апаленую вайной Радзіму, бо тут яго месца, тут яго чакае будучыня. Не толькі землякі-гамяльчане, але і ўсе беларусы змогуць прачытаць гэту таленавітую аповесць пачаткоўца Шамякіна, яшчэ раз пераканаўшыся, што вялікі талент і на пачатку дарогі заўсёды значны.

Прадставілі і літаратараў самой Гомельшчыны. Надрукавалі апавяданні Міхася Даніленкі, Тамары Купрэвіч, Васіля Ткачова, Валянціны Кадзетавай, а таксама выхадцаў з Гомельшчыны. Наталля Касцючэнка прадстаўляе тры эсэ. Гэтыя хвалюючыя старонкі, прысвечаныя жыццю пасля Чарнобыля і пра канкрэтных людзей, якія выстаялі пад навалай катастрофы, закрануць многіх, бо напісаныя душэўна і шчыра.

Паэтычны блок нумара прадстаўляем "Гомельскім сшыткам" — вершамі паэтаў Гомельшчыны — куды ўваходзяць творы Ніны Шкляравай, Генадзя Говара, Алеся Дуброўскага, Міхася Болсуна, Святаслава Крупенькі, Алены Мацвіенкі, Міколы Старчанкі, Міколы Ждановіча, Уладзіміра Шпадарука, Алеся Бараноўскага, Уладзіміра Чараухіна. Яны — салаўі свайго краю, і каму ж, як не ім, голасна заяўляць у гэтым нумары пра сваю Радзіму.

Таксама прадстаўлена паэтычная творчасць лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міхася Башлакова, які па даце прысуджэння прэміі з'яўляецца апошнім яе ўладальнікам. І нам вельмі прыемна, што ён гомельскі і па нараджэнні, і па сваёй творчасці. Гэта знакавая падзея для ўсёй нашай літаратуры, у тым ліку і гомельскай. Бо вершы Міхася Башлакова якраз з тых палескіх сцяжын. З вялікім задавальненнем, парадаваўшыся за літаратурныя поспехі свайго земляка, іх прачытаюць і ў Гомелі, і ў Хойніках...

У нумары друкуецца вянок санетаў Ізяслава Катлярова, які жыве і працуе ў Светлагорску, у перакладзе Соф'і Шах. Ізяслаў Катляроў адзін з майстроў слова, які вядомы не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Багата нашай паэзіі ён таленавіта перакладае на рускую мову.

## Імёны Палесся

Літаратурная карта Гомельшчыны сёння ўяўляе для часопіса "Полымя" вялікую цікавасць, бо нашы аўтары жывуць не толькі ў абласным цэнтры, але і ў раённых цэнтрах і ў вёсках. Пра іх расказвае Іван Штэйнер у сваіх нататках "Натхнёнага слова вытокі". Гэта Іван Азёмша, Ізяслаў Катляроў, Соф'я Шах, Ніна Шклярава, Уладзімір Гаўрыловіч і іншыя.

Даўно ўжо не згадвалася імя незабыўнага Андрэя Рыгоравіча Макаёнка, які зрабіў значны ўнёсак у айчынную драматургію. Як камедыёграф, Андрэй Макаёнак быў вядомы далёка за межамі Беларусі. Артыкул пра яго творчасць напісаў вядомы літаратуразнаўца Сцяпан Лаўшук.

Зразумела ж, многае мы гаворым і пра саму Хойнiччыну, якая багатая на літаратурныя таленты. Тут нарадзіліся Барыс Сачанка, Алесь Шлег, Змітро Бяспалы, Барыс Пятровіч, Ала Канапелька.

Барыса Іванавіча Сачанку ўспамінаюць яго сябры Янка Сіпакоў і Зіновій Прыгодзіч у цікавай гутарцы-дыялогу. Пра Анатоля Грачанікава напісала хвалюючае эсэ Тамара Кручэнка пад назвай "Шарпілаўка цячэ ў жыццё, як Сож".

Улічваючы, што цэлы нумар прысвечаны літаратуры Гомельшчыны, нам хацелася б пашырыць гэтыя далягляды. Таму вельмі харошым дадаткам да літаратуразнаўчых матэрыялаў будуць і матэрыялы краязнаўчыя. Мы літаральна анансуем усе трыццаць музеяў Гомельшчыны, спадзеючыся, што гэтя звесткі зацікавяць многіх нашых суайчыннікаў, хто любіць вандраваць па Беларусі і ў свой час апынецца на Гомельшчыне, ужо ведаючы, якія музеі можна наведаць у розных населеных пунктах. Гэта і Гомельскі палацава-паркавы ансамбль, і Брагінскі гістарычны музей, і музей "Трагедыя Чарнобыля"... Чытачы змогуць пазнаёміцца не толькі з назвамі ўсіх музеяў і анатацыямі іх дзейнасці, але і з іх адрасамі.

Пра гісторыю Хойнікшчыны, пра яе літаратурныя імёны таксама апавядаецца ў краязнаўчым нарысе "Цяпло буслінага крыла". Для мяне асабіста гэтыя старонкі вельмі хвалюючыя, бо гэта мая малая радзіма, той край, дзе пачыналася мая літаратурная дарога, і іх я пісаў з вялікай удзячнасцю роднай зямлі за падтрымку першых літаратурных крокаў. Я ўпэўнены, што Дзень беларускага пісьменства годна і голасна пройдзе ў Хойніцкім раёне, краі, які знакаміты творчасцю многіх нашых пісьменнікаў. Дзе і сёння клапоцяцца пра духоўнае развіццё і, думаю, гэта надасць новыя творчыя сілы многім нашым пісьменнікам і ўдзельнікам гэтага свята.

Запісаў
Рагнед МАЛАХОЎСКІ

Фота Кастуся Дробава

Скарбы

## Нацыянальная святыня

Слуцкае Евангелле — унікальны рукапісны помнік XVI стагоддзя. Гэта адна з найвялікшых святынь Беларусі, якая па праве лічыцца сімвалам духоўнага адраджэння, як і Крыж Еўфрасінні Полацкай. У час Вялікай Айчыннай вайны Евангелле было страчана, а ў пачатку 1990-х яно было цудам знойдзена. У 2009 годзе выдавецтва Беларускага Экзархата ажыццявіла факсімільнае выданне Слуцкага Евангелля.

Перапісанае ў 1581 годзе князем Юрыем Алелькавічам, сваяком Софіі Слуцкай, рукапіс захоўваўся ў Слуцкім Свята-Троіцкім мужчынскім манастыры. Пасля рэвалюцыі 1917 года Евангелле трапіла спачатку ў Мінск, а пазней у Магілёў. У час Вялікай Айчыннай вайны рукапіс разам з іншымі каштоўнасцямі быў вывезены з Беларусі і знік. У 2003 годзе, на X Мінскіх епархіяльных чытаннях Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт прадаставіў вернутае Беларусі Слуцкае Евангелле.

Факсімільнае выданне Слуцкага Евангелля не мае аналагаў у Беларусі. Варта звярнуць увагу на высакаякасную апрацоўку старонак: застаўкі, пачатковыя літары і загалоўкі выкананы традыцыйным геаметрычным арнаментам з выкарыстаннем кінавары і золата. Фаліянт складаецца з 256 старонак памерам 40 на 25 см. Тэкст напісаны царкоўнаславянскай мовай у дзве калонкі па дваццаць радкоў.

## Летапіс беларускіх кніг

Гісторыя нацыянальнай культуры, карані духоўнасці грамадства, асветніцкая дзейнасць на беларускіх землях непарыўна звязаны з кнігавыданнем і распаўсюджваннем кнігі. А што мы ведаем пра тое, як выглядалі першыя рукапісныя і друкаваныя кнігі і як яны змянялі сваё аблічча на працягу стагоддзяў? Гэтаму прысвечана выданне "Гісторыя беларускай кнігі", якое пабачыла свет у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі".

Двухтомнік "Гісторыя беларускай кнігі" ахоплівае перыяд ад з'яўлення першых рукапісных кніг на тэрыторыі Беларусі і да канца XX стагоддзя. Першы том "Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага", аўтарам якога з'яўляецца Мікола Нікалаеў, — пра кнігі ВКЛ за ўвесь перыяд існавання гэтай дзяржавы, у склад якой беларускія землі ўваходзілі на працягу амаль пяці стагоддзяў.

Кніга складаецца з трох частак. Першая — "Спадчына Кіеўскай Русі (XIII — XV стагоддзі)". У другой частцы — "Уздым і крах літоўскай культуры (1501 — 1648 гады)" — гаворка ідзе пра стварэнне ў ВКЛ уласнай рукапіснай, а потым друкаванай кніжнасці — спачатку на беларускай, а потым на польскай, лацінскай і літоўскай мовах. Разглядаецца дзейнасць першых кірылічных друкарняў — Францыска Скарыны і Мамонічаў у Вільні, Сымона Буднага ў Нясвіжы і іншых, а таксама друкарняў, якія спецыялізаваліся на выпуску польскіх і лацінскіх кніг: Радзівілаў у Брэсце, Яна Карцана ў Вільні, Пятра Бластуса Кміты ў Любчы. Трэцяя, апошняя частка кнігі "Культурная перыферыя Рэчы Паспалітай (1648 — 1795)" прысвечана пераемнасці і традыцыям кнігадрукавання, кнігазборам і манастырскім бібліятэкам, майстрам пераплётных спраў.

Уладзімір ПАДАЛЯК

# Партрэты вялікага роду



Увагу ўдзельнікаў і гасцей святочных мерапрыемстваў Дня беларускага пісьменства, безумоўна, прыцягне адметная кніга “Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII—XIX ст.”, выдадзеная ў выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі” ў серыі “Энцыклапедыя рарытэтаў”. Кніга — навуковае даследаванне ўнікальнага “Альбома фамільных партрэтаў князёў Радзівілаў”, створанага на працягу 1758—1836 гг. Выключнасць выдання ў тым, што пад адной вокладкай — факсіміле гэтага гістарычнага альбома, адзін экземпляр якога захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. Дарэчы, прэзентацыя кнігі нядаўна адбылася на XXIII Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, пройдзе яна і ў Хойніках.

Новая серыя нярэдка пачынаецца з прапановы стварэння незвычайнай кнігі. Так, ідэя серыі “Энцыклапедыя рарытэтаў” з’явілася ў Тацяны Бяловай — дырэктара выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі” — дзякуючы Вользе Бажэнавай. Вольга Дзмітрыеўна — мастацтвазнаўца, кандыдат навук, выкладчык кафедры мастацтваў БДУ, у 2005—2007 гг. яна выдала некалькі кніг пра Радзівілаўскі Нясвіж. Менавіта яна восенню 2009 года прынесла ў выдавецтва навуковае даследаванне ўнікальнага “Альбома фамільных партрэтаў князёў Радзівілаў”. У выдавецтве тут жа нарадзілася ідэя: зрабіць і факсімільнае выданне самога альбома, у склад якога ўваходзяць унікальныя малюнкі, выкананыя металічным пяром каля 1836 г., а таксама гравюры 1758 г., між якіх — рэдкія першыя адбіткі. Выдаўцы адразу ўявілі, у якім фармаце і маштабе гэта можна рэалізаваць і адначасова вырашылі зрабіць не адно выданне, а запачаткаваць цэлую серыю. Істотнай была не толькі навуковая вартасць матэрыялу, але і тое, што дзякуючы гэтаму альбому статус беларускай культуры набывае яшчэ адзін істотны штрых…

“Альбом фамільных партрэтаў князёў Радзівілаў” змяшчае 165 партрэтаў прадстаўнікоў знакамітага роду, якія жылі з XIV па першую палову XVIII ст. Шмат якія каралеўскія, дваранскія фаміліі Еўропы мелі альбомы з выявамі продкаў, але альбом Радзівілаў значна пераўзыходзіць іх маштабнасцю задумы. Партрэты — алюзія на антычныя выявы, бо Радзівілы, як і еўрапейцы, лічылі сябе нашчадкамі плямёнаў, якія прыйшлі з-пад Трої.

“Род Радзівілаў уладарыў 700 гадоў — і гэта былі людзі, якія шанавалі памяць сваіх продкаў, ахвяравалі пэўныя сродкамі дзеля таго, каб яна захоўвалася. Альбом партрэтаў Радзівілаў — з’ява, унікальная ў нашай культуры, гэта зусім іншыя старонкі беларускай гісторыі… Наша новая серыя паспрыяе развіццю самасвядомасці беларусаў, і добра калі факсімільнае выданне “Альбома фамільных партрэтаў князёў Радзівілаў” трапіць у кожную школу,” — зазначала Т. Бялова. Чым жа адметны гэты альбом у беларускай культуры?

Хтосьці з цяперашніх чытачоў таропка пагартае партрэты і, магчыма, здзівіцца: што ж тут даследаваць? Выкананыя ў падобнай тэхніцы паясныя выявы князёў і княгінь з подпісамі, нязвыклая жоўтая акварэльная папера… Спецыяліст жа, трымаючы ў руках альбом, адчуе, паводле слоў Вольгі Дзмітрыеўны, “інтэлектуальны шок”. Справа ў тым, што доўгі час лічылася, што на Беларусі партрэтных малюнкаў не існавала да пачатку XX ст.: былі гравюры, надмагільныя выявы, партрэты, напісаныя алеем. Між тым, у Радзівілаўскім альбоме змешчаны як гравюры 1758 года, так і партрэты, зробленыя металічным пяром каля 1836 года!

Доўгі час даследчыкі адносілі ўсе выявы альбома да XVIII ст., хаця вадзяныя знакі на паперы сведчылі, што яны былі выраблены ў XIX ст. Аўтар партрэтаў меў такое адчуванне эпохі, часу і традыцый, што розніца між яго малюнкамі і выявамі, зробленымі на стагоддзе раней, практычна не адчувальная. Малюнкі падобныя да гравюры скрупулёзнасцю прапрацоўкі, тонкасцю штрыхоў, якія міліметрамі паўтаралі гравюру, з якой мастак, верагодна, перамалёўваў партрэты.

Калі прыглядзецца да партрэтаў, то адрозніць гравюру ад малюнка будзе не складана. У альбом увайшлі 93 гравюры і 72 малюнкі, выкананыя металічным пяром. Такім чынам, альбом з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ўяўляў сабой макаранічнае выданне. Чаму менавіта ў такім выглядзе апынуўся альбом у архіве, якую гісторыю маюць гравюры і малюнкі, хто з’яўляўся іх аўтарам? — на ўсе гэтыя пытанні імкнулася адказаць Вольга Бажэнава, якая амаль дзесяцігоддзе даследавала альбом і адпаведную гісторыка-культурную сітуацыю.

Гравюры былі аддрукаваныя ў 1758 г. — праўда, як высветліла даследчыца, гравюрныя дошкі рыхтаваліся паўстагоддзя. Першы аўтар гравюр быў — Гірша Ляйбовіч, які пакінуў свой подпіс на гравюры з выявай паўлегендарнага продка Радзівілаў Войшунда І Крыстыяна. Але за 50 гадоў, натуральна, павінны быў з’явіцца і іншы майстар — мэтай даследчыцы стала і высвятленне яго імя.

Альбом гравюр быў замоўлены Ганнай Сангушкай Радзівіл. На той час з драўлянай гравюрнай дошкі можна было зрабіць не больш як 10 адбіткаў. Альбомы, верагодна, былі падараваныя Радзівіламі сваякам і сябрам — зараз яны знаходзяцца ў музеях і бібліятэках Польшчы і Расіі. Адзін альбом пакінулі сабе Радзівілы. Тыя ж выявы, што засталіся, верагодна, захоўваліся ў архіве — у 30-я гады XIX ст. на іх натрапіў князь Леон Радзівіл і па-гаспадарску вырашыў зрабіць яшчэ адзін альбом, даручыўшы камусьці з мастакоў перамаляваць гравюры, якіх не хапала.



Ганна Сангушка Радзівіл. Гравюра 1758 года.

Варта заўважыць, што Леон Радзівіл быў асобай неардынарнай — ён служыў у расійскім войску і карыстаўся асаблівым даверам Мікалая І і Аляксандра ІІ, але, разам з тым, да падрабязнасцей выконваў усе традыцыі, якія існавалі ў культуры Вялікага Княства Літоўскага. Таму ён не кінуўся ў Пецярбург замаўляць малюнкі лепшым мастакам, а звярнуўся да мясцовых аўтараў. У першай трэціны XIX ст. у Віленскім універсітэце дзейнічала кафедра малюнка і жывапісу — хтосьці з яе выпускнікоў стаў аўтарам малюнкаў з альбома.



Мікалай Радзівіл Чорны, мецэнат, пратэстант. Малюнак, выкананы пяром каля 1836 года.

Гравюры і малюнкі — гэта не адзінае, што можа зацікавіць чытачоў. Пасля арыгінальнага тытульнага ліста ідзе ўступны артыкул, напісаны на лаціні і пакуль не перакладзены. Кожны партрэт мае подпіс на лаціні, у якім падаюцца асноўныя звесткі з біяграфіі князя ці княгіні Радзівіл. Некаторыя біяграфіі вельмі дакладныя і сухія, у некаторых ацэньваецца лёс героя, адзначаюцца яго асабістыя якасці, паведамляецца пра адметнае здарэнне з яго жыцця: “узвышаны, які ведаў боль, міралюбны, лагодны, нешчаслівы, прыклад мужнасці” — пра Мікалая XVIII; “быў чалавекам вялікай вучонасці, … выклікаў на паядынак іспанскага пасла, які кепска адгукнуўся аб паляках” — пра Яна XIV Уладзіслава; “дабрадзейка многіх храмаў” — пра Ганну Гетлер. Высвятляецца, што між Радзівілаў было шмат не толькі грамадскіх дзеячаў, але і філосафаў, даследчыкаў, музыкантаў.

Уражвае і тое, што дзве траціны альбома складаюць партрэты жанчын. Гэта ў прынцыпе мае свае падставы — дзякуючы замежніцам-жонкам Радзівілы ўваходзілі ў сваяцтва з вядомымі еўрапейскімі фаміліямі , але такі гендэрны падыход безумоўна варты ўвагі сучасных сацыёлагаў. Подпісы, натуральна, перакладзеныя з лацінскай мовы на рускую і беларускую, кароткая біяграфія падаецца і на англійскай. Лінгвісты маюць магчымасць на прыкладзе подпісаў прааналізаваць асаблівасці мясцовай лаціні і параўнаць тэматычныя групы лексікі ў розных мовах. Бо менавіта складанасці з пошукам англійскіх адпаведнікаў лацінскім назвам мясцовых пасад сталі падставай няпоўнага перакладу.

Як зазначае Ларыса Языковіч, галоўны рэдактар выдавецтва, выданне кнігі павінна стаць падмуркам для шматлікіх далейшых даследаванняў. Так, гісторыкі, атрымаўшы 165 біяграфій Радзівілаў, змогуць па-новаму трактаваць гісторыю Беларусі…

Для мастацтвазнаўцаў альбом цікавы тым, што ў якасці ілюстрацый у ім змешчана вельмі шмат рэдкіх фотадзымкаў ды рэпрадукцый, адшуканых у розных бібліятэках і музеях свету. Супрацоўнікі Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі самі адсканіравалі старонкі альбома, выдавецтву заставалася займацца толькі рэтушшу. Да таго ж трэба было пакласці адсканіраваны варыянт на жоўтую паперу, падабраць тып паперы, максімальна падобнай на тагачасную, падчысціць непатрэбнае, падагнаць колер…

У радзівілаўскія часы ў альбомах выкарыстоўвалі пераважна паперу з тканіны — таму арыгінальны альбом значна лягчэйшы за яго сучаснае перавыданне, што важыць як сапраўднае немаўля. У кнізе выкарыстана шмат відаў шрыфтоў, элементы ж буквіц і дэкаратыўныя элементы не прыдуманыя, а ўзятыя з арыгінала. Істотную ролю ў стварэнні кнігі меў мастак Усевалад Свентахоўскі. Ён прапанаваў прынцыповы макет і першапачатковы варыянт вёрсткі, шмат папрацаваў над дызайнам: паколькі паралельна на трох мовах ідуць не толькі подпісы да партрэтаў, але і тэкст навуковага даследавання, то размясціць яго кампазіцыйна было даволі складана.

Як заўважыў адказны за выпуск кнігі Юры Бажэнаў, выданне атрымалася для чытачоў трох узроўняў: для тых, каму цікава проста пагартаць партрэты, для тых, хто пачытае навуковы тэкст, і тых, хто звернецца да кніг, пазначаных у спісе літаратуры. На думку ж Алены Сітайлы — загадчыка мастацкай рэдакцыі — чытачамі чацвёртага ўзроўню можна лічыць мастакоў, якія, магчыма, возьмуцца капіраваць малюнкі: паспрабаваць адпаведным чынам папрацаваць пяром, паглядзець, як кладзецца штрых.

Альбом “Радзівілы” трапіць у бібліятэкі Мінска, пэўная колькасць асобнікаў будзе даслана ў замежныя бібліятэкі. Варта думаць, асобнікі, што пойдуць у вольны продаж, таксама знойдуць гаспадара, нягледзячы на даволі салідны кошт, адпаведны якасці альбома.

У планах выдавецтва — альбом з фотадзымкамі Веткаўскага музея стараабрадніцтва, а таксама для тых, хто цікавіцца гісторыяй роду Радзівілаў, — факсімільнае выданне прыватнага альбома Альжбеты Радзівіл.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

На здымку: Вольга Бажэнава.

Фота Кастуся Дробава

## Вачыма сяброў

### Войцэх Пестка, польскі паэт і пісьменнік:



— Ужо трэці раз буду ўдзельнікам свята беларускага пісьменства, кожным разам з радасцю прымаю запрашэнне. Разумею: усё падрыхтавана да наведвання гасцей, захапляе колерамі, музыкай, дынамічнасцю, уражвае размахам і маштабам відовішча. Безумоўна, свята — гэта ўзрушэнне гледачоў, кульмінацыя падрыхтоўкі, узнагарода арганізатарам за выкананую працу. Але гэта і звыклы працоўны дзень для звычайных людзей, якія робяць сваю справу, перажываюць свае ўласныя радасці, нягоды і поспехі.

Заўважым, што чалавек ад стварэння свету ёсць аднолькавым незалежна ад сваёй эпохі і месца жыхарства, яго патрэбы і спадзяванні не зазналі зменаў, ён вызнае заўсёды тую ж самую сістэму вартасцей і, як і раней, хоча аднаго: кахаць, есці, адчуваць што ён у бяспецы і патрэбны іншым людзям… Усе тыя тэхнічныя змены, якія прыносіць цывілізацыя, не кранаюць сутнасці чалавека, застаюцца ў вонкавым свеце.

…У мінулым годзе падчас падарожжа ў Смаргонь нас завезлі ў Залессе, месца знакамітае — адпаведна асобе чалавека, які там жыў і ствараў. Калі мы чакалі экскурсавода, пачыналася вяселле і акардэаніст, вітаючы маладую, пачаў граць паланэз Агінскага — на свой, мясцовы лад. Гэта нельга было запланаваць ці зрэжысіраваць, незвычайнасць сітуацыі нават не была зразумелай для іншых удзельнікаў: гасцей з Расіі і Казахстана. Не ведаю, ці вучыўся той акардэаніст у музычнай школе, адкуль ведаў мелодыю, ці чуў пра кампазітара Міхаіла Клеафаса Агінскага… Але нечакана зразумеў: гэта як збег двух святаў: бягучага, якое мае пачатак і завяршэнне, і неўміручага — свята духу і прыгажосці.

Да таго ж у палацавым парку адбылася выпадковая сустрэча з музыкантам Іва Залускім, які з’яўляецца нашчадкам вялікага кампазітара. Ён стала жыве ў Англіі, але наведваў мясціны, звязаныя з гісторыяй сваёй Радзімы. Увечары Іва Залускі даваў у Смаргоні канцэрт, прысвечаны свайму продку Міхалу Клеафасу Агінскаму. Яго вітальнае слова, распачатае пытаннем: “А можна казаць па-польску?”, было сустрэтае гучнымі “брава!”. Той, у прынцыпе, не зусім афіцыйны момант надоўга застаўся ў маёй памяці.

Калі ж я згадваю мінулагодняе свята пісьменства і музей у Кушлянах, то на памяць прыходзяць вядомыя словы Францішка Багушэвіча “не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі”. Народная мова, культура, нацыянальная гісторыя — гэта галоўны падмурак для фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці. Пэўныя цяжкасці тут пакуль што не скончацца, але вынік жа, безумоўна, будзе.

Запісала Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Мележава вёска



Калі вырашыце накіравацца ў Хойнікі, то абавязкова пазначце ў сваім турыстычным маршруце і вёску Глінішчы. Тут у 1921 г. нарадзіўся Іван Мележ — таму, заканамерна, у вёсцы створаны адпаведны мемарыяльны музей. Яго загадчыцай працуе Ліпніцкая Соф'я Піліпаўна — пляменніца Івана Паўлавіча. Але музей — не адзіная адметнасць мястэчка…

Гісторыя музея распачынаецца 1983 годам, калі пасля лёсавызначальнага рашэння райкама партыі вяскоўцы пачалі будаваць на вуліцы імя І. Мележа новую хату. Дом, у якім нарадзіўся і вырас Іван Паўлавіч, згарэў падчас Вялікай Айчыннай вайны, таму памяшканне музея ўзводзілі ўсім сялом — з удзячнасці да пісьменніка, які ўвасобіў у сваім рамане вобразы землякоў, адлюстраваў мясцовыя праблемы.

Галоўныя экспанаты Глінішчанскага музея — гэта накіды рамана "Людзі на балоце", а таксама асабістыя рэчы пісьменніка: шматлікія пасведчанні, папка для папер, скураны партфель, вопратка. Ёсць тут і мэбля з апошняй кватэры І. Мележа: крэслы, пісьмовы стол, друкавальная машынка, — палова моднай па тым часе "сценкі". У музеі знаходзіцца частка кніг з хатняй бібліятэкі Мележа, і глінішчане часам заходзяць сюды, каб на пэўны тэрмін узяць дадому штосьці з твораў беларускіх аўтараў. Ёсць на паліцах і кнігі самога пісьменніка іх таксама любяць чытаць землякі.

Натуральна, у музеі шмат фотаздымкаў Мележа, маюцца тут і карціны, падараваныя музею мясцовымі мастакамі. У першых жа двух пакоях чатырохпакаёвага драўлянага дома змешчаны шматлікія рэчы мясцовага побыту: бочачкі, дзежкі, разнастайная мэбля — у тым ліку стол і крэслы, плеценыя арцеллю з Юравіч, што існавала ў 1950-я. Кросны, маслабойка, церніца — "усё колішняе, у людзей пабранае," — кажа Соф'я Піліпаўна. "А можа, штосьці і з самой хаты Мележаў, бо Павел Фёдаравіч (бацька пісьменніка) шмат што сам умеў рабіць," — дадае гаспадыня музея.

Соф'я Піліпаўна — дачка стрыечнай сястры Івана Мележа. Яна нарадзілася ў Глінішчах, таму добра памятае пісьменніка, які прыязджаў сюды спачатку да бацькоў, пасля да стрыечнай сястры Насці. Напружанае жыццё не дазваляла Івану Паўлавічу наведваць родную вёску часцей, чым раз на два гады, але яго прыезды былі для родных вельмі запамінальнымі. Нярэдка пісьменнік завітваў разам з сябрамі-пісьменнікамі, а аднойчы нават прыляцеў на верталёце разам з П. М. Машэравым. Самы яркі ўспамін дзяцінства для Соф'і Піліпаўны — гэта тое, як Іван Паўлавіч прыехаў у Глінішчы на новай "Волзе" і вазіў дзяўчынак-пляменніц у Мазыр: наняў лодачніка, каб пераплыць на іншы бок Прыпяці, паказаў ім мястэчка, накупляў ласункаў… Так, першым разам Соф'я Піліпаўна трапіла ў райцэнтр менавіта дзякуючы дзядзьку Івану Мележу.

У сучасных Глінішчах моцна трымаецца памяць пра земляка-пісьменніка. Але вядомыя Курані, у якіх разгортваецца дзеянне раманаў "Палескай хронікі", больш падобныя не да Глінішчаў, а да суседняй Куранёўкі — хутара на некалькі дзесяткаў дамоў, дзе ў Івана Мележа жыў дзед па матчынай лініі. Затое прататыпы шмат якіх герояў рамана жылі менавіта ў Глінішчах: Губон, цётка Мар'я, Дамецікі. А вось Глушакі — сапраўды, трохі багацейшыя за аднавяскоўцаў, — жылі такі ў Куранёўцы… Натуральна, пісьменнік ніколі не спісваў канкрэтнага чалавека ці сітуацыю, а заўсёды імкнуўся дабудаваць вобраз, зрабіць яго абагуленым ці сімвалічным. Гісторыя ж з'яўлення пэўнага героя ці сюжэта дапамагае крыху зразумець складаны механізм творчасці, аднавіць пісьменніцкую логіку…

Іван Мележ любіў землякоў і роднае Палессе не толькі паэтычнай любоўю, але і любоўю дзейснай. У 1979 годзе дырэктар Глінішчанскай школы звярнулася да пісьменніка з просьбай паспрыяць пачатку будаўніцтва новай школы: на той час 469 мясцовых вучняў займаліся ў двух старых школьных будынках і ў знятых у вяскоўцаў хатах. Іван Паўлавіч аператыўна вырашыў пытанне, школа была пабудавана нават хутчэй, чым чакалі. Сёння яна носіць імя Івана Мележа — і побач з трохпавярховай школай стаіць маленькая, пабудаваная вучнямі і выкладчыкамі хатка, ля якой часам ладзяцца тэатралізаваныя пастаноўкі паводле рамана "Людзі на балоце". Гэта і ёсць другая адметнасць Глінішчаў. Найчасцей на панадворку ставіцца сцэна сустрэчы Ганны з Васілём: вучні пераапранаюцца ў народныя строі і ўзнаўляюць вядомы эпізод з Мележавага рамана. Праўда, хатак на сваях у Глінішчах даўно не будуюць: мясцовая рачулка Тур'я абмялела і даўно не разліваецца…

Не кожнае беларускае мястэчка можа пахваліцца тым, што яго жыхары сталі героямі нацыянальнай эпапеі! А Соф'я Піліпаўна вельмі жвава і хораша распавядае пра гісторыю роднага мястэчка, пра жыццё пісьменніка-земляка. Таму музей Мележа таксама чакае гасцей!

Алеся ЛАПІЦКАЯ





На здымках: Соф'я Піліпаўка вядзе экскурсію ў музеі Івана Мележа; будынак музея; Палеская хатка каля Глінішчанскай школы.

Фота Кастуся Дробава

# Бацькавы землякі



Можна нарадзіцца ў глухой палескай вёсачцы і быць інтэлігентным, высокаадукаваным, шляхетным чалавекам. Такім, якім быў мой бацька, пісьменнік Барыс Іванавіч Сачанка. Ён даўно памёр, а я і цяпер памятаю яго любоў, яго бацькоўскія клопат і цеплыню. Ён быў такі ж, як яго велікаборскія землякі: упарты, горды, недаверлівы палешук. Я добра памятаю сваё дзяцінства, паездкі ў вёску Вялікі Бор Хойніцкага раёна — да Чарнобыля і пасля. Чамусьці ўзгадваецца самы яркі эпізод, як я падлеткам лазіла на дах бабынай хаты, каб абабраць вішні. На мне была прыгожая блакітная сукенка, бацька хваляваўся за мяне ўнізе. Потым вішні сушыліся, і з іх баба Вера варыла "кумпот". А яшчэ мы хадзілі ў грыбы — "у грыбу" — у густы велікаборскі лес. Грыбоў было многа-многа, яны былі асноўным прадуктам харчавання. З іх варылі булён, рабілі заліўное, іх смажылі, тушылі, запякалі…

Баба Вера была стрункая, з доўгімі чорнымі валасамі, рухавая і жвавая. Яе вялікія чорныя вочы прапальвалі наскрозь. Яна ўвесь час нешта рабіла, некуды спяшалася. Мой бацька вырас у шматдзетнай сям'і, таму ён не быў эгаістам, і з ім мы былі шчаслівыя. Такі ж рухавы і жвавы, як яго маці, ён актыўна працаваў усё сваё жыццё. Дык вось, палешукі яшчэ і вельмі працавітыя. А яшчэ яны рамантычныя, добрыя, цэняць прыгажосць і культуру.

Кожны візіт у вёску Вялікі Бор у мяне звязаны з найлепшымі ўражаннямі. Гасціннасць бацькавых землякоў не ведае межаў. Шчодрыя, добрыя гэта людзі. І музеі ў вёсцы Вялікі Бор, якіх ажно два, — у школе і ў РДК — яны зрабілі выдатныя. Я не магу не быць удзячнай землякам майго бацькі. Бо яны нібыта мая радня, мае самыя блізкія людзі ў свеце. Я ж таксама палешучка, як яны, бо ўдалася ў бацьку (з чым ужо нічога не зробіш).

Але я нарадзілася і пражыла жыццё ў вялікім горадзе, у сталіцы Беларусі. Горад – крыніца распусты, ён прыносіць сваім насельнікам вялікія няшчасці. Само гарадское жыццё пабудавана так, што з'яўляецца грэшным. І тады міжволі пачынаеш супастаўляць, параўноўваць. Вёска заўсёды жыла так: "А што людзі скажуць?". Грамадская думка была для сяльчанаў мераю сумленнасці, маральнасці. Таму, можа, лягчэй было не аступіцца, не сарвацца. Хаця… І тут усё вельмі складана.

А цяпер я ў думках ступаю на шырокую асфальтаваную дарогу, якая ідзе праз усё сяло Вялікі Бор і вядзе на "Чуканаўку". Там вараць салодкую цёплую самагонку, вельмі п'янкую, і на маёй памяці яе каштаваў нават участковы. Пілі, а потым сварыліся, біліся… Было і такое. Мірыліся, зноў пілі…

Бываюць у жыцці розныя перыяды. То шанцуе, то раптам пачынаецца чорная паласа. Ды адно я засвоіла цвёрда з урокаў Вялікага Бора: ніколі не трэба лезці чалавеку ў душу. Хай сабе ён думае, што хоча, ідзе, куды хоча, робіць, што хоча. Ён самастойны. Інакш ты адбярэш у яго здароўе фізічнае і псіхічнае. А ты, калі хочаш, — заставайся пры сваіх думках і меркаваннях.

А можа, хто ўспомніць нешта іншае з гісторыі Вялікага Бора? У кожнага сваё, як кажуць, "мроіва"… Можна прыгадаць, і як лавілі ўюноў у палескай сажалцы, і як потым іх жывых кідалі на патэльню або сушылі. І як баба Вера прыгожа спявала тыя песні, што ў нас цяпер лічацца ўкраінскімі. І якое цудоўнае было зорнае неба позна ўвечары, пасля пякучага паўднёвага сонца.

Гэта самы-самы поўдзень Беларусі, адтуль недалёка да Украіны. Тут людзі кажуць: "доў", "узёў", "м'яса", "забуў", "чобаты". А на печы сушаць белыя семачкі, якія завуцца чамусьці "зерняты": "Можа, вам зернят насыпаць?". Раніцай тут пякуць тоўстыя бліны на дражджах і смажаць шкваркі. І снедаць з булёнам — абавязкова!

А можа, цяпер і не так усё, як было калісьці? Канечне ж, не так, бо дайшла ўжо і да Вялікага Бора цывілізацыя. Змянілася жыццё, па якім жалезным каткам праехаўся Чарнобыль. Шмат хто пакінуў родныя мясціны. Нехта застаўся дажываць свой век. Хтосьці будуе сваё жыццё па-маладому, па-новаму. Але ўсё роўна сяло Вялікі Бор назаўсёды застанецца радзімай майго бацькі. Гэта змяніць ужо немагчыма. І я заўсёды застануся дачкой свайго бацькі.

А на завяршэнне хочацца сказаць колькі слоў пра маіх харошых дзядзькоў з Вялікага Бора — Колю, Пятра, Грышу і Паўла — якіх ужо няма на свеце. Якія яны былі добрыя, клапатлівыя, як прымалі і частавалі! Я ніколі гэтага не забуду. І пачуццё шчырай любові да землякоў свайго бацькі не пакідае мяне ніколі, як і пачуццё вялікай удзячнасці да майго таты. Я не хачу развітвацца са сваімі ўспамінамі, я хачу берагчы іх у сваім сэрцы і заўсёды мець з сабою. Бо гэта той грунт, на якім трымаецца чалавек, гэта яго аснова. Я хачу быць вернай бацькоўскаму кутку, з якім звязаны самыя лепшыя ўспаміны майго шчаслівага дзяцінства.

Святлана ЯВАР

# Зямля бацькоўская, святая…



Фота Кастуся Дробава

## Пімен ПАНЧАНКА

### Зямля бацькоў

А на Палессі ўсё нядробна:
Цяжкая спадчына вякоў,
Цяжкія рухі хлебаробаў,
Цяжкія сны палешукоў.

Якую трэба мець адданасць
І сэрца сынава, каб так
Любіць палескі край туманны
І маці бедны андарак.

Якуп мужнасць мець патрэбна,
Каб хуткасці наперакор
Уваскрасіць і воблік зрэбны
Сяла,
І водбліск даўніх зор.

Нас б'е па сэрцах паскарэнне,
Сціскаюцца прастора, час.
А матчынай зямлі карэнні
Ніколі не адпусцяць нас.

Хвалюючае падабенства!
Старонкі Мележа крані —
І з небыцця, з майго маленства
Мае узнікнуць Курані.

І час імклівa незваротны
Мастак ізноў вяртае нам,
І ажывае ўладна роднасць,
Хоць я з мясцін інакшых сам.

Пад навальнічны подых рэзкі
Я пад буслянкаю стаю
І ў ціхай вёсачцы палескай
Сябе малога пазнаю.

І, навальніцаю абмыты,
Па сцежцы, як па пояску,
Іду па лузе аксамітным
Ля выспаў белага пяску.

Развеяўся настрой паганы,
Каліны зноў цвітуць мае.
І свеціць мне усмешка Ганны,
Любоў яе і боль яе.

Зямля бацькоўская, святая.
Так, гэта мы. Увесь народ…
Мне ў сэрца бусел залятае
З трывожных прыпяцкіх балот.

Увесь агледзінам аддадзены
Пасаг нядзельным светлым днём
І адмыслова перакладзены
Зноў языкатым тытунём.

Зямное неба ўсімі фарбамі
Бліскоча ў шыбіне акна.
Спаўна нацешылася скарбамі.
А скрыня памяці —
Без дна…

## Анатоль ГРАЧАНІКАЎ

* * *

Блакіт прадонны вераснёвы,
Бярозак ціхамірны сум…
Плыву, плыву на бераг новы
Услед за выраямі дум.

Былі і ўзлёты, і трывогі,
Асцюкаватыя часы,
Былі дняпроўскія парогі,
Былі палескія лясы.

І у падпалах дзень асенні,
І гэта ўспененая гаць,
І ўсе адценні іх і цені
Са мной ляцяць, за мной ляцяць.

І ціхім спевам адмысловым
Ліецца ў хісткі човен дум
Блакіт прадонны вераснёвы,
Бярозак ціхамірных сум…

* * *

Мова…
Родная мова
У марах, у песнях, снах.
Мае ў ёй кожнае слова
Свой колер і смак, і пах.
Зліваюцца гукі ў словы
І ў рэчышча роднай мовы,
Як рэкі ў мора цякуць.
І думкі мае плывуць
На хвалях і дзён, і начэй
Да сэрцаў людскіх і вачэй.

## Мікола МЯТЛІЦКІ

* * *

Палотны нібы ў бляску інею,
Далонь з пяшчотаю кране.
Бабуля схіліцца над скрыняю,
Нібы ў дзявоцтва зазірне.

Набожнікі, сурвэты тканыя
Ляжаць, закутыя ў спакой,
Разоў багата перабраныя
Сцярожка-клопатнай рукой.

І твар, пасечаны маршчынамі,
Усмешкі ясніцца святлом.
Ў душы — нібы пад аблачынамі
Махаюць лебедзі крылом.

Вось так зара, што ўстала позняя,
Бярэцца сілай маладой.
Дарога скрушная апошняя
Не страшыць чуткаю жудой.

## Мікола ЧАРНЯЎСКІ

### Прызнанне ў любові

Колькі б ні было сцяжынак сходжана,
Не забыць адной,
Што ў свет вяла,
Што звязала з Буда-Кашалёўшчынай,
Як прамень дзівоснага святла.

Кожнай аблачынкай, кожнай рыскаю
Бачу, родны бераг,
Воблік твой.
Хоць даўно ўжо я не твой прапіскаю,
Сэрцам, ведай, я заўжды з табой.

Тут змагу забыць аднойчы хіба я
Бацькаў сад,
Над хатай — жаўрукоў,
Росныя світанкі па-над Ліпаю,
Сцежку ў жыце, казку з васількоў?!

Сціплую, як людзі,
з лустай жытняю.
Палюбіў такой цябе змала,
Мужная ў змаганні, працавітая,
Да пясчынкі родная зямля!

Ты ў душы маёй —
Як мова матчына.
Шчасце мне —
Табою даражыць,
З тым усім,
Што знойдзена, што страчана,
З чым жыла,
Жывеш,
З чым будзеш жыць.

## Міхась БАШЛАКОЎ

### Верасень

Плыве туман над скошанаю нівай.
Па росных сцежках верасень брыдзе.
І халадзее сумам жураўліным
Апошняя лілея на вадзе.

Ліст залаты на срэбнай павуціне
Гайдаецца над цёмнаю вадой.
І восень у зялёных вершалінах
Вавёркаю мільгае маладой.

Сумненняў час,
час роздуму прыходзіць,
Час прасвятлення даляў і душы...
Які спакой у восеньскай прыродзе!..
Якая таямнічасць у цішы!..

## Ніна ШКЛЯРАВА

### Серабро

Серабро, серабро — на далонь!
Серабрыцца на сонцы рака,
У рацэ той купаецца конь,
Мые ногі свае асака.

Адвячоркам, як толькі агні
Адплываюць па вадзе ўдалячынь,
Ажывае ў начной цішыні
Шляху Млечнага зорная плынь.

Серабром, серабром, серабром
Серабрацца ўжо скроні мае...
І ад гэтых ад зорных вятроў
Серабрыцца лядок на траве.

На вяселлі сярэбраным лёд
Ад любові дваіх растае.
І, сагрэты каханнем народ,
Весяліцца, танцуе, пяе.

Серабро, серабро, серабро...
Залацістага вэлюма дым...
Залатое маё ўсё дабро —
Маладым, маладым, маладым!

Серабро, серабро — ды ў агонь!
Шляху Млечнага льецца рака...
Зачакаўся на беразе конь,
Рэжа ногі мае асака...

## Анастасія КАЦЮРГІНА

* * *

Аблятае задумлівы сад.
Жоўты яблык зрываецца з голля.
Да цябе, як да колішніх страт,
Не дайсці, не даплысці ніколі...

Сіні прыцемак. Сонца ў траве.
Дзень адыдзе за сонны пагорак.
Нехта яблыкі ўночы страсе
Разам з кроплямі жнівеньскіх зорак...

## Анатоль ЗЭКАЎ

* * *

Каб радзінным словам наталіцца
не на дзень які, а на гады,
еду да матулі са сталіцы
у сваю Патапаўку — туды,
дзе яно пакуль яшчэ не знікла,
хоць крыху й ахрыпла, ды жыве;
дзе яму ў гамонцы, звеку звыклай,
вольна так, бы коніку ў траве;
дзе яно і ўзімку не залее,
хоць і дзьмуць з усіх бакоў вятры…
Ды і я ў завеі не калею,
што сагрэты словам тым знутры.

* * *

Ці то завеі ў снежні карагодзяць,
ці чуцен "Подых навальніцы",
аднак дагэтуль "Людзі на балоце"
не знішчылі тае крыніцы,
дзе слова паляшуцкае нязводна
жывіла Мележа з маленства, —

і Хойнікі страчаюць сёння годна
Дзень беларускага пісьменства.

## Уладзімір МАЗГО

### Світае спеўны кут

Бярэзнікі і хвойнікі
Світаюць пакрысе.
Вітаюць свята Хойнікі
У выспелай красе.

І Мележа, і Сачанкі
Радзіму адкрывай,
Дзе шчырай песняй матчынай
Шчыміць палескі край.

Вялікі Бор і Глінішча
Да сэрца прыхіні.
Не змог Чарнобыль вынішчыць
Душэўнай цеплыні.

Вякоў мінулых спадчына
Вяртаецца табе.
Але не вернеш Бабчына,
Застылага ў журбе.

Святлее каля Прыпяці,
Паміж палёў, лясоў.
І на душы —
Ад шчырасці
Птушыных галасоў.

Пазбаўлены гаротнага
Настрою і пакут,
Тут
Святам слова роднага,
Світае спеўны кут.

## Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК

### Святло Палесся

Ужо даўно,
Святло прагнала ноч,
Пра ноч
Зусім забылі на Палессі.
Святлом заліта ўсё,
Куды ні кроч, —
Нафтавікі свяцільнікі узнеслі.

Гарыць святло
За Рэчыцай наўсцяж,
І высветлена кожная дарога.
Ажурных вышывак
Пачалі мантаж —
І новыя асвецяцца разлогі.

Няхай у нас
Яшчэ не Саматлор,
Але ж расхарашылася Палессе,
Калі нафтаны б'юць
Да самых зор,
Калі нафтавікі заводзяць песні.

Стрывожаная нафта б'е чалом
Зямлі маёй,
А будзе так навекі…
Пішу без лямпы за сваім сталом:
Што мы —
"Палешукі… і чалавекі".

## Віктар СТРЫЖАК

### Нашчадку

Час мінулы — настаўнік —
Слоў Скарынавых магма…
Хай кагосьці не стала,
Толькі мова не мамант.

Хоць, вядома, няпроста
Быць заўсёды ашчадным,
Найвялікшая просьба:
Не аглухні, нашчадак!

Не аглухні дачасна,
Без віны вінаваты…
Хоць і маеш за шчасце
Мову іншую сватаць.

Не дарую твой продак
Пад плітою магільнай
Долі мовы гаротнай,
Што, як мамант, загіне…

## Ала КАНАПЕЛЬКА

* * *

Родная мова,
Матчына слова…
Зорная завязь калін.
Песні вясновай
Тчэцца аснова
Словам паданняў, былін.
Ці выпадкова
Знойдзена слова,
Любы пралескі мой край?
Пад жаўруковым,
Пад перуновым
Небам
адбыцца мне дай,
Роднае слова!

* * *

— Ган-но! —
Блукае няўцешнае рэха.
— Ган-но! —
Гукаюць, шукаюць вятры.
Снегам занесены сонныя стрэхі,
Моракам скутыя дрэмлюць двары.

Снегам расстання халодным, зімовым
Шляхам перамецены —
шлях да вясны.
Ганно, ты ж ведаеш тую замову,
Каб адышлі непрабудныя сны.

Ты іх пашлі на бягучыя воды,
Ты іх на лозы сухія пашлі.
Ранняй вясною ў барвах усходу
Зноўку пратрубяць Яго жураўлі.

Зорка ўзыходзіць на сцюжаю,
над снегам.
Памяць жывою рабінай гарыць.
— Ган-но! —
Палескае коціцца рэха.
— Ган-но! —
Гукаюць над светам вятры.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

3 верасня 2010 г.

Выпуск 12

Аўтограф

# Трылогія Івана Штэйнера

Госць "Кніжнага свету" сёння — Іван Штэйнер, даследчык літаратуры, прафесар Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Не так даўно свет пабачылі тры кнігі Івана Фёдаравіча, прысвечаныя пісьменнікам Гомельшчыны: "Дняпроўскія матывы", "Прыпяцкая рапсодыя", "Сожскі карагод", менавіта гэты факт і стаў падставай для гутаркі.



— У мяне некалі ўзнікла ідэя стварыць летапіс літаратурнага жыцця на Гомельшчыне, але зрабіць яго я вырашыў у не зусім звыклай форме. Паколькі па Гомельшчыне працякае вылікая колькасць рэчак, у нас шмат азёраў, балот, то лагічным падалося звязаць літаратуру з гэтай асаблівасцю краю. А паколькі тут ёсць тры галоўны ракі — Дняпро, Прыпяць і Сож, усю Гомельшчыну я падзяліў на рэгіёны, што прымыкаюць да поймаў Дняпра (і Бярэзіны), Прыпяці і Сожа, і вырашыў расказаць пра ўсіх пісьменнікаў, якія нарадзіліся на берагах гэтых асноўных водных артэрый Гомельшчыны, паказаць, якую ролю яны адыгралі ў станаўленні творчай асобы таго ці іншага аўтара.

Пачаў, зразумела, з Дняпра, з кнігі "Дняпроўскія матывы", затым выйшла кніга "Прыпяцкая рапсодыя", а потым — "Сожскі карагод". Форма арганізацыі гэтай своеасаблівай трылогіі таксама адметная: мы быццам вандруем па рэках на незвычайным караблі, які, акрамя таго, што плыве, можа яшчэ і лётаць.

— Вам давялося самому даведацца што-небудзь цікавае і адметнае падчас працы над кнігай?

— Так, да прыкладу, быў цікавы пісьменнік Левандоўскі, наш зямляк, вучоны, гісторык, які працаваў у Маскве, шмат пісаў пра выдатных людзей эпохі Вялікай французскай рэвалюцыі. У кнігі ўвайшлі і згадкі пра рускіх і польскіх пісьменнікаў, якія пісалі пра наш край. Магчыма, для рускай ці польскай літаратуры іх творы не ўяўляюць вялікай значнасці, але для нас важна паказаць іх, калі яны апісвалі падзеі, скажам, звязаныя з Мазыром, з войнамі, што адбываліся на нашых землях, з гісторыяй нашага краю. Паказаць гэта і ў дакуменце, і ў факце, і ў мастацкім творы.

Шмат цікавых матэрыялаў тут пададзена і пра фальклараыстаў, вельмі многа новага для сябе адкрыў. Напрыклад, вядома, што адным з асноўных казачнікаў, чые аповеды калісьці запісваў Аляксандр Сержпутоўскі, быў Азёмша. Сам Сержпутоўскі многа піша пра спецыфіку нацыянальных талентаў, казачнікаў. Гэта былі надзвычай адораныя людзі. І вось Азёмша, не ведаючы літаратурных законаў, ніколі не чытаўшы кніжак, інтуітыўна працаваў як пісьменнік. Ён дзяліў аповед на часткі, падкрэсліваў асноўнае, нешта дадаваў. Мне падаецца цалкам лагічным, што аповеды Азёмшы можна параўноўваць з італьянскімі навеламі эпохі Адраджэння. І гэтае параўнанне паказвае, што беларуская літаратура, наша проза, пачынаецца менавіта з гэтага часу. Таму вельмі шкада, што ў нас яшчэ не вывучаны на належным узроўні фальклор. У XIX ст. існавала цэлая плеяда таленавітых пісьменнікаў і фальклярыстаў: Эма Дмахоўская збірала фальклор у сваёй вёсачцы, і выдала кнігу нават у Парыжы.

— Ці ўсе пісьменнікі Гомельшчыны прадстаўлены ў кнігах?

— Так, я стараўся ахапіць усіх. У кнізе падаюцца і біябібліяграфічныя звесткі пра пісьменніка, і кароткі аналіз яго творчасці. Пра кожнага пісьменніка напісаў па-рознаму, стараўся паказаць менавіта сваё прачытанне іх творчасці. Ёсць згадкі і пра Кірылу Тураўскага, па XIX ст. — менш. Ахопліваў не толькі беларускамоўных, але і польска-, і рускамоўных пісьменнікаў. Напрыклад, паэт Іпаліт Клімашэўскі, філамат, які пакінуў адзін верш на польскай мове пра прыпяцкіх варожак, добры верш.

Акрамя пісьменнікаў, я хацеў расказаць і гісторыю пра кожную раку, як калісьці рабіў Уладзіслаў Сыракомля ў кнізе "Нёман ад вытокаў да вусця" (але гэта не звязана з агульнай задумкай кнігі). Асабліва важна было напісаць пра Прыпяць, бо пра Дняпро пісалі дастаткова шмат. Я знайшоў разнастайныя крыніцы, і рускамоўныя, і польскія, але іх адметнасцю з'яўляецца тое, што пра Прыпяць пісалі не ўраджэнцы гэтых мясцін, а госці. Для іх і прырода, і балоты, і жыхары былі сапраўднай экзотыкай.

— Што можаце пажадаць чытачам "Кніжнага свету"?

— Няхай у нашу бурлівую, імклівую, складанейшую эпоху знойдуць час і пагартаюць кнігі, даведнікі пра пісьменнікаў-землякоў, пра ўраджэнцаў іх родных мясцін, пачытаюць вершы і празаічныя замалёўкі пра мясцовыя краявіды, пра лясы, бары, рэкі, ручайкі, пра малюсенькія азярцы. Магчыма, гэта выкліча і ў чытачоў гонар і любоў да роднага краю, да сваёй маленькай радзімы, з якой пачынаецца вялікая радзіма. Кожнага чалавека, нават далёкага ад мастацтва, такая згадка можа ўзрушыць. Напрыклад, мастак Рыгор Сітніца калісьці напісаў верш пра родны край. Вядомы рускі паэт Ігар Шклярэўскі шмат напісаў пра Прыпяць, адзін з першых выступаў у абарону ракі. Адметна, што калі ён атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР, то на гэтыя грошы пасадзіў лес на Петрыкаўшчыне і суменай ўкраінскай тэрыторыі, якая была забруджана ў выніку аварыі на ЧАЭС. Цікавы лёс Уладзіміра Кігна (Дзядлова), арыгінальнага рускага пісьменніка, сына вядомай збіральніцы фальклору Лізаветы Паўлоўскай. Калі яго забілі, маці ў памяць аб сыне пабудавала школу, якая і цяпер ёсць.

Я заўсёды імкнуся паказаць, як спалучаюцца рэгіянальны, нацыянальны і агульначалавечы пачаткі, у якім адзінстве яны знаходзяцца ў кожнай літаратуры. І на канферэнцыях, што звычайна ў нашым універсітэце праходзяць у кастрычніку, мы стараемся зразумець гэта, адказаць на многія актуальныя пытанні. Бо што можа быць цікавей, — калі мы гаворым пра маленькае, рэгіянальнае і агульначалавечае ў мастацтве.

— Вашы любімыя кнігі?

— Я люблю чытаць розныя творы, але асабліва тыя, дзе ёсць іранічны змест, падтэкст. Гэта "Пахвала дурасці" Эразма Ратэрдамскага, "Запіскі Самсона Самасуя" Андрэя Мрыя, творы Уладзіміра Караткевіча. Увесь час чытаю Біблію, творы Мішэля Мантэня. Я ўжо пісаў пра паэзію Караткевіча, параўноўваў яе з творамі Блока, Буніна, цяпер хачу перачытаць і прозу, асабліва перспектыўнай падаецца ідэя параўнання раманаў Караткевіча з творамі Эразма Ратэрдамскага. Хачу напісаць і пра "Шляхціца Завальню" Яна Баршчэўскага. Літаратура ў нас магутная, але літаратуразнаўства ёй саступае па сіле. І старабеларускую літаратуру, амаль усе творы XIX ст., і нават спадчыну Купалы і Коласа трэба перачытаць.

Аўтограф брала Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Іван Штэйнер — чытачам "Кніжнага свету": "Чытайце. Чытайце. І сусветную класіку, і нацыянальную, і творы сваіх землякоў, якія так натхнёна апісваюць родныя Вам краявіды".

Фота Кастуся Дробава
Калаж Віктара Калініна

# Паляшуцкі дзівасіл

Папулярная серыя "Беларусь літаратурная" папоўнілася новай кнігай "Дзівасіл: Хойнікшчына літаратурная: паэзія, проза, публіцыстыка" (укладальнік Алесь Марціновіч), што напярэдадні Дня беларускага пісьменства выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".Аўтарскі праект "Беларусь літаратурная", распрацаваны Уладзіславам Мачульскім, Віктарам Праўдзіным і Віктарам Шніпам, быў заснаваны ў 2003 годзе, калі пабачыла свет выданне "Полаччына літаратурная". З таго часу выдавецтва рэгулярна знаёміць чытачоў з творчымі здабыткамі рэгіёнаў Беларусі: Астравеччыны, Барысаўшчыны, Камянеччыны, Смаргоншчыны, Старадарожчыны... Між тым у іх пераліку не хапала хойніцкага краю, багатага на таленты. Выхад "Дзівасіла" менавіта сёлета стаў цалкам заканамернай з'явай.




На творчым рахунку Алеся Марціновіча ўжо быў вопыт укладання зборніка, прысвечанага літаратуры Шклоўшчыны. Гэта дапамагло пісьменніку граматна пабудаваць структуру кнігі. Зборнік адкрываецца прадмовай старшыні Хойніцкага раённага выканаўчага камітэта Аляксандра Бічана, які свабодна, з веданнем справы прадстаўляе рэспубліканскай супольнасці творчыя дасягненні знакамітых асоб, што нарадзіліся ў гэтых мясцінах, узгадвае асобныя факты з іх біяграфій. Як прызнаецца кіраўнік раёна, "сам я хоць родам з Петрыкаўшчыны, ды за той час, калі ўзначальваю раённую "вертыкаль", для мяне тут усё стала родным, блізкім, дарагім".

"Дзівасіл" складаецца з трох раздзелаў: "Засталася спадчына", "Паяднаныя назаўсёды" і "За годам — год, за вехай — веха". Першы раздзел мае гістарычна-фальклорны характар і прысвечаны падзеям сівой даўніны. Тут прадстаўлены легенды і паданні пра паходжанне некаторых населеных пунктаў Хойнікшчыны, запісаныя Аляксеем Ненадаўцом, урыўкі са знакамітай кнігі Часлава Пяткевіча "Рэчыцкае Палессе" (яе аўтар паходзіць з вёскі Бабчын), даследаванне фалькларыста Канстанціна Кабашнікава, апавяданні і жарты мясцовых жыхароў, запісаныя Барысам Сачанкам, а таксама артыкул Леаніда Клока пра таямніцу хойніцкага пергамента.

У адрозненне ад першага, другі раздзел, "Паяднаныя назаўсёды", закранае больш блізкія па часе XIX — XX стагоддзі. Зрэшты, час Расійскай імперыі апісваецца толькі ў нарысе Алеся Марціновіча, прысвечаным постаці Іосіфа Гашкевіча, складальніка першага ў Расіі японска-рускага слоўніка. Астатнія аўтары былі відавочцамі і сведкамі бурлівых падзей мінулага стагоддзя, якія сталі дамінантамі ў іх творчасці. Зразумела, перш за ўсё ўзгадваецца постаць Івана Мележа, з твораў якога ў "Дзівасіле" змешчаны два вершы ("Жураўлі" і "Багдановіч"), апавяданне "У завіруху", а таксама ўрывак са славутага рамана "Людзі на балоце". Асоба Барыса Сачанкі, раннія апавяданні якога сталі аднымі з лепшых у творчай скарбонцы. А таксама іх калегі і сябры — аўтары апавяданняў Змітро Бяспалы, Аркадзь Кандрусевіч і Алесь Шлег, паэт Тодар Курбацкі, драматургі Леў Караічаў і Вячаслаў Палескі. Нечаканымі на старонках "Дзівасіла" падаюцца ўспаміны славацкага пісьменніка Караля Тамашчыка, які разам з беларускімі партызанамі ваяваў супраць фашыстаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, а ў пачатку 1960-х гадоў наведваў Хойнікшчыну, сустракаўся з баявымі сябрамі.

Раздзел "За годам — год, за вехай — веха" атрымаўся найбольш сучасны. Не столькі постацямі аўтараў, колькі сваёй тэматыкай. Прадстаўлены творы пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС: паэтычная падборка Міколы Мятліцкага, урывак з рамана Івана Шамякіна "Злая зорка", рэцэнзія Алеся Марціновіча на два тамы зборніка "Прайсці праз зону", што выйшлі у 1996 і 2001 гадах. Таксама чытач сустрэне знакамітых "Львоў" Івана Пташнікава, прозу Віктара Казько, Алеся Наўроцкага, Барыса Пятровіча, Ніны Рыбік, Аляксандра Сопата і Лідзіі Адамовіч, паэзію Алы Канапелькі, Уладзіміра Мазго, Уладзіміра Даўгалычанкі, Уладзіміра Ляшчуна і Алены Рыбік. Несумненны інтарэс чытачоў выклікаюць урыўкі з кнігі Дзмітрыя Вінаградава "Свет погасшей звезды", прысвечанай асобе знакамітага вучонага Якуба Наркевіча-Ёдкі.

Парадавала і афармленне кнігі. Як шыкоўнай вокладкай, на якой прадстаўлены дзіўнай прыгажосці хойніцкі краявід, так і каляровай уклейкай (фотаздымкі Кастуся Дробава і прадастаўленыя хойніцкімі майстрамі), што адлюстроўвае сучасныя старонкі жыцця рэгіёна.

"Дзівасіл" патрэбны не толькі чытачам з усёй рэспублікі, якія будуць мець лепшае ўяўленне пра творчыя набыткі гэтага цікавага рэгіёна, але і самім жыхарам Хойнікаў. Мабыць, упершыню яны атрымалі магчымасць паглядзець на свой край з такога ракурса, яшчэ раз перачытаць творы класікаў і ўбачыць творчыя пошукі сучаснікаў. Таму не здзіўлюся, калі хтосьці з маладых хойніцкіх чытачоў "Дзівасіла" зробіць пад уплывам гэтай кнігі свае першыя паэтычныя ці празаічныя спробы.

Даніла АРЦІМОВІЧ

## Унікальныя выданні




Зусім нядаўна ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" пабачыла свет кніга "Хойнікшчына: паданні, падзеі, людзі". На яе вокладцы сімвалічна змешчаны фотаздымак лесу, змешанага, але з пераважнай колькасцю сосен. Выбар такога пейзажу для вокладкі невыпадковы: па адной з версій, назва горада (першапачаткова Хвойнікі), у часы Рэчы Паспалітай ператварылася ў Хойнікі (ад польск. choina — сасна, хвоя). Аўтарам тэксту кнігі з'яўляецца ўраджэнец Хойнікаў Дзмітрый Вінаградаў. Выданне цудоўна аформіў дызайнер Уладзімір Шолк, кніга багата ілюстравана фотаздымкамі Кастуся Дробава і Анатоля Клешчука, фотаматэрыяламі з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

# Гістарычныя адкрыцці і вяртанні



Помнік землякам, якія загінулі ў Афганістане

Кніга "Хойнікшчына: легенды, падзеі, людзі" складаецца з раздзелаў, якія асноўныя моманты жыцця рэгіёна, яго гісторыю, сучаснасць, асаблівасці геаграфічнага становішча, спартыўнае, мастацкае, эканамічнае жыццё, стан адукацыі і ўзровень медыцынскага абслугоўвання. Асобныя раздзелы выдання прысвечаны культурнаму жыццю на Хойнікшчыне, храмам і рэлігіі. Асаблівы боль і сум выклікаюць старонкі кнігі з назвай "Горкі палын Чарнобыля".

Распавядае аўтар кнігі Дзмітрый Вінаградаў: "Хойнікшчына — мая малая радзіма. Таму, як кожнаму пісьменніку, вельмі хацелася напісаць значны твор пра яе, аддаючы даніну вялікай павагі і любові. Тут прайшло маё дзяцінства, незабыўныя школьныя гады, юнацтва. Адсюль я пайшоў у вялікае жыццё. Але куды б мяне не кідаў лёс — на Урал, Сібір, Алтай, Казахстан — заўсёды мяне цягнула дадому, на Хойнікшчыну".

Назва кнігі "Хойнікшчына: легенды, падзеі, людзі" дала напрамак для працы па яе стварэнні. Як адзначае аўтар, каб сабраць патрэбны матэрыял за два гады яму давялося зрабіць больш васьмідзесяці паездак у розныя ўстановы Гомеля, Мазыра, Рэчыцы, дзе, верагодна, маглі знаходзіцца дакументы па гісторыі краю. У ажыццяўленні ўсіх аўтарскіх задумак Дзмітрыю Леанідавічу дапамагалі загадчыца ідэалагічнага аддзела Хойніцкага райвыканкама Жанна Чарняўская, работнікі Хойніцкага раённага краязнаўчага музея Святлана Шымілава і Андрэй Эсауленка, краязнаўца і настаўнік Сяргей Бельскі, работнікі Нацыянальнага і Нацыянальна-гістарычнага архіваў Беларусі, супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі.

Паступова вырастала кніга, амаль з небыцця вярталіся постаці калісьці вядомых землякоў Караля Празара, мясцовага памешчыка і змагара за незалежнасць Айчыны, сябра і паплечніка Тадэвуша Касцюшкі, яго прыгоннага селяніна, грэнадзёра Сібірскага палка Арцёма Мельніка, які загінуў у апошняй штыкавой атацы побач с генералам Баграціёнам на Барадзінскім полі, таленавітага вучонага і цудоўнага літаратурнага містыфікатара Мікалая Ястржэмбскага.

Акрамя гістарычных вяртанняў, ёсць у кнізе і літаратурныя адкрыцці. "Як было прыемна знайсці невядомы, самы першы надрукаваны верш Івана Мележа "Калісь на Арбаце", — зазначае Дзмітрый Вінаградаў. Нават сам пісьменнік на яго забыўся і нідзе не згадваў. Падаецца значным, што праз 72 гады верш зноў надрукаваны менавіта ў кнізе "Хойнікшчына: паданні, падзеі, людзі".

Афармленне кнігі дастаткова сучаснае і параўнальна сціплае, бо, як заўважыў дызайнер Уладзімір Шолк, у сваіх працах ён стараецца пазбягаць залішняга ўпрыгожання, імкнецца да большага лаканізму. "Камусьці можа падацца, што кнігі выглядаюць сухімі, калі ў іх няма ўпрыгожанняў, — зазначае Уладзімір Ісаакавіч. — У той жа час, калі фотаздымак выразны, яго ўжо няма сэнсу падмацоўваць нейкім эфектам, трэба толькі ўмець выкарыстоўваць інфармацыю, што ўжо змешчана ў ім. Я займаюся вывучэннем кнігі, стараюся адсочваць усё лепшае, што робіцца ў гэтым кірунку ў свеце".



Майстрыха Паліна Бенгубенка, вёска Тунеўшчына.

Па словах Уладзіміра Шолка, у кнізе, як і ў паэзіі, важна знайсці мелодыку, рытм, танальнасць. У дадзеным выпадку для яе стварэння дызайнер прымяніў спрошчаны ненавязлівы шрыфт (для стварэння "разрадкі" значным фотаздымкам), які добра спалучаецца са змястоўнымі фотаздымкамі. Па словах Уладзіміра Ісаакавіча, важна, каб спачатку фатографы, а потым і мастак натхніліся тэмай. У дадзеным выпадку было менавіта так, ён нават шкадуе, што аб'ём выдання абмежаваны, шмат цудоўных здымкаў давялося пакінуць без увагі. Па словах фатографаў і мастака, праца над кнігай, ды і сама кніга цалкам змянілі ўяўленне пра хойніцкі край. Кніга паказвае, што гэта рэгіён за багатай гісторыяй і пасляховай сучаснасцю.

Падчас актыўнай працы над кнігай было сабрана шмат цікавых фактаў, і, як адзначае Дзмітрый Вінаградаў, у выдадзеную кнігу ўвайшла толькі невялікая частка. Тым не менш, аўтар не губляе даследчыцкага і пісьменніцкага энтузіязму, спадзяецца, што ў поўным аб'ёме кніга выйдзе да 500-годдзя Хойнікаў, якое будзе адзначацца ў 2012 годзе. Да таго ж, Дзмітрый Леанідавіч упэўнены, што многія з чытачоў "Хойнікшчыны" дапоўняць кнігу змястоўнымі і цікавымі матэрыяламі.

Чэслава ПАЛУЯН



Новыя будынкі ўпрыгожваюць райцэнтр.



Краявіды Хойнікшчыны.

На здымках: ілюстрацыі з кнігі.

Фота Кастуся Дробава і Анатоля Клешчука

## Пад вокладкай
















1. Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 1. 1909 — 1939 / уклад.: В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 320 с.

Зборнік з'яўляецца своеасаблівым працягам прац Генадзя Кісялёва "Пуцявінамі Янкі Купалы" і "З жыццяпісу Якуба Коласа", дапаўненнем да Поўнага збору твораў Янкі Купалы. У ім публікуюцца невядомыя і малавядомыя дакументы, у тым ліку аўтографы класікаў. Аснову зборніка складаюць дакументы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Расійскага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва, выкарыстаны таксама матэрыялы музеяў песняроў, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці, Цэнтральнага архіва Камітэта Дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь і інш.

2. Гришукевич, Д. Облики любви: рассказы, повесть / Диана Гришукевич. — Минск: Мастацкая літаратура, 2010. — 158 с.

У сваёй дэбютнай кнізе маладая пісьменніца сур'ёзна разважае на тэмы, якія вечна хвалююць пакаленне дваццацігадовых маладых людзей: каханне і адданасць, сяброўства, чысціня чалавечых узаемаадносін, праблемы "бацькоў і дзяцей". Назіральнасць і добрая мова аповеда робяць творы Дзіяны Грышукевіч прывабнымі і цікавымі для шырокага кола сучасных чытачоў.

3. Шугля, В.Ф. Дороги жизни…: стихи / Владимир Шугля. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 160 с.

Новы зборнік вершаў паэта і публіцыста Уладзіміра Шуглі склалі вершы, напісаныя ў апошнія гады. У іх паэт працягвае, як і ў папярэдніх кнігах паэзіі, пошукі новых лірычных вобразаў на непаўторных дарогах жыцця, дзе высокі духоўны пачатак перамагае і ўзвашаецца над падманнымі шляхамі быцця. У зборнік увайшлі вершы на розную тэматыку: радзіма і каханне, філасофскае асэнсаванне быцця і пошукі рэлігійнай духоўнасці.

4. Васілевіч, А. Выбраныя творы / Алена Васілевіч; уклад, камент. аўтара; прадмова А. Сямёнавай. — Мінск: Беларуская навука, 2010. — 532 с.

Пяцьдзесят трэці том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор» склалі лепшыя апавяданні і эсэ, а таксама тры аповесці славутай тэтралогіі «Пачакай, затрымайся» Алены Васілевіч. Падкрэсліваючы нехрэстаматыйнасць, яркі, дынамічны, прыцягальны характар прозы Алены Васілевіч, Ала Сямёнава ў прадмове да выдання піша: «Пісьменніцу цікавіць аўра матэрыі, псіхафізічны стан, што адухаўляе наша быццё, стварае яго настрой, вызначае яго танальнасць. Калі выяўляюцца характары і адметнасці асобы, калі дэталі высвечваюць трагіфарсы, трагікамедыі, драмы нашага жыцця».

5. Кизи, Кен Последний заезд / Кен Кизи. — Москва: Эксмо, 2010. — 336 с.

Упершыню на рускай мове ў перакладзе Віктара Голышава (майстра, якому чытачы абавязаны і "Зязюляй") выйшаў апошні раман Кена Кізі, гуру псіхадэлікі і аўтара аднаго з самых важных кніг XX ст. — "Над гняздом зязюлі". Сюжэт рамана "Апошні заезд" заснаваны на рэальных падзеях, калі ў арэгонскім гарадку Пэндлтан праходзіў першы чэмпіянат свету па радэо, які з таго часу стаў штогадовым. "Тры бессмяротныя коннікі з'явіліся на паўночна-заходнім гарызонце — далёкія, туманныя, асветленыя ззаду вялікай колькасцю гісторый, рэальных і прыдуманых так, што іх цені здаюцца больш рэальнымі і значнымі, чым сілуэты". І толькі адзін з іх атрымае ўпрыгожанае срэбрам сядло, і толькі адзін — каханне каралевы радэо, толькі аднаму наканавана ўвайсці ў гісторыю.

З кнігамі знаёміла
Марына Весялуха

Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by

# «...Я цябе памятаю!»



Лідзія АДАМОВІЧ

## Апавяданне

Лідзія Адамовіч (Казлоўская) нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Клівы Хойніцкага раёна. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут. Аўтар кніг "Першая запаведзь" (1995), "Кветкі самотнай княжэўны" (1999). Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Працуе дырэктарам Мікалаеўшчынскага Дома фальклору на Стаўбцоўшчыне.

"Наша жыццё ёсць адлюстраванне нашых думак"
(З блакнота аўтара)

Каця Лазоўская перастала сябе любіць пасля таго, як Янка Нічыпарук, у адказ на яе прызнанне ў каханні, заявіў:

— Ты — меланхолік, а мне патрэбна жанчына-лідэр, якая вядзе за сабою!

Тады дзяўчына, каб "выбіць з сябе меланхоліка", запісалася ў клуб альпіністаў і дасягнула пэўных поспехаў. У Каці з'явіліся новыя сябры. Яна часта запрашала іх да сябе ў госці. Ад фірменнай стравы Лазоўскай — узбітай смятанкі з шакаладам — ажно аблізваліся таварышы па клубе. Кацю любілі, хлопцы заглядваліся на яе, прапаноўвалі сяброўства. Аднак дзяўчыне патрэбна было каханне толькі Нічыпарука. І яна са спадзяваннем чакала, што хутка Янка адчуе ў ёй родную душу і пакахае. Аднак Нічыпарук узяў шлюб з іншаю: валявой і энергічнай Вікторыяй Ждан, якая ў свае дваццаць шэсць год ужо ўзначальвала аддзел праектнага бюро, дзе працаваў Янка.

Вядома, Каця вельмі хвалявалася. І аднойчы, заўважыўшы яе стан, Васіль Сямёнаў, кіраўнік клуба альпіністаў, чалавек з вялікім жыццёвым досведам, старэйшы за Кацю гадоў на дзесяць, супакоіў дзяўчыну.

— Было б з-за чаго плакаць! — сказаў ён. — Нічыпарук — мужчына не твайго стылю. Падкаблучнік ён, і сам табе ў гэтым прызнаўся! Калі мужчына гаворыць, што ён шукае жонку-лідэра, то не думай, што за ягонымі словамі ўтойваецца нейкі іншы сэнс.Ён гаворыць праўду! Тут і пню зразумела: не воін твой Янка, бо сам амазонку шукае!

Праз два гады Янка і Каця выпадкова сустрэліся на вуліцы. Хлопец выглядаў засмучаным і незадаволеным.

Яны зайшлі ў невялічкае кафэ і Нічыпарук паскардзіўся:

— Я толькі цяпер зразумеў, што ты выдатная дзяўчына. А Вікторыя ўва ўсім нада мною ўзяла верх. Нават прозвішчу майму ганьбу дала, на дзявочым засталася.

Янка ўздыхнуў і дадаў, гаркотна і пахмурна:

— Ты захаплялася маёй іграй на гітары, а жонка кажа, што граю я дрэнна і спяваю дрэнна. Нічым ёй не дагодзіш!

— Навошта ж тады жаніўся? Бачылі вочкі, што выбіралі!

— За лідэрства яе пакахаў! Кватэру сама пабудавала, у начальнікі выбілася!

— А ты здаваўся мне такім дарослым, моцным! — уздыхнула Каця. — Я тады толькі што ўніверсітэт скончыла, а ты ўжо працаваў вядучым інжынерам. Мне так хацелася схавацца за цябе, раіцца з табою, прасіць дапамогі! Якой я была наіўна-зялёнай у свае дваццаць тры гады!

Пад Новы год Каця Лазоўская паехала ў вёску да бабулі і тая расказала ёй, што некалі нашы продкі раілі сваім дочкам на маладзіку, у першыя месячныя суткі, загадваць на мужа. Трэба было ў думках надзяліць вобраз будучага мужа тымі рысамі характару, якія больш даспадобы дзяўчыне. Казалі, што задуманы мужчына абавязкова павінен сустрэцца ёй праз шэсць дзён пасля маладзіка. Ці праўда тое, ці не, але Каця вырашыла паспрабаваць варажбу на сабе.

Шостыя месячныя суткі прыпадалі якраз на нядзелю, 13 студзеня. Каця з раніцы выйшла ў горад, каб прагуляцца. А паколькі дзень быў незвычайны, так бы мовіць, Стары Новы год, то з царкоўных званіц пераліўна зазывалі званы. І Каця разгубілася паміж цэрквамі, у якія хацела зайсці. Так і засталася стаяць на тратуары, разважаючы, пераходзіць ёй праспект на другі бок, каб патрапіць ў адну царкву, ці прайсці крыху далей, да парку, дзе званіла другая царква.

І тут здарылася нечаканае!

Насустрач ёй шпарка крочыў мужчына ў стыльным доўгім паліто. І крыссе паліто раздзімалася так, як быццам гэта быў плашч вершніка, што імчыць на кані. "На дапамогу, — мільганула ў думках дзяўчыны, — ён спяшаецца мне на дапамогу!" І ўспыхнулі ў памяці згадкі з далёкага сну. Белыя сцены. Суд інквізіцыі. Яе прыгаворваюць да спальвання на вогнішчы. І вось яна ўжо на плошчы. Але кат не паспеў запаліць вогнішча — вершнік у чорным плашчы саскочыў з каня і праз натоўп скіраваў да яе. Ён ішоў так, як ідзе ваявода, і ўсе расступаліся перад ім. Дужымі нагамі, са злосцю, ён раскідаў рыштаванні вогнішча, адвязаў ахвяру ад слупа. І тады яна ўзглянула на яго і сустрэлася з дзіўнымі сонечна-карымі вачыма.

Каця глянула ў твар незнаёмца, што рухаўся ёй насустрач, і... патанула ў лагодзе сонечна-карых вачэй! Гэта было, як іскра, як імгненне, як пранізлівы ток! Адно салодкае імгненне і ... ён размінуўся з ёю, пайшоў далей. А Каця глядзела яму ўслед вачыма, поўнымі здзіўлення. Няўжо яна думкамі сваімі выклікала прывід з мінулага? Аднак не, мужчына набываў рэальныя рысы: ён падышоў да сваёй машыны, прыпаркаванай ля крамы, і дастаў ключы. Да яго скіравала жанчына, нагружаная сумкамі, элегантная і прыгожая. Ён забраў з яе рук пакункі, кінуў у машыну, а перад жанчынай галантна расчыніў пярэднія дзверцы, усміхнуўся, гаворачы нешта ласкавае. І ў гэты момант зіхатнуў на яго правай руцэ заручальны пярсцёнак.

Ішоў час. Даўно скончылася зіма, прайшла вясна, а потым і лета. Сярод буйнай лістоты з'явіліся жоўта-аранжавыя фарбы. Восень спраўляла баль. У Кацінай душы сціхлі вясенне-летнія ўзрушэнні, успаміны пра дзіўную сустрэчу з незнаёмцам. Хто б ён не быў, у рэшце рэшт, ён жанаты.

Сёння дзяўчына вырашыла прагуляцца па вячэрнім Мінску. Ішла ўздоўж праспекта, радавалася прыгажосці горада і харастве прыроды. Падышла да парку Чалюскінцаў і адтуль з танцпляцоўкі данеслася песня:

Наверно, это мой рай.
...В лучах оконного света
Так близко кажется небо,
Когда глаза цвета "рай".
И хорошо, что он не знает
Про такую, как я,
И что в мечтах моих
Ванильные снежинки, зима.
А под шагами босоногими —
Метели и лёд.
Он больше никогда
Из мыслей моих не уйдёт.
И мне не стыдно
закричать о том,
Что это любовь,
Его слова на три минуты
Так прожгли мою кровь!
Я продолжаю повторять тебе,
Что всё хорошо,
Но понимаю: он мне нужен,
нужен ещё!

Нешта прымусіла Лазоўскую азірнуцца і нечакана яна ўбачыла, як да стаянкі пад'ехала і затармазіла цёмна-сіняя BMW. Ён яшчэ не паспеў выйсці, але сэрца Каці затрапятала: гэта — яе незнаёмец! Мужчына быў апрануты проста, па-летняму, відаць ехаў з адпачынку ці рыбалкі, бо на ім былі штаны плямістага колеру, накшталт ваеннай уніформы і такая ж камізэлька, надзетая паўзверх цёмна-сіняй сарочкі з кароткімі рукавамі. Узрушаная ўбачаным, Каця пастаралася запомніць нумар машыны, каб потым, праз знаёмых, даведацца прозвішча ўладальніка. На дадзены момант дзяўчыну цікавіла толькі адно: гэта рэальны мужчына або прывід? І чаму ён вырашыў напомніць пра сябе тады, калі яна забылася пра яго?

Назаўтра Каці патэлефанаваў Васіль Сямёнаў.

— Машына належыць Вікторыі Ждан, — паведаміў ён.

Расчараванню Каці не было межаў: мала таго, што яе незнаёмец жанаты, дык ён яшчэ і з'яўляецца нейкім родзічам гэтай бізнес-ледзі Ждан, якая адбіла ў яе Янку! А, магчыма, і палюбоўнік. І Лазоўская вырашыла больш ні ў каго не ўлюбляцца, а пачаць працаваць над сабою, каб стаць не горшай за Вікторыю Ждан, а, можа быць, і лепшай!

Працу над сабою Лазоўская пачала з перамены іміджу. Не, яна не стала капіраваць Вікторыю – яна стала яе антыподам. Калі Ждан насіла кароткую стыльную стрыжку, то Каця адрасціла валасы і насіла іх прамымі, не завівала, а закалвала прыгожай заколкай. Вікторыя апраналася ў дзелавыя касцюмы, Каця ж пачала насіць рамантычныя і спартыўныя строі. Вікторыя вадзіла машыну, Каця ж пакінула гэты прэстыж за мужчынскай паловай. Ждан гаварыла хутка і па-камандзірску, Каця змяніла свой голас да мілагучнасці. Тайна сапернічаючы з Вікторыяй, Каця ганаралася сабою — яна лепшая, мілая і прывабная! Гэту перамену ў дзяўчыне заўважылі многія. Нават Янка, сустрэўшыся з Кацяй ў горадзе, асыпаў яе кампліментамі. А назаўтра патэлефанаваў.

— У мяне для цябе ёсць вельмі важная справа, — заявіў ён і прызначыў сустрэчу ў кафэ.

Спачатку мяўся, гаварыў кампліменты, а потым рашыўся.

— Каця! Я вельмі вінаваты перад табою, — сказаў Янка, — таму хачу выправіць памылку. У Вікторыі ёсць родны брат, мае свой дом на хутары і пасеку. Ён — выдатны пчаляр і добры чалавек. Таксама яшчэ не стварыў сям'ю, як і ты. Таму мы з жонкай вырашылі пасватаць вас, вядома, калі ты згодна!

І Каця прыняла яго прапанову.

На хутар паехалі ўтраіх. Вікторыя была за рулём прыгожай машыны, "Пежо". І Каця пацікавілася, ці былі ў Вікторыі да гэтага іншыя машыны.

— Самай першай машынай у мяне была BMW, — адказала Вікторыя. — Але я прадала яе брату.

"Няўжо брат Вікторыі і ёсць той незнаёмец?" — захвалявалася Каця.

Але, калі прыехалі на хутар, дзяўчыну чакала расчараванне: брат Вікторыі, Пётр, аказаўся не тым, пра каго яна думала ўсе гэтыя гады. Ён быў прывабны, бялявы, падобны да Вікторыі, працавіты чалавек, дбайны гаспадар. А з думак Каці не выходзіў той, каго яна спаткала два гады таму.

Пасля невялічкага застолля Пётр прапанаваў Каці агледзець гаспадарку. Паказваў дом, свіран, пасеку, старанна расказваючы пра свае будзённыя справы і не раз зазначаючы, што ў ягонай гаспадарцы яму не хапае памочніцы.

— Калі схочаш — заставайся, — прапанаваў Пётр, — разам упраўляцца будзем! І мне весялей, і ты, я думаю, не засумуеш.

Увесь вечар Каця разважала над прапановай хлопца. А ноччу ёй прысніўся сон, быццам бы яна, з іконай пад ручніком, ідзе сватацца адначасова і да Пятра, і да Янкі. І тут падсаджваецца да яе мужчына, чарнявы, каржакаваты, шыракаплечы, і кажа ёй:

— Не ідзі ў сваты ні да аднаго з іх!

Прачнулася Каця на досвітку і не магла зразумець, што азначае гэты сон, і ці трэба следаваць яго парадам?

Нядзелькай, апоўдні, госці паехалі збірацца ў Мінск.

— Прыязджай яшчэ! — працягнуў Пётр руку дзяўчыне.

— Прыеду! — паабяцала яму Каця і раптам успомніла пра BMW. — А пакажы мне сваю машыну! — папрасіла яна.

— Ды гэта даўно было! — адказаў Пётр. — Прадаў я яе, два гады таму. А сабе купіў грузавую. Грузавая машына на хутары больш зручная за легкавуху!

— А каму ты яе прадаў? — прашаптала Каця.

— Ды пчаляру аднаму, з Нясвіжа. Дарэчы, гэта ён навучыў мяне пчалярскай справе! Вось такое патрэбнае знаёмства адбылося на аўтарынку. А дагэтуль я свіней гадаваў, парасят прадаваў, з таго і жыў.

— А як завуць таго пчаляра?

— Давай тады вернемся ў хату! — прапанаваў Пётр. — Калі так цікавішся, зараз я ў даведніку фермерскіх гаспадарак пагляджу. А вось і ён! Вячаслаў Садоўскі, фермерская гаспадарка "Медуніца", вёска Задвор'е. Гэта зусім недалёка ад Нясвіжа. Я, дарэчы, ездзіў да яго пару разоў. Хорошы чалавек, прыветлівы.

Фермерскую гаспадарку Садоўскага Каця знайшла адразу. Чаго ехала сюды, не ведала, і што будзе гаварыць яму, калі стрэнуцца, таксама. Хацелася проста пабачыць яго, упэўніцца ў яго рэальнасці.

Вечарэла. Накрапваў ціхі летні дождж. Каця зайшла ў двор праз невялічкую браму. У акуратна складзенай з бярвення хаце мільгала святло, як ад каміна. Гаспадар выйшаў на ганак. Ён паглядзеў на Кацю так, як быццам даўно чакаў.

— А я вось тут з рыбалкі прыйшоў, — сказаў ён. — Прамок крыху. Вырашыў камін запаліць. А тут – госці да нашага агеньчыка! Праходзьце, калі ласка! — ветліва запрасіў у хату.

Гэта быў той самы мужчына, якога два гады таму яна стрэла ў Мінску і якога здалёку кахала, нават не ведаючы, хто ён!

— Будзем знаёмыя! — працягнуў ёй руку. — Вячаслаў Садоўскі, фермер-пчалавод. А вы, я так мяркую, на практыку? Мне ўчора тэлефанавалі з вашага каледжа.

— Мяне завуць Каця Лазоўская. Я з Мінска, з клуба альпіністаў.

— Дык вось яно што! — усклікнуў Садоўскі. — А я-та думаю, дзе цябе бачыў! Сядай, сядай хутчэй да стала! Зараз згатую чай, па нашай альпінісцкай звычцы. Памятаеш, як мы пілі чай у аэрапорце "Мінводы"? Ты спазнілася на свой рэйс да Мінска, а ў нас быў адзін білет лішні. У мяне, дарэчы, ёсць відэазапіс, як мы сядзелі ў зале чакання і спявалі песні.

— Я цябе памятаю! — усклікнула Каця. — Ты — Слава! Ты быў кіраўніком групы. А потым я цябе бачыла два гады таму ў Мінску. Гэта было зімою.Ты быў апрануты ў доўгае чорнае паліто і ішоў да сваёй машыны. З табою яшчэ была жанчына, яна падала табе сумкі. А потым, праз год, я зноў убачыла цябе, ля парку Чалюскінцаў. Ты пад'ехаў туды на BMW.

— Чаму ж не падышла? Я якраз ехаў да аднаго пачаткоўца-пчаляра. Ён жыве непадалёку ад Мінска, на хутары.

— Пётр Ждан?

— І ты яго ведаеш?

— Гэта ён мне даў твой адрас.

— Ты хацела пабачыць відэафільм і ўспомніць свае даўнія юнацкія прыгоды? — усміхнуўся Слава.

І Каця заўважыла, што на яго правай руцэ зусім не заручальны пярсцёнак, а залатая пячатка!

— Я проста хацела пабачыць цябе, — прызналася дзяўчына. — Пасля той, выпадковай, сустрэчы з табою ў Мінску, на працягу двух гадоў я хацела сустрэцца з усімі вамі, альпіністамі. Вы тады вельмі дапамаглі мне!

— Я памятаю, чаму ты вярталася ў Мінск адна, без сваёй групы. Ты пакінула альплагер таму, што пры пераходзе горнай рэчкі ў цябе з'явілася вадабоязь, паніка.

— Як ты ўсё дасканала памятаеш! Я пра гэтую акалічнасць ужо і забылася.

— Я памятаю гэта па-іншай прычыне.

— У цябе таксама вадабоязь?

— Не! Ты падобная да адной дзяўчыны з майго сну. Гэты сон мне прысніўся ў гарах. Кажуць, у гарах з чалавекам здараюцца неверагодныя выпадкі. Так было і са мною. На ўзыходжанні, на вялікай вышыні, нам не хапала кіслароду. Ты знаёмая з гэтым і ведаеш, што бывае ў такіх выпадках. Можна сказаць, гэта не сон і не мроя, гэта — рэальнасць. Я наяве адчуваў тое, што мне ці то снілася, ці то мроілася: і гарачыню, і боль, і шквальны вецер, і тое, як мы танулі. Спачатку было страшна, а потым жах прайшоў: я з цікаўнасцю разглядваў водарасці і рыб у акіяне. Кажуць, што гэта — галюцынацыі ад разрэджанага паветра, ад недахопу кіслароду. А іншым разам у такія хвіліны перад табою мільгаюць эпізоды жыцця, і неабавязкова сённяшняга, але і мінулых жыццяў, для таго, каб ты запомніў і зрабіў тое, чаго не паспеў зрабіць у мінулым жыцці.

Каця слухала яго і параўноўвала ягоны аповед са сваім сном. І, быццам прачытаўшы яе думкі, Садоўскі сказаў:

— У цябе ніколі не было праблем з рэлігіямі ў гэтым жыцці? Я выратаваў дзяўчыну, якую прыгаварыла інквізіцыя. Але мы загінулі ў шторм. Напэўна, каб сустрэцца ў сённяшнім часе?

Каця глядзела на Садоўскага вачыма, поўнымі хвалявання.

— Я чакаў цябе, — сказаў ён.

— Я цябе памятаю!..

Наступіла крыштальная цішыня, і сярод гэтай цішыні дзяўчына прашаптала:

— Я заўсёды верыла, што ты дзесьці ёсць! Не можа чалавек адзін нарадзіцца на зямлі, без сваёй пары. Хоць некалі, але яны павінны сустрэцца!





# Знакі прысутнасці

Які ўжо год, рыхтуючыся да свята роднага слова, мы не проста імкнёмся да інфармацыйнай насычанасці ды разнастайнасці святочнага выпуску "ЛіМа". Свядома ці не, а мы спадзяёмся адшукаць, сабраць, напісаць для свайго чытача штосьці значнае і адметнае, невядомае ці падзабытае; вылучыць тое істотнае, асноватворнае для чалавечай душы, для беларускага духу (без чаго мы — ніхто), што прамінаем у калатнечы будняў, бо не хапае часу засяродзіцца, звярнуць увагу, задумацца і паразважаць. А калі чалавеку бракуе часу на тое, каб думаць, адчуваць, перажываць, — гэта ўжо непарадак... Дык вось, Дзень беларускага пісьменства, надзвычай важная, знакавая для нашай маладой дзяржавы, усенародная падзея, па-свойму парадкуе нашу запраграмаваную і адначасова хаатычную штодзённасць. Дзеля гэтага Дня мы міжволі наводзім парадак у сваіх ведах і меркаваннях, стымулюем і ўзбагачаем уласную памяць, паглыбляем досвед... А потым, калі так хочацца падзяліцца з чытачом уражаннямі, назапашанымі ў кампаніі мудрых кніг, у гутарках з эрудзіраванымі суразмоўцамі, пачынаеш разумець, што на гэта не хопіць ні часу, ні газетнай прасторы. І гэта прытым, што на абсягу лімаўскай "Сядзібы муз" сёлетні галоўны горад усебеларускага свята падаецца, на першы погляд, даволі сціплым госцем.

Але — толькі на першы погляд! Бо як і год, і тры, і пяць гадоў таму, сімвалічная сталіца свята не ўспрымаецца нейкім адасобленым, самакаштоўным, замкнёным асяродкам, рэччу ў сабе. Пра далёкі ад рэальнай беларускай сталіцы горад Хойнікі думаеш як пра своеадметны куток вялікай Гомельшчыны, нябачнымі духоўнымі повязямі спакроўлены з гісторыяй, культурнымі традыцыямі, творчасцю таленавітых людзей усёй гэтай прыгожай і шматпакутнай палескай зямлі, якая натхняла і натхняе на творчасць празаікаў і паэтаў, артыстаў і жывапісцаў, кампазітараў і фотамастакоў. У жыццёвым кантэксце гомельскага Палесся — і Хойнікі, і бліжэйшыя суседзі: Рэчыца, Мазыр, Жыткавічы, Тураў, Брагін, Лельчыцы... І ў гэтым кантэксце — знакі прысутнасці багатай і самабытнай культуры. Зрэшты, як ні банальна пра гэта згадваць, — Яе Вялікасць Культура не падпарадкоўваецца ні геаграфічным, ні адміністрацыйным межам. Знакі прысутнасці палескай культуры знойдзеш і ў Мінску, варта толькі прыглядзецца, прыслухацца, паўспамінаць...

У сярэдзіне 1960-х на Купалаўскай сцэне быў пастаўлены спектакль "Людзі на балоце" (над інсцэніроўкай прозы Івана Мележа працавалі журналіст Тамара Абакумоўская і рэжысёр Барыс Эрын). Лілія Давідовіч у ролі Ганны, Генадзь Гарбук у ролі Васіля, а таксама Віктар Тарасаў, Барыс Уладамірскі, Стэфанія Станюта... Выдатны акцёрскі ансамбль перадаў самабытны дух, мову, перапаканальна ўвасобіў характары герояў рамана. Нездарма была зроблена тэлевізійная версія пастаноўкі. Мінула паўтара дзесяцігоддзі — і кінарэжысёр Віктар Тураў рызыкнуў зняць мастацкі фільм паводле вялікай кнігі...



А неўзабаве ў тэатры, у дакументальным і ў мастацкім кіно, у літаратуры, у музыцы і выяўленчым мастацтве тэма Палесся загучала пранізліва і трагічна... Чарнобыльская бяда не абмінула нікога. Таму яе тэма ўвайшла нават у інструментальную музыку (прыкладам, "Цэзій-137" Вячаслава Кузняцова, "Стронцый-90" Сяргея Бельцюкова) і ў песенны жанр...

Ды ўсё ж спрадвечнаю крыніцай натхнення для творцаў былі і застаюцца фальклор Палесся, яго велічная прырода, яго духоўная культура і гісторыя. Знакі гэтага самабытнага краю — і ў творчасці многіх майстроў выяўленчага мастацтва, сярод якіх — ураджэнец Брагінскага раёна, мудры і нястомны Гаўрыла Харытонавіч Вашчанка, чые новыя палотны экспанаваліся на сёлетняй рэспубліканскай выстаўцы ў сталічным Палацы мастацтва "Краявід-2010". Палескі дух — у песнях мінчаніна Ігара Лучанка і незабыўнага Уладзіміра Будніка, паходжаннем — тураўляніна. Ад рэчыцкіх вытокаў — выканальніцкая дзейнасць інструментальнага трыо "Лірыца", што працуе сёння пры Гомельскай абласной філармоніі, паспяхова выступае за мяжой, перамагае на конкурсах і заслужана носіць званне лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі за 2009 год. Знаны маэстра Міхаіл Фінберг родам з-пад Мазыра, і ніколі не забываецца пра сваю малую радзіму; Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі пад яго кіраўніцтвам штогод выступае на Гомельшчыне, а ў старажытных Чачэрску і Тураве ладзіць асветніцкія фестывалі музыкі. Дарэчы, летась у праграме такога традыцыйнага фестывалю духоўнай і камернай музыкі паспяхова дэбютаваў Тураўскі народны хор пад кіраўніцтвам Васіля Птушко. Сёлета гэтаму самабытнаму калектыву, лаўрэату некалькіх конкурсаў і фестываляў, спаўняецца 65 гадоў.

А саблівая духоўная сувязь з Палессем у Міхася Дрынеўскага, мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі, таленавітага пераемніка легендарнага Генадзя Цітовіча. Міхась Паўлавіч нарадзіўся ў самай спеўнай беларускай вёсцы Тонеж, што ў Лельчыцкім раёне, але разбіраецца ва ўсіх рэгіянальных тонкасцях палешуцкіх спеваў. Цяпер, хоць і зрэдчас, бывае ў родных краях разам са сваім знакамітым хорам, які носіць імя Генадзя Цітовіча. Двойчы выступаў гэты калектыў ва ўжо абноўленым, папрыгажэлым горадзе Хойнікі. У свяце беларускага пісьменства паўдзельнічаць не давядзецца, а вось да вялікага восеньскага фэсту "Кліч Палесся" хор пад кіраўніцтвам маэстра Дрынеўскага рыхтуе сюрпрыз. Які? Нашы чытачы пра гэта абавязкова даведаюцца.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Тураўскі народны хор пад кіраўніцтвам Васіля Птушко (злева з баянам); Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхася Дрынеўскага; трыо "Лірыца" Гомельскай абласной філармоніі.

Фота аўтара

# Загучыць «Гусляр». Па-новаму




**На свяце ў Хойніках прагучыць рок-опера "Курган", над якой працавала творчае аб'яднанне "Спадчына" пад кіраўніцтвам паэта Андрэя Скарынкіна. У ліпені 2010 года твор убачыў свет на дыску, выдадзеным фірмай "Вігма". А цяпер рыхтуецца сцэнічны паказ.**

З'яўленне новай інтэрпрэтацыі твора, вядомага ў свой час пад назвай "Гусляр", супадае з трыма сёлетнімі юбілеямі. 100 гадоў прайшло з часу напісання Янкам Купалам паэмы "Курган", паўстагоддзя таму на яе тэкст была створана аднайменная кантата Ігара Лучанка. Потым на яе аснове "Песняры" на чале з Уладзімірам Мулявіным прадставілі публіцы прэм'еру паэмы-легенды "Гусляр", і гэта было 30 гадоў таму.

Ігар Лучанок, народны артыст СССР, кампазітар:

— Паэма Янкі Купалы "Курган" была напісана 100 гадоў таму. Але ў ёй узнята заўжды надзённая і распрацаваная ў мастацтве многіх народаў тэма дабра і зла. Я паспрабаваў па-свойму адгукнуцца на яе і напісаў музыку. Спачатку гэта была музыка для акадэмічнага хору, сімфанічнага аркестра і двух салістаў. Гусляр быў барытон-бас, а Князь — тэнар. Кантата выконвалася, была запісана на радыё. Потым разам з Уладзімірам Мулявіным мы паспрабавалі ўсё гэта пераўвасобіць у сучасныя рытмы і ў сучаснае гучанне. Так з'явілася паэма-легенда "Гусляр". Тэма яго сур'ёзная. Вечная. Цяпер, відаць, сам час патрабуе, каб твор загучаў зноў. Сабралася група маладых людзей на чале з Андрэем Скарынкіным, які гэтую тэму насіў у сэрцы, мабыць, усё жыццё. І нарадзілася рок-опера "Курган". Гэта яскравы доказ таго, што класіка і ёсць сапраўднае мастацтва. Гэты праект будзе развівацца, бо тэму падхапіла моладзь.

Валерый Дайнека, заслужаны артыст БССР, удзельнік ансамбля "Беларускія песняры":

— Ідэя стварэння паэмы-легенды "Гусляр" нарадзілася ў выніку супрацоўніцтва Ігара Лучанка і Уладзіміра Мулявіна. А ў сувязі з тым, што Уладзімір Георгіевіч быў кіраўніком нашага калектыву, то ўсё легла, скажам так, на агульныя плечы. У асноўным "Песняры" працавалі над вакальнымі партыямі, запісвалі іх у студыі. Падчас выступленняў у адным аддзяленні ў нас выконваўся "Гусляр", а другое складалася з песень. На сцэне панавала ігра музыкі і святла. Музыка сур'ёзная, цяжкаватая, але людзі слухалі.

Цяпер, для "Кургана", я пераспяваў свае партыі, успомніў іх, нічога не прыдумляючы. Тое, што гучыць на дыску, — гэта аранжыроўкі Мулявіна, але часткова змененыя, што надае свежага гучання твору. Зроблена вялікая праца. Я, шчыра кажучы, не адчуваў вялікай радасці ад твора ні 30 гадоў таму, ні сёння, бо ён цяжкі ў сваіх матывах, а мне заўсёды хацелася радасці, сонца. Але магу зразумець радасць тых, хто зрабіў больш значны ўнёсак у новую працу: напрыклад, Андрэй Скарынкін сабраў людзей, арганізаваў запіс і паказаў сябе як прадзюсер. Выканаў мулявінскія партыі: праспяваў іх вельмі пранікнёна. "Курган" — гэта музыка не для ўсіх. Але той, хто цікавіцца не масавай і высакаякаснай музыкай, будзе задаволены.

Андрэй Скарынкін, кіраўнік праекта:

— Я зразумеў, што менавіта сёлета трэба надаць гэтаму твору другое дыханне, хоць думаў пра гэта і раней. Год юбілейны для паэмы "Курган" Янкі Купалы — вось галоўная прычына распачаць працу. Працуючы над праектам, я адчуваў падтрымку Купалы, Мулявіна і рэальную дапамогу Лучанка. У Хойніках рок-опера будзе прадстаўлена ў канцэртным варыянце. Удзел возьмуць усе артысты, з якімі працавалі, запісваючы дыск. Таксама я ўводжу духавыя інструменты: трубу, трамбон і саксафон, а яшчэ барабан, тры гітары. Сёння многія шукаюць лёгкай славы і грошай, а мы зрабілі сур'ёзную справу. Гэта наш унёсак у скарбонку беларускай культуры. А які лёс наканаваны гэтаму твору, такі ён і будзе.

Запісала Алена ДРАПКО




## Слова краязнаўцы



Сяргей Бельскі з Хойнікаў разважае пра шляхі выкарыстання краязнаўчага патэнцыялу мясцовасці для выхавання патрыётаў:

— Вядома, што ў мінулым людзі не заўсёды ясна ўсведамлялі сваю прыналежнасць да вялікай краіны і яе народа. Нідзе далёка не бываючы, не ведалі, які вялікі свет, а пра ўсялякага прыхадня працяглы час захоўвалі ўяўленне як пра чужынца.

Сёння з'явілася небяспека адрыву ад "малой Радзімы" і ад Радзімы-краіны: маладыя людзі мараць паехаць на сталае жыхарства ў вялікі горад, а то дык і наогул пакінуць краіну. Чаму дылема: жыць у родных мясцінах або ў чужым горадзе (краіне) вырашаецца на карысць апошняга? Адкуль такая духоўная незадаволенасць роднай старонкай?

На маю думку, адной з прычын можна лічыць няведанне гісторыі сваёй мясціны, адсутнасць адчування повязі з пакаленнямі продкаў, з гісторыяй краіны і з сусветнай гісторыяй.

Заняткі краязнаўствам і дазваляюць запоўніць гэты прабел. Тым болей, што на Хойнікшчыне ёсць што паведаміць вучням пра яе далёкае мінулае, ёсць чым абуджаць ды падмацоўваць гістарычную памяць і пры вывучэнні агульнага курсу гісторыі Беларусі.

Узяць, для прыкладу, тэму Люблінскай уніі 1569 г., дакладней, яе пярэдадзень, калі адным росчыркам пяра кароль Жыгімонт ІІ Аўгуст большую частку будучага нашага раёна разам з Хойнікамі далучыў да Кароны Польскай, астатняя ж (заходняя), згодна з пастановай мазырскага шляхецкага сейміка, засталася ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Наша зямля славіцца і выдатнымі асобамі. Мікалай Ян Ястржэмбскі з Барысаўшчыны — аўтар двухтомнага "Курса практычнай механікі" (1838), узнагароджаны прэстыжнай Дзямідаўскай прэміяй Акадэміі навук. Дзейнасць Аляксандра Юстыніяна Аскеркі, ураджэнца Рудакова, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 года, таксама ёсць прыкладам грамадзянскай мужнасці.

Крыніцы XVI — пачатку XX ст. утрымліваюць, акрамя звестак пра продкаў сённяшняга Героя Беларусі Васіля Равякі ды яго родзічаў, шмат прозвішчаў вучняў нашых школ і спрыяюць абуджэнню іх цікавасці да гістарычнага мінулага.

## З варагаў у грэкі

Да 16 снежня ў Краязнаўчым музеі горада Полацка праходзіць унікальная выстаўка рэчаў, у розныя часы прывезеных з розных куткоў свету.

Стварэнне такой выстаўкі менавіта ў Полацку падаецца цалкам заканамерным. Горад займаў вельмі зручнае геаграфічнае становішча на скрыжаванні дзвюх рэк — Заходняй Дзвіны і Палаты. Па іх праходзіў міжнародны гандлёвы шлях "з варагаў у грэкі", які аб'ядноўваў краіны Поўдня і арабскага Усходу з гарадамі Паўночнай Русі і скандынаўскімі краінамі, а пазней — з нямецкімі гарадамі Заходняй Еўропы.

На гэтай выстаўцы можна пабачыць шмат цікавых і ўнікальных прадметаў, сярод якіх — каменны абразок Георгія Пабеданосца XI — XII ст., бронзавы амулет-змеявік XIV ст., характэрны для часоў пераходу ад язычніцтва да хрысціянства; шкляныя бранзалеты, паясныя накладкі з усходнімі ўзорамі X — XI ст.; металічныя рыцарскія крыжы, сякеры, фібулы, спражкі, неапрацаваны бурштын і вырабы з бурштыну XV ст.

Чэслава ПАЛУЯН

У 1912 годзе ў Пінску асобнай кнігай свет пабачыла аповесць Арцёма Музыкі (лічыцца, што гэта адзін з псеўданімаў Вацлава Ластоўскага) "Прыгоды Панаса і Тараса". У гэтай кнізе распавядаецца пра тое, як два сябры-палешукі з Піншчыны едуць на возе да мазураў, пра якіх у народзе ходзяць показкі як пра зусім дзіўных людзей, каб вучыць іх розуму. Аказваецца, такія гісторыі расказвалі не толькі пра мазураў, але і пра жыхароў палескай вёскі Вялікі Бор, што размешчана за 15 кіламетраў ад Хойнікаў, у густым, змешаным лесе.



# Вялікаборцы: показкі і рэальнасць

Як піша ў артыкуле "Вялікаборскія яўрэі" (часопіс "Мишпоха" № 10 — 2001) кандыдат педагагічных навук Якаў Будоўскі, пра жыхароў Вялікага Бору ў раёне хадзіла некалькі з'едлівых легенд. Маўляў, яны такія дурні, што калі было дрэнна з соллю, то пасеялі соль. Каб пашырыць маленькую царкву, насыпалі ў яе гароху і залілі яго вадой, чакалі цуду. Калі ў аднаго з вялікаборцаў на саламянай страсе вырасла трава, ён спрабаваў загнаць на страху карову, каб яна гэтую траву з'ела (менавіта гэтую здзеклівую гісторыю сярод многіх іншых расказвае і Вацлаў Ластоўскі). У выніку, як вядзецца ў правінцыі, іх сталі называць "вялікаборскія дурні".

Што датычыць ацэнкі "дурні", то гэта была, вядома, дарэмшчына. Як сцвярджае Якаў Будоўскі, у Вялікім Бары жылі годныя людзі. Да вайны тут быў дужы калгас. Падчас Вялікай Айчыннай у вёсцы знаходзілася шмат партызан. Выхадзец з Вялікага Бору пісьменнік Барыс Сачанка напісаў пра аднавяскоўцаў кнігу "Вялікі лес". У Вялікім Бары ў гонар слаўнага земляка назвалі вуліцу.

Але не показкі і вясковыя гісторыі цікавяць Якава Будоўскага, а лёсы яўрэяў — выхадцаў з гэтай вёскі. Сам Якаў Ісакавіч нарадзіўся ў Вялікім Бары, ваяваў на фронце, быў узнагароджаны медалямі, доўгі час працаваў на кафедры педагогікі і псіхалогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Як заўважае ў сваім матэрыяле Якаў Будоўскі, у Хойніках быў звычай да імя жыхара дадаваць назву вёскі, адкуль ён прыехаў. Для прыкладу, яго бацьку ў народзе клікалі "Ічэ Вялікабрэр".

Як сцвярджае Якаў Ісакавіч, у кнізе "Маляўнічая Расія", выдадзенай у 1882 годзе, перадрукаванай у Мінску ў 1994-м з асобніка з бібліятэкі Барыса Сачанкі, сказана шмат добрых слоў пра яўрэяў беларускага і літоўскага Палесся. Яе аўтар Адам Кіркор, этнограф і краязнаўца піша: "У этнаграфічных адносінах яўрэі Літоўскага Палесся маюць шмат агульнага, як па характары, душэўных уласцівасцях і якасцях, так па норавах і звычаях, з усімі яўрэямі ў царстве Польскім і ў Расіі, і нават з германскімі, і аўстрыйскімі. Нам, аднак, падаецца, што літоўскія яўрэі лепшыя. Дачыненне іх да мясцовага насельніцтва бліжэй, шчыра, чым у іншых краінах… Адметная рыса тутэйшых яўрэяў — любоў да Радзімы".

І сапраўды, у Вялікім Бары з даўніх часоў жыло некалькі яўрэйскіх сем'яў. Жылі дружна з беларусамі, дапамагаючы адзін аднаму ва ўсім. Паводле ўспамінах Якава Будоўскага, яго бабуля Сара-Двойра пераехала ў Хойнікі і там пабудавала хату. У гэтай хаце, між іншым, два гады жыў наш класік Іван Мележ. Яго радзіма, вёска Глінішчы размешчана недалёка ад Вялікага Бору, і бацькі Івана Паўлавіча былі даўно знаёмыя з бабуляй Якава Будоўскага. Калі Мележ перабраўся ў Хойнікі, яму параілі пасяліцца ў яе хаце. У сваіх мемуарах пісьменнік пісаў, што "два гады жыў у яўрэйскай сям'і. Час быў цяжкі, дапамагалі ва ўсім".

У 1930-я гады ў Крыме пачалі ствараццца яўрэйскія калгасы. З Вялікага Бору з'ехалі яўрэі, што яшчэ засталіся ў вёсцы, толькі адна яўрэйка, якая выйшла замуж за мясцовага жыхара і сама стала хрысціянкай, засталася ў вёсцы. Жыццё раскідала вялікаборцаў па свеце (аўтар нават прыводзіць меркаванне, што ўсе Будоўскія — выхадцы з Вялікага Бору). Іх нашчадкі жывуць у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Ізраілі, Крыме, Аўстрыі, Канадзе.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: вуліца Барыса Сачанкі ў вёсцы Вялікі Бор.

Фота Анатоля Клешчука

# Адметныя назвы скажуць...

У кожным горадзе ёсць свае, прынятыя паміж яго жыхарамі, назвы вуліц і адметных мясцін. Так і ў Хойніках.

### Жанчына

Калі нехта збіраецца паехаць аўтаспынам у Гомель або Рэчыцу, звычайна яму раяць дабрацца да Жанчыны, бо каля яе вялікі паток аўтатранспарту. Аказваецца, што жанчына гэтая — помнік міру і працы, які ўяўляе сабой выробленую з жалезабетона жаночую фігуру з сярпом і дзіцём на руках. Размешчаны гэты помнік на паўночным усходзе Хойнікаў, каля бензазапраўкі. Так сказана ў пашпарце помніка, аднак дакладных звестак аб даце яго ўстаноўкі няма. Адно вядома — у савецкія часы.

### Курскі вакзал

Так ахрышчана перакрыжаванне вуліц Мележа і Сялянскай. Мяркуецца, што назва гэта прыйшла ў галаву аднаму з вяскоўцаў, які ездзіў на працу ў Хойнікі з Куравога гадоў 30 таму. Тады аўтобус у гэтым напрамку хадзіў тры разы на дзень. І многія жыхары вёсак, якія працавалі ў Хойніках, не маючы часу дабрацца на аўтастанцыю, чакалі тут аўтобус. Вадзіцелі абавязкова спыняліся, хаця тут афіцыйнага прыпынку не было.

### Кітайская сцяна

Спытайце любога хайнічаніна, дзе знаходзіцца дом № 2 па вуліцы Калесніка, якая, адзначым, даволі працяглая, то наўрад ці пачуеце канкрэтны адказ. А вось калі скажаце, што гэта Кітайская сцяна, адразу атрымаеце дакладную інфармацыю. "Кітайскай сцяной" наракли ў Хойніках 120-кватэрны жылы дом у мікрараёне "Юбілейны", адзіны ў горадзе, які складаецца з шасці пад'ездаў.



### Лопухі

"Пойдзем на дыскатэку ў Лопухі", — так гаварылі раней маладыя хайнічане, маючы на ўвазе танцавальную пляцоўку ў раёне чыгуначнай станцыі на вуліцы Лясной. Гэта пляцоўка была акружана высокімі зараслямі лопухаў. І цяпер, калі кагосьці з мясцовых жыхароў спытаюць, дзе знаходзіцца гарадская бібліятэка, то ён адкажа: "У лопухах".

### Кансервавы завод

Дзе будуць масавыя гулянні ў Дзень Перамогі? У гарадскім парку або на кансервавым заводзе? Такое пытанне часта можна пачуць ад хайнічан напярэдадні вялікага свята. Вядома ж, на кансервавым заводзе, пачуюць у адказ і нічога незразумелага для нашых землякоў тут няма: святкуюць Перамогу не на кансервавым заводзе, якога, дарэчы ўжо няма, а ў лясным масіве праз дарогу ад памяшканняў, што засталіся.

Клаўдзія БОСАК

На здымку: помнік Міру і працы ў Хойніках.

Фота Кастуся Дробава

## Культура слова

### Фамільят

Аднафамілец — відавочна, штучнае слова, поўная калька рускага однофамилец. Але ж у беларусаў ёсць сваё адпаведнае, і некепскае слова — фамільят. Гэта той, хто мае з кім-небудзь, толькі не з родным, аднолькавае прозвішча. Я здаўна чую яго ў гэтым значэнні ў сваёй вёсцы. І ніколі — аднафамілец. А вось Святлана Струкава ў сваёй кнізе "Лексіка беларускай мовы" (Мінск, 2008) тлумачыць гэтае слова прама процілеглым чынам: "Фамільянт (фамільят) — родны па крыві". Толькі на якой падставе? На той, што фамілія — гэта сям'я, род? Дык гэта ж можна сказаць і пра слова аднафамілец. У нас "роднага па крыві" називаюць — радня, родзіч. А калі канкрэтна, то — брат, сястра, дзядзька, цётка, дзед, прадзед, унук, праўнук, брат ці сястра ў першай, другой, трэцяй стрэчы і г.д. Вядома, фамільяты могуць быць паходжаннем з аднаго роду (часцей так яно, мусіць, і ёсць), але яны забыліся пра гэта. Таму пакуль яны не ўспомняць сваю сваяцкасць, яны ўсяго — фамільяты.

### Асудзіць

Слова ў беларускай мове, як я мяркую, новае, прышлае. У маёй вёсцы ад старых людзей не пачуеш яго ні ў водным з трох значэнняў, пазначаных у слоўніках. У першым значэнні — "вынесці абвінаваўчы прыгавор" — у нас скажуць: засудзіць. У другім значэнні — "прызнаць заганным, ганебным што-небудзь, выказаць неадабрэнне каму-небудзь" — на Старадарожчыне знойдуць іншыя словы: зганіць ("Я не ганю яе, што развялася з Валодзем"), зганьбіць ("Нашто дарэмна ганьбіць чалавека"), звінаваціць ("Яго вінавацяць за тое, што забыўся пра матку"), праклясці ("Ды ў нас праклянуць за такое"), выказаць дакор ("Не дакарай мяне") і г.д. У трэцім значэнні — "асудзіць на нешта" — у народзе скажуць прасцей: кінуў яго на галаданне, наканаваў яму жабрацтва ды іншае.

Кастусь ЦВІРКА

# Прозараўскія мясціны

Ці не самым знакамітым з уладальнікаў Хойнікаў быў Караль Прозар. Сёння для нас ён не проста пан-прыгоннік, ён — чалавек, які прысвяціў сябе служэнню Айчыне. А наколькі шанавалі Караля Прозара сучаснікі, сведчыць хаця б тое, што варшаўскія арганізатары паўстання 1794 года прапаноўвалі сярод некалькіх іншых дзеячаў і яму стаць на чале ўсяго руху. Сапраўды, Караль Прозар — Вялікі абозны адмовіўся, паехаў у Дрэздэн і ўгаварыў Тадэвуша Касцюшку прыняць гонар быць дыктатарам паўстання. Як уладальнік Хойнікаў, Караль Прозар меў тут маёнтак, з яго дзейнасцю былі звязаны і іншыя мясціны мястэчка. Але на сённяшні дзень аб іх засталіся хіба што ўспаміны старажылаў ды кароценькія нататкі ў літаратуры. Таму не выпадае назваць іх інакш як "страчанай спадчынай".

Сядзібны дом закладзены быў Каралем Прозарам у часы Чатырохгадовага сейма (1788 — 1792), а знаходзіўся, паводле слоў мясцовых жыхароў, на сучаснай вуліцы імя У. Жыляка. Захаваўся ці не адзіны фотаздымак сядзібы, зроблены перад Першай сусветнай вайной і апублікаваны ў кнізе Рамана Афтаназы аб рэзідэнцыях на ўскраінах Рэчы Паспалітай, ды малюнак 1891 года Ігнацыя Врублеўскага, змешчаны ў артыкуле "Chojniki" Чэслава Пяткевіча. Ёсць таксама апісанне сядзібы, зробленае А. Кулагіным.

Зрэшты, як слушна заўважыў той жа Ч. Пяткевіч, прозараўская рэзідэнцыя ў плане архітэктурным не была чымсьці адмысловым. У гэтым адносна сціплым доме, называным "палацам", Людвіка Канстанцыя і Караль Прозары сустракалі гасцей. Зважаючы на актыўны ўдзел К. Прозара ў грамадскіх справах, можна меркаваць, што і архіў, які захоўваўся ў "палацы", быў бы каштоўным для вывучэння гісторыі краю. Вельмі цікавая і заблытаная гісторыя гэтага архіва, але на сёння вядома, што арыгіналы захоўваюцца ў фондзе "Архіў Прозараў і Ельскіх" Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве.

Заснавальнік Хойніцкага раённага краязнаўчага музея А. Зелянкоўскі пісаў, што гэты сядзібны дом спалены ў часы вайны паміж бальшавіцкай Расіяй і Польшчай. У першыя гады савецкай улады на яго падмурках быў пабудаваны народны дом культуры, які згарэў у Вялікую Айчынную вайну. Некаторыя мясцовыя жыхары, аднак, сведчаць, што — не зусім на тых падмурках, а крыху ўбаку, яшчэ і на месцы трох згаданых вышэй дамоў вуліцы У. Жыляка.



Сядзібны дом К. Прозара. Малюнак 1891 года Ігнацыя Врублеўскага.

Сёння ў Хойніках ёсць каталіцкая парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. Яна з'яўляецца пераемніцай аднайменнай парафіі ў Астраглядавічах, якая існавала яшчэ з пачатку XVII ст. Паводле Чэслава Пяткевіча, у Хойніках касцёл пабудаваны ў першым дзесяцігоддзі XVIII ст.

Дзе знаходзіўся касцёл? Ч. Пяткевіч пісаў, што — каля замка, за сто крокаў ад пазнейшага мураванага касцёла. Як паведаміў у сваім рапарце святар Максім Ярэміч, брагінскі благачынны, гэты "оштукатуренный только внутри" касцёл будаваўся Уладзіславам Прозарам у 1859 — 1862 гг. у цэнтры мястэчка, якім тады была базарная плошча. Заканчэнне будаўніцтва ў пачатку 1863 года ўлады забаранілі ў сувязі з антырасійскім паўстаннем.

Запісы ў польскамоўных дзённіках праваслаўнага архіепіскапа Мінскага Міхаіла Галубовіча сведчаць, што мураванай праваслаўнай царквы ў мястэчку яшчэ не было. І ў 1865 годзе М. Ярэміч сцвярджаў, што царква ў Хойніках "ветха и в крыше и в куполе, да к тому же построена почти в болоте" (відавочна, ён меў на ўвазе будынак, узведзены ў XVIII ст. кімсьці з Шуйскіх), а ў "Описании церквей и приходов Минской епархии" (1879 г.) сказана: "Приходская Покровская церковь, расположенная в центре местечка, построена в 1863 г. средствами вотчинного владельца Владислава Прозора".

Цікава, што гэта за праваслаўная царква ў Расійскай імперыі другой паловы XIX ст.?! Усё, аднак, паўстае на сваё месца, калі даведваемся, што ўлады 20 чэрвеня 1865 года, "по местным представлениям" праваслаўнага духавенства стары драўляны і мураваны касцёлы ў цэнтры Хойнікаў ды мураваны "касцёл" (усё ж капліцу) на могілках адабралі ў католікаў і перадалі ў праваслаўнае ведамства. Меркавалася, што матэрыялы першага з іх будуць выкарыстаныя на ўладкаванне Мікалаеўскай прыпісной царквы Загальскага Свята-Троіцкага прыхода ў вёсцы Храпкаў. А вось другі і стаў, відавочна, гатычнай Пакроўскай царквой.

Васьмігадовы Чэсь Пяткевіч быў удзельнікам развітальнага набажэнства ў драўляным касцёле, з уласных успамінаў пісаў пра скруху і слёзы многіх людзей, якія бачылі старую святыню ў апошні раз.

Пра капліцу на хойніцкіх могілках, якая пабудаваная адначасова з мураваным касцёлам у цэнтры мястэчка, М. Ярэміч у 1865 годзе паведаміў, што яна ўяўляла сабой: "Костёл… каменный, покрыт железом, в виде надгробного памятника с четвериковыми по углам башнями…В костёле на кладбище устроены гробницы, в которых погребён покойный фундатор костёла, его жена и сын, умерший в 1864 году". Згаданы сын Уладзіслава Прозара Мечыслаў быў арыштаваны па падазрэнні ў сувязях з паўстанцамі і памёр у зняволенні. Пахаваны у Хойніках. Зрэшты, Прозары ўсіх сваіх, дзе б яны ні скончылі жыццё, абавязкова перазахоўвалі ў фамільным склепе. Пра гэта сведчаць і запісы ў метрычных кнігах Астраглядаўскага парафіяльнага касцёла.

Падобна, склеп быў збудаваны шмат раней, чым мураваная капліца над ім. У тых жа метрычных кнігах запісана, што 20 кастрычніка [1 лістапада] 1841 года ў мястэчку Хойнікі, хутчэй ад старасці, чым ад якой хваробы, ва ўзросце 81 года памёр Караль Прозар. 24 кастрычніка ксёндз Францішак Позняк урачыста пахаваў нябожчыка ў фамільным склепе.

Дакладна такі самы знешне курган, які насыпаны ў гонар Тадэвуша Касцюшкі каля Кракава, але меншых памераў, быў узнесены К. Прозарам паблізу капліцы для жонкі Людвікі, труну якой у 1829 годзе ён перавёз з уніяцкай царквы ў вёсцы Вялікі Бор, дзе яна была пахаваная годам раней. Менавіта гэты помнік і быў канчаткова зруйнаваны ў 1965 годзе, калі знайшлі жаночае пахаванне і шкляную бутлю Урэцкай мануфактуры Радзівілаў, а ў ёй — пергамент з прысвячэннем нябожчыцы ад 9 (21) мая 1829 г. і манеты 1831 г.

У 1882 годзе хойніцкі маёнтак набылі расійскія купцы М. Аўрамаў і Г. Курындзін. У самым канцы XIX ст. мясцовыя рабаўнікі, паводле Ч. Пяткевіча, выкінулі рэшткі пахаваных Прозараў з пакрытых ліставой меддзю трунаў, а метал, пасекшы на кавалкі, асцярожна прадавалі ў розных месцах. Хоць злачынцы былі арыштаваныя і пакараныя, для нас помнік страчаны назаўсёды.

Сяргей БЕЛЬСКІ

# З пракаветных часоў

Палеская ж зямля заўсёды была багатая на гістарычныя падзеі і з'явы, давала прытулак шматлікім народам... І, безумоўна, сённяшняя духоўная культура, звычаі і традыцыі жыхароў Хойніцкага рэгёна бяруць свой пачатак яшчэ з пракаветных часоў, з глыбіняў стагоддзяў.



Макет Хойніцкага замка выкананы Дзмітрыем Вінаградавым.

Чалавек пачаў абжываць тэрыторыю сённяшняга Хойніцкага раёна яшчэ ў эпоху палеаліту. Пра старажытную гісторыю сведчаць мясцовыя археалагічныя помнікі. Выяўлены рэшткі найбольш старажытных стаянак родавых абшчын, што існавалі тут 23 — 26 тысяч гадоў таму. Яны размяшчаліся на карэнных берагах рэк і азёр у даліне Прыпяці. Як сцвярджаюць навукоўцы-археолагі, праз тэрыторыю Хойніцкага раёна прайшло шмат культур, што належалі розным народам. Найстарэйшая з іх пакінула нам шыракагорлыя гаршчкі, упрыгожаныя складаным геаметрычным арнаментам, падзеленым на тры зоны. Па іх можна меркаваць, што тагачасныя людзі мелі адпаведныя ўяўленні пра падзел сусвету: верхні – нябесны, сярэдні — зямны, ніжні — падземны. Сваіх нябожчыкаў яны хавалі ў зямлі, цела засыпалі вохрай, а вопратку ўпрыгожвалі пласцінамі з косці. У пачатку ІІ тысячагоддзя на землі верхняга Падняпроўя з поўдня прыходзяць плямёны, якія карыстаюцца індаеўрапейскай мовай. Яны яшчэ не ведалі металу, таму апрацоўка каменных прыладаў дасягала ў іх высокай дасканаласці. Каля вёсак Барысаўшчына, Гноеў, Ломыш і Хвашчоўка знойдзены каменныя сякеры: і працоўныя клінападобныя, і баявыя свідраваныя, з касцяным дзяржальнам. Але на палескіх землях ужо распачынаецца бронзавы век. У адным культурным пласце разам з сякерамі археолагі выявілі і металічны бранзалет. А яшчэ, як сцвярджаюць мясцовыя жыхары, каля вёскі Аравічы ў 1931-м была знойдзена бронзавая скіфская маска. Звесткі можна лічыць верагоднымі, бо ў гэтых мясцінах непадалёк ад в. Ладыжычы Чарнобыльскага раёна выяўлены і даследаваны два скіфскія курганы.

У VII-VI стст. да н.э. на поўдні Беларусі пачаўся жалезны век. Мясцовае насельніцтва ў гэты час уваходзіла ў арэал мілаградскай культуры. Ад вёскі Мілаград Рэчыцкага раёна. Людзі навучыліся здабываць жалеза з балотнай руды. У выніку з вытворчасці паступова выціскаюцца каменныя прылады працы, бронзавыя ж яшчэ доўга ўжываюцца поруч з жалезнымі. Пад ворыва высякаюцца вялікія тэрыторыі лясоў. Расце маёмасная няроўнасць, абвастраецца барацьба за зямельныя дзялкі. Каб замацавацца на мясцовасці і бараніць здабытак, людзі будуюць паселішчы-гарадзішчы, умацаваныя валамі, парканамі, равамі. Да ранняга жалезнага веку адносяцца паселішчы каля вёсак Аравічы, Барысаўшчына, Гнездзенка і Краснаселле, пабудаваныя на месцы былых неалітычных стаянак. Амаль усе гарадзішчы размешчаны на балотах раўніннага тыпу, круглай або авальнай формы. Яны служылі старажытным людзям сховішчамі сярод балот і лясоў у часы небяспекі. Асновай гаспадарчай дзейнасці былі земляробства і жывёлагадоўля, дадатковымі — паляванне і рыбалоўства. Былі развіты хатнія рамёствы на аснове мясцовай сыравіны, бронзаліцейная справа, апрацоўка дрэва, косці і рога, прадзенне і ткацтва, выраб ляпнога посуду.

У сярэдзіне ІІІ ст. да н.э. мілаградскую культуру змяніла зарубінецкая. Ад сяла Зарубінцы, што каля Кіева. Некаторыя даследчыкі лічаць, што абедзве культуры суіснавалі каля 200 гадоў і належалі мясцоваму балцкаму насельніцтву, якое папярэднічала славянам. Іншыя прыпісваюць мілаградскую культуру неўрам – продкам славян, а зарубінецкую лічаць іншаземнай. Часам продкаў славян шукаюць сярод зарубінецкіх плямён, якія распаўсюдзіліся па ўсім Палессі з захаду, а потым былі адціснуты да паўночнага ўсходу. На карысць балцкай тэорыі гавораць мясцовыя назвы гарадзішчаў. Так, гарадзішчы каля вёсак Аравічы і Тульгавічы носяць назву Прускія Горы і, паводле паданняў, засталіся ад бітвы "рускіх з прусамі". Што датычыцца славян, іх першыя паселішчы на берагах Прыпяці з'явіліся толькі ў VI — VIII стст. н.э. Паселішча такога тыпу выяўлена каля в. Юравічы Калінкавіцкага раёна. У VIII — XII стст. Палессе было ўжо занятае дрыгавічамі і радзімічамі, землі якіх стагоддзем пазней увайшлі ў склад Кіеўскай Русі. Тады ж узнікае і большасць населеных пунктаў цяперашняй Хойнікшчыны, а непадалёк ад іх з'яўляюцца курганныя могільнікі. У наш час на могільніку каля в. Гноеў знойдзена шмат касцей са старажытных пахаванняў, а побач з вёскай Кажушкі — каменныя крыжы. Там жа знаходзіцца ўрочышча, дзе паводле падання "царква разам з людзьмі ўвайшла ў зямлю". Пахаванні пад курганамі былі распаўсюджаны да XIII ст., потым ужо паўсюдна хавалі па хрысціянскім абрадзе — у ямінах. У рэгіёне шырока вялася здабыча і перапрацоўка ў жалеза мясцовай балотнай руды. Пра гэта гавораць назвы вёсак: Рудня, Руднае, Рудзенька, Рудакоў. Пра старажытныя промыслы і заняткі жыхароў таксама сведчаць такія назвы вёсак, як Аравічы, Куравое, Паташня. Хлеб, жалеза, лес, дзёгаць, паташ вывозілі старажытнымі шляхамі да Прыпяці. Адзін з такіх шляхоў праходзіў праз Любеч (на Дняпры), Брагін, Хойнікі, Юравічы, дзе была рачная прыстань. Другі ішоў на поўдзень ад вёскі Загалле да Краснаселля. Уздоўж правага берага Брагінкі і Прыпяці праходзіў шлях на Кіеў.

У раннім Сярэднявеччы наваколле Хойнікаў разам з Брагіным уваходзіла ў склад Кіеўскага княства. Таму, калі ў 1240 — 1241 гг. мангола-татарская навала абрынулася на паўночную Кіеўшчыну, былі знішчаны многія мясцовыя гарады і сёлы. Наступныя наезды мангола-татараў, а потым і крымчакоў на Беларусь нярэдка завяршаліся іх адыходам праз землі Хойнікшчыны. Таму нездарма ў мясцовых паданнях згадваюцца імёны татарскіх захопнікаў.

Самі Хойнікі ўпершыню згадваюцца ў 1512 г. як мястэчка Брагінскага графства Вялікага Княства Літоўскага. У той час Хойнікі называлі Хвойнічак ці яшчэ Хвойнічэк, напэўна таму, што мястэчка з трох бакоў атачалі масівы хваёвых лясоў і балота. Яно знаходзілася на беларуска-ўкраінскім памежжы, дзе часта выбухала казацкая вольніца і, зразумела, існаваць без самастойных умацаванняў паселішча не магло. І вось у першай палове XVII ст. на невялікай выспе ў забалочанай пойме ракі Квеся князі Вішнявецкія, якія на той час валодалі Хойнікамі, пабудавалі драўляны замак з абарончымі сценамі, і ўязной вежай-брамай. І хаця замак праіснаваў крыху меней за стагоддзе, сёння яго залатая выява размешчана на зялёным полі хойніцкага срабрыста-зялёнага герба, адноўленага і зноў зацверджанага ў 2000 годзе.

Ірына КЛІМКОВІЧ

# Кліч радзінных берагоў

Рознабаковы жывапісец, высокаэрудзіраваны тэатральны мастак, майстар малюнка, тонкі педагог-псіхолаг, прафесар Уладзімір Гардзеенка выйшаў у вялікі творчы свет з самабытнага кутка Хойнікшчыны. "Ад родных Клівоў мастака зусім недалёка да знакамітых мележаўскіх Глінішчаў, тых Куранёў, славута вядомых цэламу свету. І такое суседства, канечне ж, паруліла болей ашчадна і клопатна азірнуцца на родныя берагі. Хвалі плыткай рачулкі Віць за сценамі вясковых хат, вострыя пікі аеру, коўзкія карасі ў сажалцы... Усё гэтае, палязшукае, знанае, грэла душу радзінным цяплом, багата вяртала пяшчотных успамінаў — поўніла нутраным святлом, настроем карціны Гардзеенкі", — напісаў некалі пра свайго таленавітага земляка паэт Мікола Мятліцкі. І гэтую знітаванасць з малой радзімай, адданасць берагам свайго дзяцінства, асаблівую цеплыню і багацце палязшукай душы Уладзіміра Цітавіча я адчуў падчас нашай нядаўняй сустрэчы. Мастак дзяліўся ўспамінамі пра горкую часіну вайны, распавядаў пра гады студэнцтва, разважаў пра творчасць, прафесію, прыроду, жыццё... Гутарка з Уладзімірам Гардзеенкам будзе змешчана ў адным з наступных выпускаў "Прасторы ўяўлення". А сённяшнія нататкі раскажуць пра тое, як працаваў майстар над глыбока метафарычнымі, напоўненымі ўзрушальным сэнсам і жыццёвай мудрасцю карцінамі, што складаюць яго вядомую серыю "Чарнобыль — трагедыя XX стагоддзя".



Напярэдадні той страшнай майскай падзеі 1986-га балюча адгукнуліся ў душы мастака, для якога, як і для кожнага нармальнага чалавека, вельмі шмат значыць родны кут. Яго родная вёска Клівы, дарагія і незабыўныя мясціны дзяцінства, апынулася ў зоне адсялення. Пасля аварыі Уладзімір Гардзеенка амаль на працягу дзесяцігоддзя па некалькі разоў на год ездзіў у небяспечны рэгіён, загадзя плануючы для гэтага свой час. А пачаў з таго, што напісаў ліст да старшыні Хойніцкага райвыканкама: з надзеяй на падтрымку паведаміў пра свой намер — стварыць серыю карцін, прысвечаных адселеным вёскам і людзям, якія пацярпелі. З Хойнікаў вельмі хутка адгукнуліся: прынялі адпаведную пастанову, выдаткавалі фінансавыя сродкі, пра мастака-энтузіяста напісалі ў мясцовай газеце.

Уладзімір Цітавіч успамінае: "Час у эканамічных адносінах быў цяжкі, узнікалі праблемы з палівам. Але давалі машыну, і мяне суправаджаў міліцыянер са спецыяльным пропускам. Міліцыянер мусіў пільнаваць сітуацыю, бо там можна было натрапіць і на розных звяроў, і на немаведама адкуль збеглых людзей, якія хаваліся ад грамадства і атабарыліся ў зоне. З намі таксама ездзіў супрацоўнік раённага краязнаўчага музея, які ведаў усе тамтэйшыя дарогі і сцяжыны. У кожную з такіх паездак мы за некалькі дзён, паводле спісу, аб'язджалі пакінутыя вёскі. Дзе магчыма было затрымацца — рабіў замалёўкі, дзе радыяцыйны фон зашкальваў — мне прапаноўвалі зрабіць фотаздымак. Мае спадарожнікі сталі на асфальце і казалі, што вось тут — зашкальвае, а ты, маўляў, па буралмах і вербалозе шастаеш, дык там увогуле вельмі вялікая радыяцыя...".

Перажываючы бяду, што напаткала родную вёску Клівы, ён маляваў і асірацелыя Кажушкі, Дронькі, Радзін, Уласы, Бабчын; увасабляў веліч палескіх краявідаў, у якой адвеку гучаць аптымістычныя, жыццесцвярджальныя ноты... Ды ўрэшце мастак зведаў на сабе агрэсію "мірнага" атама: моцна захварэў, дактарам давялося ратаваць яго нават ад клінічнай смерці. Але, нягледзячы ні на што, Уладзімір Гардзеенка не забываецца на родныя мясціны. Некалькі разоў ездзіў туды з жонкай і дзецьмі, каб яго самыя дарагія, блізкія людзі адчулі на сабе і ўбачылі, што сталася з яго малой радзімай, памяць пра якую наталяе душу цеплынёй, а прыродная прыгажосць па-ранейшаму лашчыць вока.

Персанальныя выстаўкі, якія ўключалі работы, зробленыя непасрэдна ў чарнобыльскай зоне, карціны, прысвечаныя Палессю і самой трагедыі Чарнобыля, У. Гардзеенка ладзіў у абласных гарадах, а ў Хойніках — двойчы (1993, 1996). Пры канцы 1990-х наладзілі ў гомельскай выставачнай зале вялікую тэматычную экспазіцыю, якая складалася з дзвюх частак: работ У. Гардзеенкі ды твораў мастакоў Гомельшчыны. Расказваюць, што на фоне яго ўзрушальнай персанальнай выстаўкі той калектыўны вернісаж выглядаў поўным правалам, бо ствралася ўражанне, нібыта мясцовыя творцы не былі падрыхтаваны да глыбокага мастацкага выказвання на трагічную тэму, не жылі гэтым болем.

"У мяне вельмі шмат матэрыялаў для асэнсавання сабралася за гады паездак у зону. Была напісана вялікая колькасць тэматычных карцін. Але тады ў Гомелі я зрабіў памылку: выставіў іх вельмі шмат, і яны пачалі псіхалагічна ўплываць на наведвальнікаў, — разважае У. Гардзеенка. — Работа "Ванёвы тапачкі. Замест некралога" (моцная жывапісная метафара, у цэнтры якой — пара дзіцячых тапачак ля апусцелага бальнічнага ложка. — В. К.) настолькі ўразіла адну з глядачак, у якой дзіця памерла, што яна страціла прытомнасць. І я зразумеў, што такія экспазіцыі трэба разнастайваць пейзажамі, нацюрмортамі... Сёння я, магчыма, адзіны мастак у краіне, хто не кінуў працаваць над гэтай тэмай. Завяршаю пастаянна серыю за серыяй. Увогуле, ёсць работы, якія яшчэ ніхто не бачыў. Хачу, прыкладна праз год, паказаць нешта новае на персанальнай выстаўцы, праз якую раскажу пра сябе, пра Чарнобыль і праблемы, якія мяне хвалююць".

Думаецца, невыпадкова адна з выставак Уладзіміра Цітавіча, 74-гадовага мастака, які ў творчай мэтанакіраванасці, працавітасці, энергічнасці зусім не саступае маладым, праходзіла пад назвай "Яшчэ не ўсё мною сказана".

Віктар КАВАЛЁЎ





На здымках: "Што сёння прасіць у Бога?" — аўтапартрэт Уладзіміра Гардзеенкі; "Чырвоныя дрэвы"; "Перасяленцы".

Фота Святланы Берасцень

# Кругасветка з працягам

Неўпрыкмет для Алеся Квяткоўскага адметнае месца ў яго творчым жыцці заняла Гомельшчына. Сам — з Валожына, вучыўся ў Мінску, улюбёныя мясціны — на Дзятлаўшчыне. Але колькі значнага звязана ў мастака менавіта з гомельскай зямлёй! На Палессі, у Брагінскім раёне, нарадзіўся яго слынны настаўнік — Гаўрыла Вашчанка, які, дарэчы, паспрыяў правядзенню летась у Гомелі, у сваёй імянной карціннай галерэі, Алесевай персанальнай выстаўкі. У 1995 — 96 гадах Квяткоўскі па месяцы працаваў пад Светлагорскам у аздараўленчым летніку, арганізаваным для дзяцей-чарнобыльцаў: вучыў іх маляваць, а потым ладзіў выстаўкі іх работ у Швейцарыі ды ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.

— Я літаральна лез ім у душу, — расказвае мастак, — у кожнага распытваў пра яго родныя мясціны, прапаноўваў успомніць і намаляваць штосьці сваё: маўляў, навошта нам Афрыку маляваць або Ангару, калі на Палессі — такая прыгажосць і столькі цікавага вакол нас! Былі там дзеткі з Хойніцкага, Чэрыкаўскага, Лоеўскага раёнаў. Маленькую Машу Кульбу са Светлагорска запомніў, бо яна сур'ёзна захапілася творчасцю і сёлета — ужо выпускніца манументальна-дэкаратыўнага аддзялення Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Па-сапраўднаму спрычыніўся ён да гомельскага Палесся праз паэтычны свет Анатоля Сыса:

— Калі толькі прачытаў пра яго лес, адразу адчуў: Толікаў лес — гэта і мой лес, з якога выходзіў, нібы новы чалавек, бо лес ачышчае, выцягвае з цябе ўсю атруту... Два гады таму падчас адпачынку я паехаў на Хойнікшчыну ў вёску Гарошкаў. Да Сыса. Толікава сястра адамкнула хату. Я жыў там, дыхаў тым паветрам і пісаў...

Вандраваць па Беларусі жывапісныя палотны Алеся Квяткоўскага пачалі позняй восенню 2009-га. Калекцыі яго карцін за паўгода зрабілі, можна сказаць, творчае турнэ па краіне: Мінск — Гомель — Светлагорск — Нясвіж — Гродна — Мінск. І на гэтым іх падарожжа не скончылася: калі пры канцы лета персанальная выстаўка мастака адкрылася ў Чэрвені, адразу ж вызначыўся наступны пункт яе паказу: Паставы.



А летась у кастрычніку амаль адначасова адкрыліся дзве выстаўкі: "Мая хата без сяброў — не хата" і "На крыле пчалінае маткі": адна ў сталічным Літаратурным музеі М. Багдановіча, другая — у Гомельскай карціннай галерэі Г. Вашчанкі. Яны прымяркоўваліся да 50-годдзя з дня нараджэння А. Сыса.

З тых паралельных вернісажаў і пачалася акцыя Алеся Квяткоўскага пад умоўнаю назвай "Вандроўка намаляванага слова", ажыццяўленню якой паспрыялі зацікаўленыя адносіны многіх рупліўцаў на ніве культуры. Падчас выставачнай кругасветкі ў кожным з гарадоў гледачам прапаноўвалася непаўторнае вобразнае ўвасабленне дыялога Мастака і Паэта, бо аўтар часткова мяняў творы, уключаныя ў вандроўную калекцыю. Так, на першай мінскай выстаўцы дамінавала тэма лесу, якую мастак распрацоўваў у нізцы "Колеры лесу" пад уплывам вершаў А. Сыса "Пан Лес" і "Дзікі мёд". У Гомелі дэманстраваліся "Пчалінае ўзнясенне", "Бажавоўк", "Соты", "Пан Лес", "Лясны дзед" і, паводле выразу прафесара І. Штэйнера, "панаваў сучасны еўрапейскі жывапіс, пабудаваны на метафарах, алегорыях ад паганства да сённяшніх дзён". Для Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава выстаўку перайменавалі ў "Мёдавы Спас". Абноўлены варыянт мінскай калекцыі трапіў у Нясвіж як "Гульні з вадзянымі фарбамі". А па дарозе ад Светлагорска да Гродна падборка палотнаў А. Квяткоўскага набыла назву "Намаляванае слова" і папоўнілася — напрыклад, візуальным прачытаннем вершаў яго сябра-земляка Віктара Шніпа "Рэшата", "Стог".

Сёння мастак працуе над серыяй работ паводле паэзіі В. Шніпа. Прадумвае абліччa карціннай галерэі, што будзе створана ў родным Валожыне. Шукае новы маршрут для свайго маляванага слова.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ





На здымках: Алесь Квяткоўскі і яго карціны "Бажавоўк" ды "Мёдавы Спас".

Фота Кастуся Дробава

Ганна Сілівончык ды Васіль Пешкун. Імёны — як у герояў славутага Мележавага рамана. І родам гэтыя маладыя мастакі, можна лічыць, з Палесся: гамяльчане. А яшчэ іх імёны паяднала вельмі вясёлая і папулярная сучасная беларуская песня... Зрэшты, прычым тут песня? Іх проста злучыў лёс, і яны разам: у жыцці, у творчай працы — пры відавочным непадабенстве яркіх мастацкіх індывідуальнасцей. І зусім не мае значэння, што гэткае непадабенства часта разводзіць жывапісныя работы мужа і жонкі па розных кутках выставачнай залы. Бо, убачыўшы на вялікім калектыўным вернісажы карціну аднаго з гэтых мастакоў, абавязкова знойдзеш у экспазіцыйнай прасторы і работу другога. Бо (проста як у песні!) дзе Васіль, там Ганна. І, дарэчы, менавіта ў дуэце прадстаўлена іх таленавітая творчасць на старонках вялікага шыкоўнага альбома, падрыхтаванага да друку выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі". Новае выданне, прысвечанае аднаму з вядучых жанраў у сучасным айчынным выяўленчым мастацтве, прэзентуе 100 лепшых жывапісцаў Беларусі XX — XXI стагоддзяў, тытулаваных майстроў і выбітных прадстаўнікоў маладога пакалення. Ганна Сілівончык ды Васіль Пешкун — у ліку выбітных і абраных.



# Дзе Васіль, там Ганна



Вернісаж таленавітага дуэта адбыўся гэтым летам у сталічнай галерэі "Мастацтва" і, паводле слоў дырэктара выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі" Таццяны Бяловай, стаўся адмысловым анонсам новага альбома, стварэнне якога можна, безумоўна, лічыць выключнай падзеяй у культурным жыцці краіны. Сама ж выстаўка, дзе Ганна Сілівончык ды Васіль Пешкун выступілі поруч, нагадвала нягучны, але яркі парад прэм'ер, бо складалася з карцін, датаваных пераважна 2010 годам. Сваю супольную экспазіцыю, названую "Закаханы садоўнік", яны прадставілі наведвальнікам галерэі з мастацкай вынаходлівасцю і густам, што выклікала асаблівае захапленне. Ганне і Васілю не спатрэбілася развешваць побач з творамі стандартныя выставачныя цэтлікі: іх замянілі дасціпныя візітоўкі з выявамі кветак. І няцяжка было здагадацца, што ў райскім садзе творчасці Ганны Сілівончык ды Васіля Пешкуна пануюць толькі дзве, і зусім не выпадковыя, кветкі: вясёлыя браткі ("анюткі", "анюціны вочкі") ды сінявокія васількі. Таму, убачыўшы ля жывапісняга палатна візітоўку з усмешлівым "тварыкам" браткі, гледачы маглі прачытаць зашыфраванае у ёй такім чынам імя Ганны (Анюты); не памыліцца з вызначэннем аўтарства Васілёвых карцін дапамагалі візітоўкі з выяваю васілька.

Хаця зразумець, хто маляваў тую ці іншую кампазіцыю, было лёгка без аніякіх падказак: настолькі розняцца і светаадчуванне, і вобразнасць, і стыль кожнага. У жывапісе Васіля Пешкуна пераважаюць нацюрморты і пейзажы; праз абагульненую і лаканічную дэкаратыўнасць выявы "ціхага жыцця" кветак, праз нязіранне за някідкім, даступным толькі для мастакоўскага вока, рухам наваколля выяўляецца яго шчырая, чулая да прыгажосці, акрыленая радасным ўспрыманнем свету і адораная прыхаванай зямной мудрасцю, душа трапяткога рамантыка. Работы Ганны Сілівончык (пазнавальныя, дарэчы, у кантэксце нават самай стракатай і маштабнай калектыўнай выстаўкі), часам паяднаныя ў тэматычныя цыклы, вылучаюцца эмацыйнай адкрытасцю, яркай дэкаратыўнасцю, метафарычнасцю, прадуманасцю і тонкай распрацоўкай заўсёды красамоўных дэталяў. Яе творчасць прасякнута невычэрпным гумарам, дыяпазон якога — ад падзіцячы кранальнай наіўнасці да сакавіта-брутальных нотак народнага лубка, ад постмадэрнісцкай алегарычнасці да незласлівых "прыколаў", ад какетлівай эксцэнтрычнасці да дзёрзкай насмешкі, ад сатырычных нюансаў да правакацыйнай эпатажнай парадыйнасці. Бывае, што вольную ад дэталяў прастору карціны мастачка запаўняе вербальнымі вобразамі, наносячы на палатно лёгую сетачку іранічна-рытмічных слоў — радкі ўласных вершаў...











Васіль Пешкун:

— Скончыўшы Гомельскае мастацкае вучылішча, я ў 1999 годзе паступіў у Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Вучыўся на аддзяленні манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Потым два гады працаваў у Інстытуце Белдзяржпраекта. З цікавасцю ўдзельнічаў у рэканструкцыі Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі — спрычыніўся да архітэктуры інтэр'ераў. Цяперашні хол аздоблены маімі вітражамі. Распрацоўваў гардэробныя стойкі для абноўленага будынка. Таксама займаўся рэканструкцыяй кабінета генеральнага дырэктара тэатра. А любоў да пленэрнага жывапісу ў мяне яшчэ з часоў навучання ў Гомелі: паўплывала знаёмства з творчасцю рускіх жывапісцаў-перасоўнікаў, французскіх імпрэсіяністаў і, зразумела, урокі першых настаўнікаў — гомельскіх мастакоў Пакаташкіна, Фядотава... І, вядома ж, наша класіка: Жукоўскі, Бялыніцкі-Біруля. Захапленне выклікае творчасць Віталя Цвіркі, аднаго з лепшых беларускіх мастакоў нядаўняга часу: я нават зрабіў некалькі работ у яго манеры. Наогул, мне падабаецца працаваць з палатном і алеем. Манументальны роспіс не дае такога адчування жывапіснага мазка. Да таго ж, манументальнае мастацтва — залежнае ад заказчыка, звязана з пэўнымі ўмовамі і патрабаваннямі, вымагае вялікай майстэрні, складанага абсталявання (калі, напрыклад, займацца вітражамі). Мастак-станкавіст адчувае большую творчую незалежнасць. Я пішу пераважна на натуры, часта і па Мінску хаджу з эцюднікам. А пастановачныя нацюрморты раблю ў майстэрні. Іх "змест" залежыць ад па́равіны года. Працуецца ж лягчэй узімку, бо летняя спякота расслабляе і "гоніць" з майстэрні на прыроду...

Ганна Сілівончык:

— Вучылася я ў Рэспубліканскай гімназіі-каледжы мастацтваў імя Івана Ахрэмчыка. Галоўныя прафесійныя ўрокі атрымала ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на аддзяленні жывапісу, у майстэрні Мая Данцыга. З 2002 года пачала ўдзельнічаць у зборных выстаўках. Працавала заўсёды толькі як вольны мастак — у майстэрні. Для выстаўкі "Закаханы садоўнік" мы спецыяльна рыхтаваліся, пісалі новыя работы, якія ствары́лі б у зале асаблівую атмасферу вясновай закаханасці, выклікалі светлыя пачуцці, затрымалі б у настроі вясну, захавалі адчуванне свята на доўгі час. Таму ў нашай экспазіцыі атрымалася столькі кветак. І тэма выстаўкі нібы раскрываецца праз райскі сад — месца, дзе заўсёды цёпла, хораша, радасна і ўтульна. Зразумела, што "Закаханы садоўнік" не дае аб'ектыўна поўнага ўяўлення пра нашу творчасць. Мастака натхняюць розныя рэчы, з'явы: або нешта прыгожае, або проста нейкая рэальная падзея, з нагоды якой пачынаюць раптам накручвацца нейкія вобразы і на палатне ўзнікаюць ужо больш значныя сэнсавыя пласты. У сваіх работах мне хочацца не апісваць або адлюстроўваць рэальнасць, а выказваць свае думкі з нагоды ўбачанага, перажытага — моваю жывапісу выявіць тое, што складана выказаць словамі.

Ганна Сілівончык ды Васіль Пешкун актыўна ўдзельнічаюць у выстаўках на радзіме і за мяжой (Венгрыя, Германія, Польшча, Расія...). Іх карціны, адметныя самабытным духам і незнарочыстым беларускім каларытам, запатрабаваныя на арт-рынку. Пішуць яны шмат і з ахвотай, таму, пакуль ёсць такая магчымасць, працуюць сёння як вольныя мастакі. Арандуюць у звычайным жылым доме двухпакаёвую кватэру і дзень пры дні працуюць там: кожны сам па сабе, у сваім пакоі-майстэрні. Паасобку. Але ўсё роўна — поруч.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Ганна Сілівончык і Васіль Пешкун падчас адкрыцця выстаўкі "Закаханы садоўнік" у сталічнай галерэі "Мастацтва"; работы Ганны "Удваіх з табой", "Салодкія сны", "Паводка" і Васіля — "Майскае сонца", "Блікі раніцы", "Палісад".

Фота Віктара Кавалёва



Яркімі культурна-асветніцкімі падзеямі папаўняецца штогод летапіс гісторыі свята нашага роднага слова. Непаўторную старонку дадасць у гэты летапіс і Дзень беларускага пісьменства-2011, сталіцай якога будзе горад Ганцавічы, адметны сваімі літаратурнымі традыцыямі.



# Завітайма ў Ганцавічы!

Якія звесткі дайшлі да нас са старажытнай гісторыі Ганцавіч — сучаснага раённага цэнтра, што месціцца на пінскім Палессі і знаходзіцца пры чыгуначнай лініі Баранавічы — Лунінец? На жаль, самыя розныя інфармацыйныя крыніцы, у тым ліку энцыклапедыі, сведчаць, што даўніх фактаў біяграфіі горада мала, пераважаюць "белыя плямы". Дакладна вядома, што ў другой палове XIX ст. гэта была вёска Слуцкага павета Мінскай губерні, уладанне графа С. Чапскага. Назва маёнтка і вёскі пайшла ад фальварка Ганцавічы, пра які згадваецца ў архіўных дакументах за 1773 год. Паходжанне самой назвы фальварка, які, паводле гіпотэзы краязнаўцаў, існаваў ужо ў канцы XVI — пачатку XVII ст., пакуль не ўстаноўленае.

Калі на гэтых землях разгарнулася будаўніцтва чыгунак, вёска атрымала статус мястэчка. А з адкрыццём руху па Палескіх чыгунках (1884) і пабудовай станцыі Ганцавічы ў наваколлі пачалася прамысловая распрацоўка і перапрацоўка лесу ды сыравіны для вытворчасці шкла. У 1888-м ва ўрочышчы Ельня маёнтка Ганцавічы пры чыгуначнай станцыі пінскі купец Вола Веніямін, якому было дазволена арандаваць у графа Чапскага 1/2 дзесяціны зямлі, запачаткаваў прыбытковую справу — паравы лесапільны завод. З дакументаў пра зацвярджэнне плана забудовы мястэчка пры станцыі Ганцавічы (24 — 30.10.1902) вынікае, што першапачатковы пасёлак быў закладзены ва ўрочышчы Ельня пры станцыі Ганцавічы Палескай чыгункі Круговіцкай воласці і што ўтварыўся ён у 1898 годзе — у выніку пабудовы завода Краеўскага і Столя, продажу лесу ў маёнтку Ганцавічы і Круговічы, а таксама ў маёнтку князя Радзівіла, размешчанага паблізу станцыі Ганцавічы і ўрочышча Ельня. Дарэчы, на шклозаводзе прамыславікоў Краеўскага і Столя выраблялася аконнае, люстэркавае і высакаякаснае "бемскае" (багемскае) шкло. Сыравінай забяспечвалі чатыры гуты, адкрытыя ў Ганцавічах. Толькі ў 1909 годзе завод адправіў спажыўцам 45 273 пуды (больш за 700 тон!) вырабаў са шкла. Працаваў у мястэчку і шэраг іншых прадпрыемстваў, пераважна — дрэваапрацоўчыя заводы, бо край быў багаты на высакаякасную драўніну. Неўзабаве пачалі "расці" жылыя памяшканні для рабочых і чыгуначнікаў. Так стваралася паселішча.

Будаўнічым аддзяленнем Мінскага Губернскага Праўлення ў 1902 г. быў зацверджаны план праектуемага мястэчка Ганцавічы пры чыгуначнай станцыі — на зямлі, што належала графу Гутэн-Чапскаму. Неабходнасць гэтага будаўніцтва тлумачылася гандлёва-эканамічнымі інтарэсамі мясцовага насельніцтва. Цікава, што граф Гутэн-Чапскі ў маёнтку Ганцавічы меў ва ўласнасці 5,3 тысячы дзесяцін зямлі (для параўнання: уладальнік маёнка Агарэвічы Карл Свяжынскі валодаў 17-,9 тыс. дзесяцін, а Яніна Патоцкая, гаспадыня Хатыніч, Малькавіч і Раздзялавіч, — 50,3 тыс. дзесяцін зямлі) і пад мястэчка (разам з зямлёй пад шклозаводам) ён адводзіў 79 дзесяцін: пад забудову, рынкавую плошчу, вуліцы, агульны выган, могілкі.



З 1921 па 1939 г. мястэчка Ганцавічы знаходзілася ў складзе Польшчы. Тут з'явіўся драўляны касцёл (1921), які згарэў з большай часткай мястэчка ў 1934-м. Для праваслаўнага насельніцтва дзейнічала вялікая царква, у распараджэнні іудзеяў былі дзве сінагогі. У Ганцавічах існавалі пошта, тэлеграф, некалькі прыватных гасцініц, рэстаран і кафэ, працавалі доктар і фельчар.

Пры савецкай уладзе быў утвораны Ганцавіцкі раён з цэнтрам у Ганцавічах (1940), а мястэчку нададзены статус гарадскога пасёлка, які з 6 снежня 1973 года стаў горадам. За паўкіламетра ад яго знаходзіцца колішняя сядзіба роду Падарэўскіх. У пазамінулым стагоддзі гэта быў сядзібна-паркавы ансамбль, які складаўся з сядзібнага дома, гаспадарчых пабудоў, парку. Ацалела ўязная ліпавая алея ды захаваўся драўляны аднапавярховы сядзібны дом Падарэўскіх, у якім цяпер размяшчаецца адна з мясцовых кантор.

З просьбай дапоўніць гістарычны партрэт чарговай сталіцы нашага свята свежымі штрыхамі, я звярнулася да выдатнага літаратара, шаноўнага майстра паэтычнага слова, супрацоўніка рэдакцыі "ЛіМа" Віктара Гардзея. Напэўна, для паэта, чыім імем назвалі адну з вуліц яго роднай вёскі, само слова — Ганцавічы — гучыць як музыка натхнення і ўспамінаў пра далёкія гады, блізкіх людзей, дарагія мясціны? Магчыма, паэт, народжаны ў гэтым краі, як ніхто іншы ўяўляе, чым здатны вылучыцца родны яму горад у шэрагу сталіц Дня беларускага пісьменства?.. Віктар Канстанцінавіч адказаў так:

— З часін свайго далёкага дзяцінства памятаю Ганцавічы ў трох абліччах: ціхае, малалюднае мястэчка ў пасляваенны час; гарадскі пасёлак з безліччу вежавых кранаў на гарызонце; сучасны шматпавярховы горад з добра спланаванымі шырокімі вуліцамі і ўтульнымі зялёнымі скверамі. Роднае беларускае слова тут ніколі не было ў заняпадзе, на Ганцаўшчыне, можа, як нідзе, любяць і паважаюць сваіх творцаў. У вёсцы Люсіна калісьці пачынаў настаўніцкі і пісьменніцкі шлях Якуб Колас, у вёсцы Чудзін адкрываў скарбы народнай мудрасці славуты этнограф і вучоны Аляксандр Сержпутоўскі. Зноў жа, у пасляваенны час на Ганцаўшчыне вырасла, узмужнела, набралася сіл для высокага палёту новае пакаленне творцаў: В. Праскураў, М. Рудкоўскі, І. Кірэйчык, М. Дубянецкі, М. Купрэеў, А. Кажадуб, А. Каско, Ул. Марук, М. Антаноўскі, К. Мохар, І. Лагвіновіч, А. Трафімчык, С. Локтыш, І. Дарафейчук, А. Кудласевіч, А. Таласкок.

У нас, на ганцавіцкім Палессі, надзвычай высокая духоўнасць. У самім горадзе за апошні час пабудаваныя два храмы — касцёл і царква Святога Ціхана, некалькі цудоўных цэркваў узведзена таксама ў навакольных вёсках: Хатынічах, Агарэвічах і іншых. На сваю малую радзіму заўсёды прыязджаю з вялікім хваляваннем. У маёй роднай вёсцы Малыя Круговічы адзначаліся абодва мае круглыя юбілеі, цяпер землякі запрашаюць на прэзентацыю маёй кнігі паэзіі "Трыадзінства". Часта бываю ў раённай і дзіцячай бібліятэках, праходзілі сустрэчы і ў школах. Увогуле, усе ганцавіцкія паэты годна ўшанаваныя. Так, сёлетняй вясной быў устаноўлены памятны знак Івану Кірэйчыку, ураджэнцу вёскі Гуты, з якой выйшаў і выдатны паэт Уладзімір Марук, чыя заўчасная смерць моцна ўзрушыла ганцаўчан.

Людзі тут сціплыя, працавітыя і ветлівыя. Гасцей свята яны абавязкова пачастуюць журавінамі, грыбамі ды іншымі палескімі прысмакамі. А яшчэ, калі пашанцуе, у ваколіцах Ганцавіч можна будзе пабачыць вялікія чароды белых буслоў, якія перад адлётам у вырай садзяцца на поле — можа, таму ў сучасны герб горада так прыгожа і міла "ўпісаліся" буслы.

Падрыхтавала
Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: будынак чыгуначнага вакзала; герб горада Ганцавічы; касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі (год пабудовы 1999); былы сядзібны дом Падарэўскіх; гарадская вуліца.



## У наступным нумары

Філалогія… Даслоўны пераклад наймення гэтай навукі – "словалюбства". У адрозненне ад вядомай чалавечай жарсці, словалюбства ўяўляецца як сфера найпаўнейшага зліцця з аб'ектам любові – словам і, адпаведна, адмаўлення ад сябе – у імя таго, пра што ты пішаш. С. Аверынцаў трактаваў філалогію як "службу разумення", а філолага як каментатара ў шырокім сэнсе гэтага слова. А. Міхайлаў, развіваючы думкі свайго паплечніка, пісаў аб надзённай патрэбе "адваротнага перакладу" ў мове культур і эпох. У кожнага гэтая мова розная, у кожнага яна свая, і даследчык, калі ён шчыры, мусіць дасканала авалодаць гэтай мовай і перадаць яе чытачу – перакладаючы яе на мову, зразумелую для сучасніка. Штотыднёвік "ЛіМ" далучаецца да гэтай пачэснай працы і прапануе свайму чытачу новую рубрыку "Ars philologica", дзе будуць змяшчацца артыкулы, прысвечаныя філалагічнай навуцы, падзеям у яе жыцці, агляды новых навуковых выданняў, анонсы канферэнцый і многае іншае.

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"

РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
наменік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3571
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 2.09.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 4281
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686